• выдаецца са жніўня 1917 г. БЕЛАРУСКАЯ ГАЗЕТА • цана 1000 рублёў

28 верасня 1996 г. субота, № 237-238 (23040-23041)



# ЗВЯЗДА

## ПАДРАБЯЗНАСЦІ

### 20 ТЫСЯЧ ТОН БУЛЬБЫ ДА НАШАГА СТАЛА

Менавіта столькі прадалі гаспадаркі для патрэб гандлю і прадпрыемстваў агульнага харчавання. За межы рэспублікі паехала каля 10 тысяч тон. Наогул, зараз уборка бульбы крыху прыпынілася — надвор'е не спрыяе, дажджы ідуць ужо амаль другі тыдзень. З лепшымі паказчыкамі па ўраджайнасці пакуль ідуць Брэстчына — 165 цэнтнераў з гектара і Гродзеншчына — 164, 8. Самая дробная бульба — на Віцебшчыне (115,2 ц/га).

Што датычыцца ўбраных плошчаў, то, як адзначаецца ў апошняй зводцы Мінсельгасхарча, гаспадаркі наблізіліся да паловы ад пасеянага — больш за сорак працэнтаў. А Магілёўская і Віцебская вобласці нават маюць паказчыкі 50,8 і 52,4 працэнта адпаведна. З палёў вывезена 748,6 тыс. тон бульбы. Безумоўны лідэр Міншчына — 266,8.

**Мікалай ЛІТВІНАЎ.**

### ВЫМІРАЕМ...

Згодна з прагнозам статыстычных устаноў насельніцтва Беларусі сёлета зменшыцца ў параўнанні з мінулым годам на 39 тысяч чалавек і будзе складаць не больш як 10.242 тысячы. Прычым гарадское насельніцтва мае нават прырост у 6 тысяч, а вясковае зменшыцца на 45 тысяч.

За бягучы год каэфіцыент нараджальнасці панізіўся з 9,8 да 9,1, а адпаведны паказчык смяротнасці ўзрос на 0,6.

Паказчыкі натуральнага прыросту насельніцтва адрозніваюцца адзін ад аднаго па рэгіёнах: так, па Брэсцкай вобласці перавышэнне колькасці нябожчыкаў над колькасцю народжаных складае больш як 4000 чалавек, а на Магілёўшчыне — больш як 7000.

Адпаведна змяняецца і ўзроставая структура насельніцтва: доля дзяцей і падлеткаў да 16 гадоў у агульнай колькасці насельніцтва складзе 22,8, а асоб пенсіённага ўзросту — 21,1 працэнта. Такім чынам, на тысячу чалавек у працаздольным узросце ў 1996 годзе будзе прыпадаць 785 непрацуючых. Даволі сумная статыстыка.

**Мікалай ЛІТВІНАЎ.**

### БЕЛЫЯ АЛІМПІЙСКІЯ ГУЛЬНІ НАПЕРАДЗЕ. «ЗЯЛЁНЫЯ» ПРАЦЯГВАЮЦЦА

**Пачалася раздача грашовых узнагарод, якія ўрад паабяцаў беларускім спартсменам — прызёрам Алімпійскіх гульняў у Атланце.**

Так, залаты медаль «каштаваў» 40 тысяч долараў ЗША, сярэбраны — 20 тысяч, а «бронза» пацягнула на 15 тысяч «зялёных». А паколькі нашы алімпійцы заваявалі ў Атланце 1 залаты, 6 сярэбраных і 8 бронзавых медалёў, агульная сума склала 280 тысяч долараў. 10 працэнтаў прэміяльных спартсмены атрымалі ў валюце яшчэ ў Амерыцы, а астатняе ім выплачвалі ўжо дома «зайцамі». Трэнеры свае «кроўныя» пакуль што і ў вочы не бачылі.

Дарэчы, большыя ганарары за прызавыя месцы былі паабяцаны толькі алімпійцам Ізраіля, Мексікі, Іспаніі, Расіі, Францыі і Аўстраліі. Не самая дрэнная кампанія.

**Алесь СІВЫ.**

### ПРЫСВОЕНА ГАНАРОВАЕ ЗВАННЕ

За вялікі ўклад у развіццё і прапаганду выяўленчага мастацтва мастаку-жывапісцу Івану Дмухайлу прысвоена ганаровае званне «Заслужаны дзеяч мастацтваў Рэспублікі Беларусь». Указ аб гэтым прыняў Прэзідэнт краіны Аляксандр Лукашэнка.

**БЕЛТА.**



### ФОТАСЛОВА

**Яўген ПЯСЕЦКІ**

Даражэюць кілаваты  
Хоць ты порткі, брат, прадай!  
Але ўжо не вінаваты  
Ані Кебіч, ні Камай.  
— Аб'ектыўныя працэсы, —  
Кажа цешча і дае

Мне сякеру, каб на ўзлессі  
Я успомніў аб зіме.  
Мы і самі, брат, з вусамі —  
Секчы дрэвы — мастакі.  
Толькі каб не засталіся  
У лясах адны... пянькі.

### ПРЭЗІДЭНТ БЕЛАРУСІ І ВІЦЭ-ПРЭМ'ЕР РАСІІ РАЗВЯЗВАЛІ «ВУЗЛЫ»

«Сённяшняя сустрэча дапаможа нам вызначыцца па многіх пытаннях», — заявіў Прэзідэнт Беларусі Аляксандр Лукашэнка ў пачатку перамоў з расійскай афіцыйнай дэлегацыяй на чале з віцэ-прэм'ерам Валерыем Сяровым. Яны адбыліся 27 верасня ў рэзідэнцыі кіраўніка дзяржавы.

Аляксандр Лукашэнка выказаў надзею, што беларуска-расійскі дыялог дапаможа зняць многія праблемы ў двухбаковым эканамічным супрацоўніцтве і развязаць шэраг вытворчых «вузлоў», дасць зарад для расшырэння далейшых кантактаў з выхадам на мікраўзровень.

Прэзідэнт краіны заклікаў удзельнікаў дзвюх дэлегацый да таго, каб у ходзе перамоў было «менш дыпламатыі, больш адкрытых дыскусій, якія адлюстроўваюць узаемавыгадныя інтарэсы двух брацкіх народаў».

У ходзе сустрэчы дасягнута дамоўленасць аб плацяжах. Паводле слоў Аляксандра Лукашэнкі, цяпер доўг Беларусі за расійскія пастаўкі складае прыкладна 120—150 мільёнаў долараў. Нядаўна з рэзервовага фонду Прэзідэнта на яго пагашэнне было выдзелена 20 мільёнаў долараў. Што ж датычыць астатняй сумы, то бакі абмеркавалі некалькі варыянтаў яе далейшай выплаты. Паводле слоў Прэзідэнта, гэтыя перамовы паказалі, што пазіцыі ўдзельнікаў сустрэчы па многіх пытаннях супадаюць.

Як адзначыў Аляксандр Лукашэнка, у гутарцы з расійскай дэлегацыяй абмяркоўвалася таксама і палітычная сітуацыя ў рэспубліцы. Прэзідэнт яшчэ раз пацвердзіў сваю гатоўнасць да кампрамісу. Ён падкрэсліў: галоўнае ў тым, што ў рэспубліцы захоўваецца спакойная абстаноўка, нягледзячы на супярэчнасці паміж Вярхоўным Саветам і Прэзідэнтам. «Я гатоў нават пасля выпадаў у мой адрас знайсці адпаведныя шляхі для нармалізацыі ўзаемаадносінаў», — сказаў у сувязі з гэтым Аляксандр Лукашэнка ў гутарцы з журналістамі.

**Ларыса ЛАЗАР, БЕЛТА.**

### МАШЫНАБУДАЎНІКАМ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ

Дарагія таварышы!

29 верасня 1996 года машынабудаўнікі Рэспублікі Беларусь адзначаюць сваё прафесіянальнае свята.

У складаных сацыяльна-эканамічных умовах удалося не толькі захаваць айчынны машынабудаўнічы комплекс, але і дзякуючы ініцыятыўным дзеянням кіраўнікоў, прадукцыйнай і якаснай працы рабочых, інжынерна-тэхнічных работнікаў, спецыялістаў і служачых галіны спыніць спад вытворчасці, павялічыць экспарт вырабляемай прадукцыі ў краіны далёкага і блізкага замежжа.

Шырокае распаўсюджванне атрымліваюць перадавыя тэхналогіі, сучасныя метады арганізацыі вытворчасці і гаспадарання.

Горача вітаю беларускіх машынабудаўнікоў, сардэчна віншую Вас, дарагія сябры, з прафесіянальным святам, жадаю моцнага здароўя, шчасця, дабрабыту ў сем'ях, павышэння ўкладу галіны ў эканоміку рэспублікі.

**Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь А.ЛУКАШЭНКА.**

### ПРЭЗІДЭНТ НЕ ТОЛЬКІ ПАДПІСВАЕ ЎКАЗЫ, АЛЕ І СТРОГА СОЧЫЦЬ ЗА ІХ ВЫКАНАННЕМ

Кіраўнік дзяржавы Аляксандр Лукашэнка заслухаў 26 верасня даклад начальніка Службы кантролю Прэзідэнта Мікалая Дамашкевіча аб ходзе выканання ўказаў кіраўніка дзяржавы, якія датычаць праблем своечасовасці выплаты зарплаты, стыпендый, аднаразовых дапамог і бесперабойнай работы камунальных службаў.

Як паведаміла БЕЛТА Галоўнае ўпраўленне грамадска-палітычнай інфармацыі Адміністрацыі Прэзідэнта, Аляксандр Лукашэнка, разгледзеўшы шматлікія скаргі жыхароў горада Барысава і Барысаўскага раёна аб фактах затрымкі выплаты зарплаты і неабгрунтаваным адключэнні халоднай і гарачай вады, асабліва ў ваенных гарадках Печы і Лядзіша, даў даручэнне Службе кантролю Прэзідэнта па праверцы кіраўніцкай дзейнасці мясцовых органаў улады. Аляксандр Лукашэнка запатрабаваў выявіць рэальныя прычыны сацыяльнай напружанасці ў гэтым буйным прамысловым рэгіёне рэспублікі.

Вынікі работы камісіі Службы кантролю будуць апублікаваны ў сродках масавай інфармацыі.

**БЕЛТА.**

## ПАРЛАМЕНЦКІ ДЗЁННІК

### ДЭПУТАТЫ ЗРАБІЛІ БЕЛТЭЛЕРАДЫЁКАМПАНІІ «МАНТАЖ»

**Тэма дзейнасці журналістаў і ўвогуле сродкаў масавай інфармацыі стала дамінуючай на пасяджэнні сесіі Вярхоўнага Савета 27 верасня.**

Пачала яе яшчэ ў «Розным» прадстаўніца камуністаў Алена Скрыган. Яна моцна абурылася выступленнем свайго калегі па фракцыі Ігара Катлярова, якое прагучала напярэдадні ў праграме «Панарама» беларускага тэлебачання, дзе той вельмі негатыўна ацаніў дзейнасць і прафесіянальныя здольнасці як асобных дэпутатаў, так і ўсяго парламента ўвогуле. Алену Скрыган падтрымаў і Сяргей Шпакаў, які таксама рэзка ацаніў выступленне Катлярова, назваўшы яго зневажальным. Вядома, пасля такой атакі вінаваты не мог не адказаць на рэплікі парламентарыяў. Ігар Катляроў паведаміў, што стаў ахвярай рэжысёраў тэлебачання, якія, выкарыстоўваючы мантаж, далі ў эфір толькі частку яго двухгадзіннага выступлення на сустрэчы з выбаршчыкамі ў Акадэміі фізвыхавання, прычым толькі тыя словы, дзе ён выказваў крытыку ў адрас Вярхоўнага Савета. З гэтай нагоды Катляроў папрасіў прабачэння ў сваіх калег за тое, што яго не так падалі СМІ. Праўда, Станіслаў Шушкевіч на гэта адказаў, што трэба ведаць спецыфіку работы Беларускага тэлебачання і не дазваляць сабе такіх непрыстойных выразаў, якія прагучалі з вуснаў дэпутата. Шушкевіч прапанаваў вызваліць Катлярова ад пасады старшыні Камісіі па правах чалавека і СМІ.

Невядома, чым бы закончылася гэтая перапалка, калі б увага дэпутатаў не пераключылася наогул на дзейнасць Белтэлерадыёкампаніі. Вячаслаў Герасіменка прапанаваў пазбавіць журналістаў кампаніі акрэдытацыі ў Вярхоўным Савеце за тое, што БТРК не выконвае палажэнняў Закона «Аб друку і іншых СМІ» і Пастановы Вярхоўнага Савета «Аб парадку асвятлення СМІ работы другой сесіі Вярхоўнага Савета». Як вядома, пытанне гэтае яшчэ па прапанове Івана Цярэшкі раней было ўключана ў парадак дня, таму дэпутатаў доўга прасіць не давялося. У выніку без асаблівых спрэчак адпаведная пастанова была прынята. У ёй выказваюцца патрабаванні да Прэзідэнта прыняць меры па выкананню тэлерадыёкампаніяй і іншымі СМІ патрабаванняў Канстытуцыі, законаў і пастаноў Вярхоўнага Савета, даручэнне Генеральнаму пракурору ажыццявіць меры пракурорскага рэагавання па фактах парушэнняў, ануляванне акрэдытацыі журналістаў і тэхнічных супрацоўнікаў тэлерадыёкампаніі «за сістэматычнае неаб'ектыўнае, тэндэнцыйнае асвятленне пасяджэнняў Вярхоўнага Савета» і прапанавана Старшыні Вярхоўнага Савета звярнуцца да кіраўнікоў расійскіх СМІ з просьбай удзяляць больш увагі дзейнасці беларускага парламента. Дарэчы, пасля заканчэння пленарнага пасяджэння сесіі Іван Цярэшка нават склікаў прэс-канферэнцыю з нагоды прыняцця пастановы.

Яшчэ адным пытаннем журналісцкага характару стала вырашэнне лёсу галоўнага рэдактара «Народнай газеты». Як вядома, Вярхоўны Савет, абмяркоўваючы складаную сітуацыю, звязаную з акцыяніраваннем выдання, яшчэ на першай сесіі прызначыў галоўным рэдактарам дэпутата Леаніда Юнчыка. Учора ж парламентарыі ўнеслі ў папярэднюю пастанову яшчэ адзін пункт, згодна з якім Л. Юнчык заступае на пасаду з першага кастрычніка сёлетняга года.

Што ж датычыцца заканадаўчай дзейнасці парламента, то ўчора разглядаліся папраўкі і дапаўненні ў Закон «Аб бюджэтнай сістэме ў Рэспубліцы Беларусь».

Наступныя пленарныя пасяджэнні сесіі адбудуцца праз тыдзень. Да таго дэпутаты будуць працаваць у сваіх выбарчых акругах.

**Юрась ЛЯШКЕВІЧ.**

### ЗГАДЗІЛІСЯ НА «НУЛЯВЫ ВАРЫЯНТ»

**Як вядома, у адказ на намер Прэзідэнта Беларусі Аляксандра Лукашэнкі ўнесці ў цяперашнюю Канстытуцыю Рэспублікі Беларусь шэраг змяненняў і дапаўненняў дэпутаты фракцый аграрыяў і камуністаў прапанавалі сваю альтэрнатыўную рэдакцыю Канстытуцыі.**

20 верасня Вярхоўны Савет Беларусі прыняў зварот да Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь і дэпутатаў парламента, якія ініцыіравалі разгляд на рэспубліканскім рэферэндуме змяненняў і дапаўненняў у Канстытуцыю 1994 года. ВС прапанаваў абодвум бакам разгледзець магчымасць адклікання сваіх праектаў Канстытуцыі.

І вось гэты зварот, здаецца, не застаўся непачутым. Група дэпутатаў Вярхоўнага Савета Беларусі выступіла з заявай.

«Падзяляючы непакой сваіх выбаршчыкаў за будучыню сваёй Айчыны, адзначаецца ў дакуменце, згодны з прапановамі, выкладзенымі ў звароце Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь, і заяўляем аб гатоўнасці адклікаць сваю ініцыятыву па вынясенню на рэспубліканскі рэферэндум змяненняў і дапаўненняў у Канстытуцыю Рэспублікі Беларусь 1994 года і заклікаем Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь таксама праявіць добрую волю. Пад дакументам паставілі подпіс 84 дэпутаты.

**Сяргей ПРОТАС.**

### АДНЫМ СКАЗАМ

Сёння ў Беларусі 73.518 сем'яў выхоўваюць **траіх дзяцей** ва ўзросце да 18 гадоў, **чацвярых** — 16.782, а **пяцярых** і больш — 10.247.

Запасы гатовай прадукцыі на складах прадпрыемстваў па стану **на 1 чэрвеня** складалі 10.744 мільярды рублёў, **на 1 ліпеня** — 10.794 мільярды, **на 1 жніўня** — 11.319 мільярдаў, **на 1 верасня** — 10.743 мільярды рублёў.

У жніўні **ў паліўнай прамысловасці** адбылося зніжэнне вытворчасці прадукцыі на 12,9 працэнта, **здабыча нафты** скарацілася на 3,7 працэнта.

З 1961 года па 1995 год уключна **былі асуджаны** 1 мільён 83 тысячы 977 чалавек, з іх **былі пазбаўлены волі** 405 тысяч 349 чалавек.

Большая частка **запазычанасці** па зарплаце прыпадае на саўгасы і калгасы: больш як 50 працэнтаў ад агульнай сумы.

На прадпрыемствах Міністэрства прамысловасці пры спадзе аб'ёмаў вытворчасці за апошнія тры гады на 39,8 працэнта **спажыванне энергіі знізілася** на 63,2 працэнта.

У **дарослых мужчын** перавышэнне масы мозгу ў параўнанні з жаночай складае каля 100 грамаў.

Колькасць злачынстваў, **якія ўчынены ў рэспубліцы наркаманамі** за пяцігоддзе ўзрасла амаль у 15 разоў.

## ЗА МЯЖУ — З КАМФОРТАМ І СПАКОЙНАЙ ДУШОЙ?

**Як вядома, на тэрыторыях усіх чыгуначных адміністрацый краін—удзельніц Садружнасці дзейнічаюць Правілы праезду пасажыраў у паяздах, распрацаваныя і зацверджаныя яшчэ Міністэрствам шляхоў зносінаў СССР 1988 года для ўсёй сеткі чыгункі былога Саюза.**

Нядаўна ў Юрмале на 16-м пасяджэнні Савета па чыгуначнаму транспарту зацверджаны новыя правілы, якія ўводзяцца ў дзеянне з 1 студзеня 1997 года. Растлумачыць іх я папрасіў начальніка аддзела развіцця паслуг і абслугоўвання пасажыраў Беларускай чыгункі Уладзіміра Столяра, які быў удзельнікам юрмальскага пасяджэння:

— У сувязі з падзелам сеткі чыгункі паміж створанымі на тэрыторыі былога СССР незалежнымі дзяржавамі ўзнікла неабходнасць перапрацаваць Правілы праезду пасажыраў у паяздах. У іх па-новаму выкладзены абавязкі чыгунак па забеспячэнню бяспекі пасажыраў, стварэнню ім неабходных выгод, культурнаму абслугоўванню ў дарозе. Уведзена таксама паняцце паяздоў міждзяржаўных зносінаў, унесены карэктывы, звязаныя з забаронай пасажыру ствараць перашкоды для работы паязднóй брыгады, мытнага і пагранічнага кантролю.

Трэба сказаць, што правы пасажыраў не так значна змяніліся, але я хацеў бы ўсё ж нагадаць некаторыя моманты, якіх пасажыры або не ведаюць, або забываюць. Напрыклад, аб сваім праве зрабіць у паездцы адзін прыпынак з працягам тэрміну дзеяння білета ў адным пункце не больш чым на 10 сутак. Але з абавязковым прад'яўленнем білета для адзнакі аб гэтым у адміністрацыі станцыі ці вакзала. Вы таксама можаце ў паездцы перайсці ў вагон вышэйшай катэгорыі, калі ў ім будуць свабодныя месцы. Правозіць ручную паклажу да 36 кілаграмаў. Наогул да правозу багажу патрабаванні сталі больш жорсткімі: ручная паклажа павінна размяшчацца толькі на прызначаных для гэтага месцах, каб выключыць загрувашчванне ёю тамбураў і калідораў вагона, праходы ў купэ і не ствараць нязручнасці і небяспеку для іншых пасажыраў.

**Уладзімір ЦАСЮК.**

## УРАД ЗАЦВЕРДЗІЎ УЗОРЫ НОВЫХ ПАШПАРТОЎ

У адпаведнасці з Указам Прэзідэнта краіны аб зацвярджэнні эталона Дзяржаўнага герба і Палажэння аб Дзяржаўным гербе Кабінет Міністраў пастанавіў зацвердзіць узоры новага пашпарта грамадзяніна Рэспублікі Беларусь, а таксама службовага і дыпламатычнага пашпартоў і іх апісання.

Прызнана, што страцілі сілу Пастанова Савета Міністраў ад 14 ліпеня 1993 года «Аб зацвярджэнні Палажэння аб пашпарце грамадзяніна Рэспублікі Беларусь, узору гэтага пашпарта і апісання яго» ў частцы ўзору і апісання пашпарта, а таксама пункт 1 Пастановы ўрада ад 3 студзеня 1994 г. «Аб зацвярджэнні Палажэння аб дыпламатычным і службовым пашпартах грамадзян Рэспублікі Беларусь, узораў і апісанняў гэтых пашпартоў» у частцы іх узораў і апісанняў.

**БЕЛТА.**

## ТБШ запрашае за «круглы стол»

Нарэшце зарэгістравана Таварыства беларускай школы імя Браніслава Тарашкевіча. Для цікаўных: канцылярыя ТБШ размясцілася ў будынку сталічнай СШ № 2, што па праспекце Ракасоўскага. Кантактныя тэлефоны — 248-32-02 і 232-47-01.

Нагадаем, што гэта грамадская арганізацыя, у састаў якой уваходзяць пераважна бацькі вучняў і настаўнікі, мае на мэце спрыяць патрыятычнаму выхаванню дзяцей ад дзіцячага садка да ВНУ ўключна. Як паведаміў «Звяздзе» віцэ-прэзідэнт ТБШ Алесь Лозка, пакуль ідзе актыўнае фарміраванне суполак таварыства ў рэгіёнах Беларусі. Што да бліжэйшых планаў, то ўжо на пачатку лістапада таварыства плануе арганізаваць «круглы стол» і абмеркаваць за ім прапанаваную нядаўна канцэпцыю рэформы агульнаадукацыйнай сярэдняй школы. Да ўдзелу запрашаюцца ўсе зацікаўленыя грамадскія арганізацыі без выключэння.

**Сяргей ГРЫБ.**

## СТАБІЛЬНАСЦЬ ГРАМАДСТВА — ГЭТА СТАБІЛЬНАСЦЬ КАНСТЫТУЦЫІ

«У сённяшніх умовах канстытуцыйны рэферэндум праводзіць нельга», — пераканаы старшыня Канстытуцыйнага суда Беларусі Валерый Ціхіня. Аб гэтым ён заявіў 27 верасня на прэс-канферэнцыі, якая была арганізавана з нагоды прыняцця КС прапаноў да Прэзідэнта і Вярхоўнага Савета.

Сутнасць прапаноў заключаецца ў тым, каб Прэзідэнт і дэпутаты Вярхоўнага Савета, якія ўнеслі два альтэрнатыўныя праекты змен у Канстытуцыю, адклікалі іх. Акрамя таго Канстытуцыйны суд прапанаваў Прэзідэнту і парламенту прыкласці ўсе намаганні для стабілізацыі канстытуцыйнай законнасці, будаваць адносіны выключна на аснове дзеючай Канстытуцыі і законаў. І яшчэ адна немалаважная прапанова суддзяў — не прымаць у бліжэйшы час спроб змянення Асноўнага закона.

Спецыфіка ж сённяшніх умоў, па словах Ціхіні, заключаецца ў тым, што, па-першае, амаль усе агульнарэспубліканскія СМІ манапалізаваны выканаўчай уладай; па-другое, адсутнічае прававая культура, а ва ўсіх эшалонах грамадскага жыцця гаспадарыць прававы нігілізм; па-трэцяе, па выніках сацыялагічных даследаванняў, большасць грамадзян не ведаюць зместу праектаў паправак і дапаўненняў у Канстытуцыю. У гэтых умовах, як сказаў сп. Ціхіня, прапануемы рэферэндум не згуртуе беларускі народ, а, наадварот, расколе на прыхільнікаў і праціўнікаў канстытуцыйных змен. Таму дзеля спакою і стабільнасці ў грамадстве ад рэферэндуму трэба адмовіцца. «Стабільнасць у грамадстве забяспечваецца стабільнасцю Асноўнага закона», — падкрэсліў старшыня КС.

«У нас няма падстаў для «капітальнага рамонту» Канстытуцыі. Мы можам ганарыцца ёю, паколькі яна адпавядае сусветным стандартам, хаця і патрабуе пэўных «касметычных» паправак. Аб канстытуцыйным крызісе ў асноўным у нас гавораць зараз тыя, хто парушае Канстытуцыю. Яны хочуць такім чынам апраўдаць свае дзеянні», — заявіў В. Ціхіня. Старшыня суда нагадаў, што па прапанове Сямёна Шарэцкага суд узбудзіў справу, каб высветліць, ці з'яўляюцца праекты змен і паправак па сутнасці новымі Канстытуцыямі. Не імкнучыся забегчы наперад падзей, сп. Ціхіня заўважыў, што калі такое будзе даказана, то КС будзе кіравацца ч. 2 арт. 149 Канстытуцыі Беларусі, які забараняе правядзенне рэферэндуму.

Адказваючы на пытанні журналістаў, сп. Ціхіня абверг інфармацыю, быццам бы ён, будучы дэпутатам, не галасаваў за сённяшнюю Канстытуцыю. Акрамя таго, ён пацвердзіў, што застаецца прыхільнікам парламенцкай рэспублікі як больш дэмакратычнай формы кіравання дзяржавай у параўнанні з прэзідэнцкай рэспублікай.

**Юрась ЛЯШКЕВІЧ.**

## ДА НАС ПРЫЕДЗЕ ПАНІ ФІШЭР

Плён удзелу беларускіх дэпутатаў у сесіі ПАСЕ відавочны, але не адназначны. Перш за ўсё ён не наблізіў Беларусь да ўступлення ў Савет Еўропы, якога мы чакаем чацвёрты год і засталіся адзінай неваюючай дзяржавай Еўропы па-за СЕ. Натуральна, што гэта адбываецца не па віне дэпутатаў ВС, што прадстаўляюць РБ у ПАСЕ: Ю. Малумава, П. Краўчанкі, С. Калякіна, А. Лябедзькі, В. Шаршунова. Прычына прамаруджвання ў руху нашай заяўкі — абвастрэнні ўнутрыпалітычнай сітуацыі ў РБ у сувязі з рэферэндумам па Канстытуцыі.

Але нават і без таго, калі б усё было ў норме, то не раней, чым будучай вясной, нам нерэальна было б чакаць прыёму ў СЕ — проста з-за працэдурных праблем. Цяпер, як далі зразумець нашым дэпутатам, уступленне РУ у СЕ будзе зацягвацца.

Аднак гэта не азначае, што СЕ адмаўляецца супрацоўнічаць з Беларуссю. Наадварот, тут яўна вырасла цікавасць да РБ, у тым ліку і дзякуючы нашым дэпутатам, якія востра апісвалі праблемы станаўлення дэмакратыі ў РБ падчас двух пасяджэнняў Камітэта ПАСЕ па сувязях з краінамі — нячленамі СЕ, у палітычных групах.

У выніку гэтых сустрэч на нарадзе кіраўнікоў палітычных груп было прынята рашэнне аб візіце ў Мінск іх прадстаўнікоў разам з прэзідэнтам ПАСЕ Лені Фішэр у кастрычніку г. г.

Ю. Малумаў перадаў Л. Фішэр два праекты Канстытуцыі, што выносяцца ў нас на рэферэндум. А дэпутаты С. Калякін, П. Краўчанка і А. Лябедзька звярнуліся з афіцыйнай просьбай да Л. Фішэр зрабіць заключэнне экспертаў СЕ гэтых праектаў, удзяліўшы асаблівую ўвагу прынцыпу падзелу ўладаў і адпаведнасці міжнародным стандартам, — да 15 кастрычніка 1996 года. Такім чынам, яшчэ да рэферэндуму, магчыма будзе дадзена экспертнае заключэнне СЕ.

Важна адзначыць вялікую ўвагу да Беларусі з боку Камітэта па сувязях з краінамі - нячленамі, які выпрацаваў спецыяльную рэзалюцыю, дзе канстатуецца складаная ўнутрыпалітычная сітуацыя ў РБ, парушэнні свабоды СМІ і правоў чалавека і робіцца выснова, што ў выніку ўскладнення сітуацыі магчыма замарожванне беларускай заяўкі. Расійская заяўка, памятаем, замарожвалася з-за Чачні.

— Калі ў Беларусі ўсталюецца дыктатура, знішчыцца парламентарызм, дык шукайце іншую арганізацыю, дзе б вас прынялі, — было зазначана нашым дэпутатам на пасяджэнні Камітэта па сувязях з краінамі — нячленамі СЕ. Гэта, вядома, эмацыянальная ацэнка, але з ёю трэба лічыцца. Такім чынам, мы можам чакаць візіту вельмі прадстаўнічай дэлегацыі СЕ з на чале з Лені Фішэр, актуалізацыі нашай праблематыкі ў СЕ і ўтрасаць нашы ўнутраныя праблемы, азіраючыся не толькі на Усход, як у нас павялося, але і на Захад.

**Валер КАЛІНОЎСКІ,**
**спец. кар. «Звязды».**
*г. Страсбург.*

## КАБ ЗАХАВАЦЬ МАЁМАСЦЬ

Як захаваць маёмасць кватэры, дома, офіса, гаража ад доўгіх рук зламыснікаў, не звяртаючыся да паслуг амбарнага замка, ахоўнікаў ці вартавога сабакі? Правільна, трэба скарыстаць прафесіянальныя сістэмы аховы і відэаназірання. І тады ў вас не будзе балець галава. Якія сістэмы аховы найбольш надзейныя і простыя ў рабоце?

Адказ на гэтае і многія іншыя пытанні, якія датычыліся забеспячэння захаванасці дзяржаўнай і асабістай уласнасці, можна было пачуць на семінары, «C&K Systems, Inc», які прайшоў нядаўна ў Мінскім міжнародным адукацыйным цэнтры. Арганізатарам сустрэчы з прафесіянальнымі работнікамі сістэмы аховы рэспублікі і прадстаўнікоў банкаўскіх структур стала сумеснае беларуска-амерыканскае прадпрыемства «Сатурн-Інфо» і Галоўнае ўпраўленне службы аховы МУС РБ. Дарэчы, указанае СП — даволі вядомая ў Беларусі фірма, якая вось ужо больш як тры гады забяспечвае наш рынак тэхнічнымі сродкамі бяспекі, пастаўляючы якасны ліцэнзаваны прадукт вядомай амерыканскай кампаніі «C&K Systems» — сусветнага лідэра па вытворчасці ахоўнага абсталявання.

Цікава, што да гэтых пор беларускі рынак запаўняўся пераважна замежнымі сродкамі аховы, хоць з боку «Сатурн-Інфо» былі памкненні наладзіць іх вытворчасць і ў Беларусі, што дазволіла б не толькі атрымліваць больш таннае абсталяванне, але і адкрыць шэраг рабочых месцаў. Здаецца, гэтыя мары хутка стануць рэальнасцю, паколькі з некаторымі айчыннымі прадпрыемствамі СП мае дамоўленасць аб выпуску ў рэспубліцы пэўных відаў сродкаў бяспекі, у прыватнасці, інфрачырвонага датчыка XJ 450, датчыка разбівання шкла FG 730, дуальнага датчыка DT 420 і кантрольна-прыёмнай панелі SYS 238.

На думку дырэктара СП «Сатурн-Інфо» Уладзіслава Рачкевіча, гэта толькі пачатак паспяховай работы з дзяржаўнай службай аховы, якая высока ацаніла работу сумеснага беларуска-амерыканскага прадпрыемства і намеціла рэальныя перспектывы супрацоўніцтва з ім на будучае.

**Уладзімір ЗДАНОВІЧ.**

## ГАЛОЎНАЯ МЭТА ВІЗІТУ Ў СТРАСБУРГ — ПАШЫРЭННЕ ІНФАРМАЦЫЙНАЙ ПРАСТОРЫ БЕЛАРУСІ

**Пра гэта на ўчарашняй сустрэчы з журналістамі ў грамадскім прэс-цэнтры ў Доме прэсы гаварыў старшыня Дзяржкамдруку Рэспублікі Беларусь Уладзімір Бельскі. Ён паўстаў перад работнікамі сродкаў масавай інфармацыі яшчэ і ў новай ролі — як член Міжведамаснага Савета па супрацоўніцтву з Саветам Еўропы, кіраўнік рабочай групы па сродках масавай інфармацыі.**

Якім жа аказаўся плён паездкі старшыні Дзяржкамдруку ў Страсбург. Безумоўна, пачатак візіту суправаджаўся пэўнымі сумненнямі, магчыма і пэўным пачуццём страху. Занадта шмат размоў пра зацісканне свабоды ў беларускіх сродках масавай інфармацыі.

У. Бельскі зазначыў, што вынікамі візіту ў Савет Еўропы з'явіцца ў самым хуткім часе пашырэнне міжнародных кантактаў беларускіх журналістаў. Мяркуецца, што двойчы на год дэлегацыя з 5-6 супрацоўнікаў будзе наведваць Савет Еўропы. У самы бліжэйшы час пабачыць свет газета «Беларуская прэса» (на адной з замежных моў). Задача новага выдання — прадстаўленне нашай краіны ў свеце.

Ёсць дамоўленасці па ўключэнню Беларусі ў інфармацыйную камп'ютэрную сетку Савета Еўропы. Адзін з вынікаў паездкі — дасягненне дамоўленасці наконт друкавання беларускіх кніг за мяжою. Пашырыцца праца і па прыняццю міжнароднай інфармацыі на Беларусі. Дзяржкамдрук збіраецца адчыніць у Мінску кнігарню «Замежная кніга». Ёсць і іншыя задумкі. Безумоўна, усё гэта патрабуе сродкаў. Улічваючы паразуменне ў дыялогах у Страсбургу, спадар Бельскі спадзяецца на падтрымку замежных інвестараў.

**Алесь КАРЛЮКЕВІЧ.**

*КРЫМІНАЛ*

## АРЫШТАВАНА РАЗБОЙНАЯ ТРОЙЦА

Як нам паведаміў старшы памочнік Генеральнага пракурора Аляксей Таранаў, 27 верасня пракурорам Кіраўскага раёна Магілёўскай вобласці Аляксандрам Архіпавым санкцыяніраваны арышт трох жыхароў г. Бабруйска — Ю. Сідарэнкі, 1965 г. н., А. Папова, 1972 г. н., С. Сцяпанава, 1973 г. н., затрыманых супрацоўнікамі АМОНа пры разбойным нападзе з прымяненнем зброі на аўтамашыну «МАЗ» паблізу вёскі Падрэч Кіраўскага раёна.

Указаныя асобы падазраюцца ў неаднаразовых разбойных нападах на аўтамашыны, якія ехалі ў Прыбалтыку, Расію і іншыя краіны СНД. Следства па справе будзе праводзіцца пракуратурай.

## «ВЫБУХ» КРАДЗЯЖОЎ

Калі знаёмішся з аператыўнымі зводкамі Міністэрства ўнутраных спраў, то раённая статыстыка злачынстваў і здарэнняў мае свае адметныя асаблівасці ў параўнанні з гарадской. Мінулыя вераснёўскія суткі ў Мінскай вобласці, як, між іншым, і ў астатніх, адметныя «выбухам» крадзяжоў. Па сутнасці, яны і складаюць пэўную частку штодзённага злачыннага букета.

На Вілейшчыне ў вёсцы Давыдкі была абкрадзена мясцовая крама. Злодзей паквапіўся на цукар, пячэнне, кансервы, іншыя харчовыя тавары. Ён затрыманы і зараз знаходзіцца ў ізалятары часовага ўтрымання.

Такі ж лёс напаткаў рабочых саўгаса «Савецкі», якія ўкралі з аўтамабіля карбюратар і размеркавальнік запальвання, двух непрацуючых, якія ўкралі 2 мяшкі ячменю і 2 кілаграмы цукру з хаты рабочага саўгаса «Мінскі». На палетках гэтай жа гаспадаркі быў злоўлены і мясцовы жыхар, які ўкраў 506 кілаграмаў капусты. Работнікі міліцыі Маладзечна хутка адгукнуліся на заяву гараджанкі Ж., у якой з двара ўласнага дома была ўкрадзена бялізна. Зладзеі затрыманы і чакаюць прысуду.

**Уладзімір ГОРНЫ.**

## ВЫСТРАЛ З «МАШЫНЫ-ПРЫВІДУ»

Паведамленне а дванаццатай гадзіне з «хуткай» у горадзе Асіповічы, куды паступіла з агнястрэльнымі раненнямі калена дзевятнаццацігадовая дзяўчына, падняло на ногі ўсіх супрацоўнікаў мясцовага ГРАУС. Са слоў яе знаёмага, які і выклікаў «хуткую дапамогу», яна была падстрэлена на вуліцы з аўтамашыны з патушанымі фарамі, якая праязджала міма. Аналагічную версію выказала супрацоўнікам міліцыі і пацярпеўшая.

Але ўжо да пачатку наступнага дня стала ясна, што блытаныя паказанні пацярпеўшай і хлопца не вытрымліваюць ніякай крытыкі. А праведзеная судова-медыцынская экспертыза цалкам разбівала першапачатковую версію: згодна з ёй, такое раненне магло быць прычынена толькі ў тым выпадку, калі б дзяўчына ляжала на зямлі ці колы аўтамашыны знаходзіліся на ўзроўні яе галавы.

Пасля паўторных допытаў пацярпеўшай і сведкі праўда выплыла на свет: не было ніякай машыны і начнога выстралу невядомага зламысніка. А раненне дзяўчына атрымала дома ў свайго сябра, які пахваліўся ёй вырабленым ім самім пісталетам. Вось зброя неспадзявана і выстраліла. У печцы дома, дзе пражывае хлопец, знойдзены і рэчавы доказ — «самапал» з абгарэлай драўлянай рукаяткай, прыстасаваны для стральбы малакаліберпымі патронамі. Аднаму з удзельнікаў гэтай гісторыі давядзецца адказваць «па поўнай праграме» за выраб і захоўванне такой «цацкі».

**Віктар КУПРЭЕЎ,**
**старшы інспектар прэс-групы УУС Магілёўскага аблвыканкома.**

*СЛУЖБА ДАІ*

## НЕ СПРАВІЎСЯ З КІРАВАННЕМ...

З пачатку года па віне вадзіцеляў транспартных сродкаў у Мінску ўчынена больш як 170 дарожна-транспартных здарэнняў, у якіх 24 чалавекі загінулі і 193 атрымалі раненні рознай цяжкасці. У тым ліку па віне нецвярозых вадзіцеляў учынена 39 аўтатрагедый, у якіх 12 чалавек памерлі і 47 прычынены цялесныя пашкоджанні. 46 здарэнняў адбылося з-за перавышэння скорасных рэжымаў руху.

Сёння кожнаму вадзіцелю не лішне будзе напомніць, што правільны выбар скорасці руху з'яўляецца важнейшым рэзервам павышэння бяспекі на дарогах.

Статыстыка паказвае, што 40 працэнтаў наездаў на перашкоду і пешаходаў адбываецца з-за пратэрмінаванай дзесятай долі секунды і з'яўляецца «трагедыяй некалькіх метраў», якія праехаў аўтамабіль за гэтыя долі секунды.

Час рэакцыі вадзіцеляў на тармажэнне вагаецца ад 0,45 да 1,5 секунды і залежыць ад стажу работы, стану здароўя, самаадчування і г.д. Пры адцягванні ўвагі, асляпленні, ужыванні алкаголю час рэакцыі павялічваецца ў 2—4 разы.

Вучоныя даказалі, што пасля ўжывання 100—150 грамаў гарэлкі з-за няўвагі і замаруджвання рэакцыі вадзіцеля верагоднасць дарожна-транспартных здарэнняў павялічваецца ў 55 разоў.

У 2 гадзіны ночы нідзе не працуючы Д. Нутан, кіруючы аўтамабілем «Жыгулі» без вадзіцельскага пасведчання і будучы ў стане алкагольнага ап'янення па вуліцы Сурганава ўчыніў наезд на стаячую аўтамашыну МАЗ. У выніку «тарана» вадзіцель і яго нецвярозы пасажыр дастаўлены ў бальніцу з цялеснымі пашкоджаннямі.

У другой гадзіне дня ў добрым падпітку работнік газанапаўняльнай станцыі № 5 П. Гунько, кіруючы аўтамашынай «Масквіч» па мінскай кальцавой дарозе, не справіўся з кіраваннем, выехаў на паласу сустрэчнага руху, дзе сутыкнуўся з аўтамашынай «Запарожац». У выніку аварыі пацярпелі двое, прычым вадзіцель «Запарожца» з пераломам абодвух клубоў змешчаны ў бальніцу хуткай медыцынскай дапамогі.

Упраўленне ўнутраных спраў Мінгарвыканкома вырашыла ўстанавіць жорсткі кантроль за захаваннем вадзіцелямі скорасных рэжымаў на асноўных магістралях горада, выкарыстоўваючы для гэтых мэт увесь наяўны патрульны транспарт і вымяральнікі скорасці. За ўказаныя парушэнні правілаў дарожнага руху будуць прымяняцца максімальныя адміністрацыйныя санкцыі з абавязковым накіроўваннем вадзіцеляў на экспертызу правілаў дарожнага руху.

Нясенне службы нарадаў міліцыі будуць набліжаны да абазначаных пешаходных пераходаў і рэгулюемых скрыжаванняў. Пры нясенні службы асаблівая ўвага будзе звяртацца на строгае захаванне вадзіцелямі патрабаванняў сігналаў светлафораў і пропуску пешаходаў на нерэгулюемых пераходах.

**Мікалай ВАСІЛЬЕЎ,**
**супрацоўнік ДАІ пры УУС Мінгарвыканкома.**

# Як адзін малады чалавек пасадзейнічаў збыту прадукцыі шклозавода «Нёман»

**«ВІЗІТНАЯ КАРТКА» Калініна Юрыя Алегавіча: 26 гадоў, грамадзянін Расіі, жыхар горада Калінінграда, адукацыя сярэдняя, нежанаты. У недалёкім мінулым — супрацоўнік Калінінградскай мытні, прыватны прадпрымальнік. Сёння і на бліжэйшыя 10 гадоў — «пастаялец» папраўча-працоўнай калоніі ўзмоцненага рэжыму, куды трапіў пасля ўмяшання ўпраўлення КДБ па Гродзенскай вобласці і суда Лідскага раёна за крадзеж маёмасці ў асабліва буйных памерах шляхам махлярства. Вінаваты 598.046.046 рублёў шклозаводу «Нёман» плюс 59.804.040 рублёў дзяржпошліны — беларускай дзяржаве. У якасці кампенсацыі ў яго канфіскаваны аўтамашына «Опель-Рэкорд», электронная запісная кніжка, 100 тысяч польскіх злотых, 24.600 расійскіх рублёў і 1 долар ЗША.**

Свой першы дзелавы візіт у горад Бярозаўка Лідскага раёна Юрый Алегавіч нанёс у красавіку 1995 года. Ні мясцовыя ўлады, ні кіраўніцтва тутэйшага шклозавода «Нёман» яго да сябе не клікалі, а таму з хлебам-соллю ды фуршэтам не сустракалі. Ніхто тады не ведаў, чым адгукнецца для славутага прадпрыемства са шматгадовай гісторыяй знаёмства з гэтым маладым камерсантам. Але аб усім па парадку.

Красавіцкае наведванне Бярозаўкі расійскі госць завяршыў тым, што купіў у магазіне шэраг вырабаў «Нёмана». Затым гэтыя ўзоры былі накіраваны германскай фірме, з прадстаўніком якой Калінін пазнаёміўся, працуючы на мытні. Неўзабаве фірма паведаміла Юрыю Алегавічу, што бярозаўская прадукцыя попыт у Германіі знойдзе. А значыць, можна браць, як гаворыцца, быка за рогі. Што і было зроблена, прычым з зайздроснай аператыўнасцю. Ужо 26 мая шклозавод «Нёман» і мінская фірма «Белюст» у асобе яе дырэктара Калініна заключаюць дагавор № 515. Папера гэтая нават для няўзброенага вока, мякка кажучы, даволі дзіўная: подпісу шэфа фірмы на ёй няма, пячатка адсутнічае. Праўда, указаны юрыдычны адрас і разліковы рахунак у банку. Аднак у падатковых інспекцыях беларускай сталіцы гэтыя рэквізіты шукаць няма чаго, яны там не значацца. Па вельмі простай прычыне — фірмы «Белюст» наогул... не існавала.

Як патлумачыў спадар Калінін следчаму, выдуманыя рэквізіты спатрэбіліся яму для таго, каб «быць упэўненым у сур'ёзнасці намераў завода паставіць неабходную яму прадукцыю», а паколькі «заключаны дагавор разглядаўся як папярэдні», ён гэты дакумент не падпісаў. Што ж датычыць адсутнасці пячаткі, дык адкуль жа ёй узяцца, калі няма фірмы...

Ужо пад заключаны з «Нёманам» дагавор расіянін узяўся за рэгістрацыю ў Лідзе яшчэ адной камерцыйнай структуры пад той жа назвай, што і «мінская». Ён сапраўды звяртаўся ў Лідскае аддзяленне «Пріорбанка» з просьбай аб адкрыцці рахунку. Аднак, паколькі ў вызначаны тэрмін не былі прадстаўлены неабходныя дакументы, забраніраваны для фірмы нумар анулявалі. Тым не менш, у накладных дакументах на адгрузку прадукцыі з'явіліся, як і ў вышэйпамянёным дагаворы, усе патрэбныя рэквізіты, зноў жа «ліпавыя». Разліковы рахунак № 609201 у Лідскім аддзяленні «Пріорбанка» не адкрывалі. Па ўказанаму адрасу размяшчаецца не фірма «Белюст», а аб'яднанне жыллёва-камунальнай гаспадаркі. Патэлефанаваць шэфу фірмы — таксама праблема, паколькі ў гарадскім вузле сувязі шасцізначнага нумара, які пакінуў Калінін, наогул не існуе, маюцца толькі пяцізначныя.

Цяжка паверыць, але факт: ніхто са службовых асоб «Нёмана», ажыццяўляючы шматмільённую гандлёвую здзелку з невядомым дагэтуль грамадзянінам суседняй краіны, нават не патэлефанаваў у падатковую інспекцыю і банк, каб удакладніць звесткі наконт «Белюста» і яго дырэктара. З чаго б гэта? Які д'ябал спакусіў шклозаводаўскія кадры?

Гэтыя «д'яблы» прысутнічаюць літаральна на кожным этапе здзелкі. Супрацоўніца аддзела збыту «Нёмана» С. Юнцэвіч па вуснаму ўказанню кагосьці са сваіх кіраўнікоў (каго канкрэтна — не памятае) афармляе дагавор з прыватнай фірмай на водпуск ёй шкловырабаў. Для гэтага чамусьці выкарыстоўваюцца чыстыя бланкі з пячаткай прадпрыемства і подпісам намесніка дырэктара па камерцыйных пытаннях З. Урбановіча, якія засталіся ў яе пасля нядаўняга кірмашу. Сам З. Урбановіч не памятае, каб гэты дагавор з ім узгадняўся. Аднак госць з Калінінграда заходзіць у кабінет галоўнага інжынера завода Б. Рунца, прадстаўляецца кіраўніком фірмы «Белюст». Далей ён, па словах галоўнага інжынера, спасылаецца на З. Урбановіча, які ў той дзень быў у камандзіроўцы, але з якім, маўляў, ужо ўзгоднены банкаўскі рахунак для пералічэння грошай за атрыманыя раней шкловырабы. Для гэтага камерсанту трэба, каб Б. Рунец падпісаў даверанасць. Якую прадукцыю атрымала фірма — невядома, але галоўны інжынер верыць расіяніну і, паставіўшы свой подпіс, дае ўказанне сакратару замацаваць дакумент гербавай пячаткай завода. Пры гэтым Б. Рунец не дапускаў, што даверанасць будзе выкарыстана для атрымання шкловырабаў, бо адпаведнай рэзалюцыі не было. Тым не менш, для аддзела збыту гэта паперка чамусьці з'яўляецца дазволам на рэалізацыю прадукцыі «Белюсту». Афармляецца неабходнае распараджэнне, прычым рэквізіты фірмы дыктуе сам Калінін. Пасля загрузкі аўтамашыны расіянін спрабуе забраць са склада ўсю дакументацыю, у тым ліку накладныя і даверанасць. Яму адмаўляюць, але невядома чаму і тут не насцярожваюцца. У выніку за тры заходы заводскі склад «разгрузіўся» амаль на 600 мільёнаў рублёў (і гэта, заўважце, цэны мінулага года). Ну а далей...

У пачатку ліпеня з банка вярнуліся на завод неаплачаныя патрабаванні па гэтай здзелцы. Само сабой, пачалося службовае расследаванне. Без асаблівых праблем высветлілася тое, што не хацелі праверыць раней: фірмы «Белюст» не існуе. А яе рэквізіты калі нечага і вартыя, дык толькі як «помнік» нашаму ўжо не сацыялістычнаму, але яшчэ не капіталістычнаму гаспадаранню. Высновы следства: «Юрыдычны аддзел прадпрыемства не прымаў ніякага ўдзелу ў прапрацоўцы дагавароў. Па стану на сярэдзіну 1995 года запазычанасць шклозаводу складала каля 13 мільярдаў рублёў, а прэтэнзіённая работа актывізавалася толькі пасля ўзбуджэння крымінальнай справы. У выніку з-за адсутнасці фінансавання зарплата работнікам прадпрыемства працяглы час выплачвалася заводскай прадукцыяй. Гэта прымушае работнікаў шукаць сумніўныя рынкі збыту вырабаў, штурхае на крадзяжы і розныя злоўжыванні».

Але вернемся, як кажуць, да нашых авечак. З дапамогай прыватных дэтэктываў, якіх наняў «Нёман», удаецца выйсці на мінскі след Калініна. Аднак ад сустрэч ён ухіляецца, на допыты пасля ўзбуджэння крымінальнай справы з'яўляцца не хоча. Няма на гэта ў Юрыя Алегавіча часу, бо трэба ратаваць беларускіх браткоў ад затаваранасці. 7 сакавіка сёлетняга года «Белюст» заключае дагавор з фабрыкай лазовай мэблі (г. п. Поразава Свіслацкага раёна). Нумар рахунку ў галаўным філіяле «Пріорбанка» па г. Мінску зноў жа фіктыўны. Аплата, вядома ж, гарантуецца, для чаго Калінін упісаў у дагавор залогу аўтамашыну «Опель-Рэкорд». Усё ішло да таго, каб свіслацкая мэбля прарвалася на заходні рынак, аднак здзелка сарвалася. Назаўтра, 8 сакавіка, расіянін паспрабаваў выехаць у Польшчу, але яго туды не пусцілі і ўзялі пад варту.

Тады і пачаў Юрый Алегавіч скардзіцца на тое, як несумленна паставіліся на шклозаводзе да заключанай здзелкі. Аказваецца, маркіроўка грузу была дрэнная, упакоўка і кантэйнерызацыя — таксама. Таму, маўляў, педантычныя немцы хаця і ўзялі прадукцыю, але па заніжаных цэнах, і ён у выніку панёс непрадбачаныя расходы, не здолеўшы ў вызначаны тэрмін разлічыцца з «Нёманам». Але чаму ж у такім разе Калінін не вярнуў груз альбо не спагнаў з завода штрафныя санкцыі? І галоўнае: дзе ж грошыкі? Яны, як высветлілася, у нямецкім горадзе Золінгене, на рахунку калінінградскай фірмы «Сімон», ад імя якой і ажыццяўлялася пастаўка шкловырабаў.

У дзеяннях галоўнага інжынера «Нёмана» Б. Рунца следства не выявіла карыслівых матываў, кваліфікаваўшы іх як халатныя адносіны да выканання службовых абавязкаў. Міністэрства архітэктуры і будаўніцтва аб'явіла яму вымову. Загадам рэспубліканскага кіраўніцтва дырэктар завода А. Жыгала абавязаны пакараць усіх вінаватых асоб, абучыць і атэставаць спецыялістаў, звязаных з рэалізацыяй прадукцыі. Вось пакуль і ўсё. Што ж датычыць знікшых мільёнаў, дык час пакажа, ці здолее завод хаця б нешта вярнуць. Пытанне, мякка кажучы, праблематычнае.

Дарэчы, аналагічны «галаўны боль» цяпер і ў кіраўніцтва шклозавода «Кастрычнік» Асіповіцкага раёна, з якім расіянін супрацоўнічаў па той жа схеме, што і з лідчанамі. Розніца толькі ў тым, што «Кастрычніку» Юрый Алегавіч трохі грошай усё ж вярнуў, бо вельмі ўжо моцна дапякалі. А потым і зусім знік...

**Барыс ПРАКОПЧЫК.**




Малюнак Аркадзя **САЛТЫКОВА** (г. Брэст).

## ПРА ГЕРОЯЎ БЫЛЫХ ЧАСОЎ ХУТКА МОГУЦЬ ЗУСІМ ЗАБЫЦЬ

Зараз адной з самых дзейсных і прыметных ільгот для ветэранаў Вялікай Айчыннай вайны з'яўляецца, напэўна, ільготны праезд, які быў устаноўлены яшчэ 12 сакавіка 1993 года міжурадавым пагадненнем шэрага дзяржаў — удзельніц СНД. Былі падпісаны неабходныя дакументы, выдадзены заслужаным людзям талоны агульнага ўзору, адпаведныя пасведчанні. Пачалося льготнае абслугоўванне ветэранаў транспартнікамі. Льготы льготамі, аднак яны павінны фінансавацца непасрэдна дзяржавай. Чаго зараз якраз і не адбываецца — нягледзячы на тое, што бюджэтам за 1996 год прадугледжана пакрыццё страт ад прадастаўлення льгот на праезд у памеры 6,7 мільярда рублёў чыгунцы, паветранаму і аўтамабільнаму транспарту. Міністэрства фінансаў з-за слабага папаўнення даходнай часткі бюджэту кампенсацыю нават не пачало ажыццяўляць.

У сувязі з гэтым узнікае і адпаведная рэакцыя з боку транспартнай галіны — папрокі і абурэнне. Пакуль яшчэ толькі папрокі. А можа здарыцца і іншае — так, паводле аператыўных даных, прадстаўніцтва дзяржаўнай расійскай авіякампаніі «Трансаэра» больш не праводзіць рэалізацыі льготных білетаў на рэйсы па СНД. Так што задумацца над арганізацыяй «бясплатнага» праезду трэба менавіта дзяржаве, каб ветэраны ў рэшце рэшт не засталіся пакрыўджанымі.

**Мікалай ЛІТВІНАЎ.**

## ДЫРЭКТАРА ЗАТРЫМАЛІ ЗА ЗАХОЎВАННЕ ЗБРОІ?..

**«Звязда» ўжо расказвала сваім чытачам аб скандальнай гісторыі, якая здарылася ў Гомелі, калі быў затрыманы дырэктар шпалернай фабрыкі.**

Напомнім, што кіраўніка прадпрыемства заспелі на сваім працоўным месцы супрацоўнікі аддзела па барацьбе з арганізаванай злачыннасцю ў той момант калі ён атрымаў ад расіяніна каля 3 тысяч долараў. Да высвятлення абставін «здзелкі» дырэктар быў пакінуты на волі. Але крыху пазней ён быў арыштаваны.

Як удалося высветліць, кіраўніку знакамітага прадпрыемства было прад'яўлена абвінавачанне зусім не ў сувязі з атрыманнем хабару. Праваахоўнымі органамі вынесена папярэдняе абвінавачанне апошняга ў вырабе і захоўванні агнястрэльнай зброі, набыцці і захоўванні боепрыпасаў для яе. Следства працягваецца.

**Ігар ГРЫШЫН.**

СУД ДЫ СПРАВА

# Вось бы такая цяганіна была пры незаконным атрыманні крэдытаў!

### Хроніка не зусім удалых спроб аднавіць сацыяльную справядлівасць і ўсталяваць поўную ўладу Закона

***Гісторыя са спагнаннем незаконна атрыманых крэдытаў — чарговае сведчанне таго, што аднавіць справядлівасць у нашай краіне пакуль не вельмі проста. Нават калі з самых высокіх трыбун нястомна гучаць абяцанні вывесці на чыстую ваду і пакараць карупцыянераў. На практыцы ж атрымліваецца як у знакамітай байцы: а воз і зараз там.***

***Яшчэ ў кастрычніку 1994 года органы пракуратуры праверылі выкананне ўстановамі Ашчаднага банка заканадаўства, якое рэгулюе выдачу крэдытаў на будаўніцтва жылля. Выявілася, што многія кіраўнікі, службовыя асобы дзяржаўных прадпрыемстваў, арганізацый, выканкомаў, камерцыйных структур, супрацоўнікі банкаў не маючы на тое законных падстаў, атрымалі льготныя крэдыты. Прычым шмат якія пазычальнікі выкарысталі гэтыя грошы не па мэтаваму прызначэнню. Але спагнаць у поўным аб'ёме грошы пракуратуры не ўдалося і да гэтага часу.***

***Што ж перашкодзіла і па сённяшні дзень працягвае перашкаджаць пракурорам аднавіць справядлівасць? На гэтае і некаторыя іншыя пытанні карэспандэнт «Звязды» папрасіў адказаць старшага пракурора аддзела па нагляду за захаваннем законнасці ў сферы эканомікі Пракуратуры Рэспублікі Беларусь Івана СЫРАКВАШКУ.***

**— Іван Уладзіміравіч, колькі чалавек, якія ў абход закона атрымалі крэдыты на будаўніцтва жылля, выявілі супрацоўнікі органаў пракуратуры? Дарэчы, нагадайце, калі ласка, якое патрабаванне закона ці іншага нарматыўнага дакумента парушылі гэтыя крэдытаатрымальнікі?**

— Пачну з адказу на другое пытанне. Згодна з пастановай №169 Савета Міністраў Беларусі ад 22 сакавіка 1993 года, ільготны крэдыт маглі атрымаць толькі грамадзяне, якія мелі патрэбу ў паляпшэнні жыллёвых умоў, а таксама маладыя сем'і, якія жылі разам з бацькамі.

Устаноўлены вышэйпамянёным дакументам парадак, як сведчаць вынікі пракурорскіх праверак, парушылі 360 грамадзян. Яны прадстаўлялі фіктыўныя даведкі, у якіх завышалася колькасць членаў сям'і, заніжалася жылая плошча кватэры. Такім падманным шляхам было атрымана яшчэ да дэнамінацыі у выглядзе крэдытаў на жыллё 2 мільярды 132 мільёны рублёў.

**— І як адбываўся сам працэс вяртання дзяржаве гэтых, па сутнасці, украдзеных грошай?**

— Умоўна я падзяліў бы яго на тры этапы.

Дык вось. На першым этапе па фактах выдачы фіктыўных даведак, падробкі дакументаў з мэтай атрымання льготных крэдытаў намі былі ўзбуджаны 43 крымінальныя справы і праводзіліся расследаванні. Прымаліся таксама меры па перазаключэнню дагавораў на агульных ( не ільготных) падставах. У выпадках, калі пазычальнікі не згаджаліся на гэта — дамовы скасоўваліся і рабіліся спробы спагнаць з вінаватых недаатрыманыя сумы грошай на ўзроўні агульнай працэнтнай стаўкі, якая ў той час складала 140 працэнтаў. Па 12 ісках, якія мы накіравалі ў суды, было спагнана 1 мільён 544 тысячы рублёў.

Аднак прынятых пракуратурай мераў было недастаткова для аднаўлення справядлівасці. Чыноўнікі, якія выдавалі фіктыўныя дакументы, амаль нідзе не панеслі пакаранне, а грошы ў поўным аб'ёме крэдытаатрымальнікі таксама не вярнулі. Тады пракуратура краіны выступіла з ініцыятывай аб індэксацыі крэдытаў. 24 лютага 1995 года Вярхоўны Савет, пасля нашых неаднаразовых напамінаў, у рэшце рэшт прыняў пастанову «Аб індэксацыі крэдытаў, атрыманых грамадзянамі Рэспублікі Беларусь ва ўмовах інфляцыі».

З таго моманту пачаўся другі этап. Вярхоўны Савет прапанаваў Кабінету Міністраў і Нацыянальнаму банку распрацаваць і зацвердзіць да 15 красавіка 1995 года парадак індэксацыі крэдытаў. Але ўрад і Нацбанк прынялі адпаведную пастанову толькі 2 чэрвеня 1995 года. Да таго ж Палажэнне аб парадку індэксацыі льготных крэдытаў мела некалькі істотных хібаў: не было прынята да ведама даручэнне аб індэксацыі крэдытаў, якія выкарыстоўваліся не па мэтаваму прызначэнню, не вызначаны механізм індэксацыі перазаключаных Ашчадным банкам крэдытаў, не распрацаваны прыклады індэксацыі. Фактычна гэтае Палажэнне немагчыма было прымяніць на практыцы. Напрыклад, згодна з палажэннем, пракуроры накіроўвалі іскі аб прызнанні крэдытных дагавораў несапраўднымі. Суд гэтыя іскі задавальняў. Аднак ні падатковыя інспекцыі, ні ўстановы Ашчадбанка па рашэннях судоў не спяшаліся спаганяць з даўжнікоў незаконна атрыманыя крэдыты. У сувязі з гэтым Генеральны пракурор быў вымушаны звярнуцца ў Кабінет Міністраў с просьбай распрацаваць канкрэтны механізм індэксацыі льготных крэдытаў. Больш як 9 месяцаў ва ўрадзе і Нацбанку распрацоўвалі гэты механізм, і ў выніку прынялі рашэнне, згодна з якім абавязкі па спагнанню крэдытаў былі перакладзены з плеч падатковай інспекцыі на плечы істцоў. Дзіўна, што распрацоўшчыкам механізма індэксацыі спатрэбілася цэлых 9 месяцаў для ўсведамлення сваёй першапачатковай памылкі. Навошта было даручаць спагнанне крэдытаў падатковым інспекцыям, калі па Канстытуцыі адчужэнне маёмасці, грашовых сродкаў можа быць зроблена толькі па рашэнню суда?

Памылкі пры распрацоўцы Палажэння аб парадку індэксацыі льготных крэдытаў выклікалі цяганіну, якая на руку тым жа прайдзісветам. А страты церпіць дзяржава.

Справа ў тым, што страты ад прадастаўлення льготных крэдытаў кампенсаваны Ашчадбанку з дзяржбюджэту і ў банка адпала ахвота судзіцца з тымі, хто незаконна атрымаў ільготныя крэдыты. Клопаты па аднаўленню справядлівасці зноў узяла на сябе пракуратура.

Такім чынам, з канца мінулага года пачаўся трэці этап крэдытнай эпапеі. Са студзеня 1996 года пракуроры накіравалі ў суды 205 іскаў аб спагнанні крэдытаў з улікам індэкса і росту спажывецкіх цэн на агульную суму 9,6 мільярда рублёў.

На сённяшні дзень ужо задаволена 117 іскаў на суму 869,6 мільёна рублёў.

Апроч таго пазычальнікамі добраахвотна вернута 163,7 мільёна рублёў. Усяго з улікам індэксацыі пакуль удалося спагнаць 11,2 працэнта ад агульнай сумы, заяўленай уісках.

Астатнія 88 іскаў да гэтага часу ў судах не разгледжаны.

Словам, дыялог з нядобрасумленнымі пазычальнікамі, якія абакралі наш народ на мільярды рублёў, у судах зацягнуўся яшчэ на некалькі месяцаў, а магчыма, і больш. А час, як вядома, — грошы.

**Мікола ДЗЯБЁЛА.**

# «ЗАЛАТАЯ ЛІХАМАНКА» ПА-БЕЛАРУСКУ:

## некаторых чыноўнікаў ужо трасе

***НЯГЛЕДЗЯЧЫ НА ТОЕ, што Бог абдзяліў нетры беларускай зямлі багатымі радовішчамі каштоўных і каляровых металаў, нашу краіну не абмінула ні «медная», ні «залатая» «ліхаманкі». І хоць апошнім часам былога «медна-нікелевага буму» на Беларусі не назіраецца, праблема з крадзяжамі і незаконным вывазам каляровых металаў па-ранейшаму вельмі актуальная.***

***Што датычыць каштоўных металаў, то беларускія прадпрыемствы радыёэлектроннай прамысловасці ўсё яшчэ з'яўляюцца своеасаблівым «кландайкам» і маглі б, пры разумным, гаспадарскім выкарыстанні, істотна папоўніць залаты запас нашай маладой і пакуль небагатай краіны.***

***Нездарма праблемы крадзяжоў, незаконнага вывазу і нерацыянальнага выкарыстання каштоўных і каляровых металаў былі ў цэнтры ўвагі на нядаўнім чарговым пасяджэнні Міжведамаснай камісіі па барацьбе са злачыннасцю і наркаманіяй. Удзел у гэтай нарадзе прымаў і намеснік начальніка аддзела ўпраўлення па барацьбе з эканамічнай злачыннасцю МУС Беларусі Валерый ГОЎЗІЧ, якога карэспандэнт «Звязды» і папрасіў дэталёва расказаць аб праблемах захавання і рацыянальнага выкарыстання каштоўных і каляровых металаў на беларускіх прадпрыемствах. Менавіта супрацоўнікі УБЭЗ вось ужо некалькі гадоў найбольш актыўна процідзейнічаюць нелегальным «экспарцёрам» і «зладзеям» каляровых і каштоўных металаў, а значыць дасканала ведаюць, якая сітуацыя сёння склалася ў, скажам так, «металічнай» сферы.***

**НА ФРОНЦЕ БАРАЦЬБЫ З «МЕТАЛІСТАМІ» ЁСЦЬ ПЕРАМЕНЫ**

**— Валерый Георгіевіч, «медна-нікелевы бум» на Беларусі, як і ў іншых краінах былога СССР, пачаўся дзесьці гадоў шэсць таму. Тады беларускія нелегальныя «экспарцёры» металаў «палявалі» за кожнай дэталькай з алюмінію, нікелю ці медзі: выкопвалі тэлефонныя кабелі, разбуралі ліфтавое абсталяванне, «дэманціравалі» помнікі на магілах і гарадскіх плошчах. Зараз, мяркуючы па зместу газет і паведамленнях электронных СМІ, падобныя з'явы здараюцца нячаста. Няўжо беларускія «металісты» вывезлі ўсе каляровыя металы за мяжу ці знайшлі сабе іншы занятак?**

— Сапраўды, апошнім часам істотна знізілася колькасць злачынстваў, звязаных з крадзяжом і нелегальным вывазам каляровых металаў за мяжу.

Так, за 6 месяцаў бягучага года зарэгістраваны ўсяго 542 факты незаконнага вывазу каляровых металаў, што ў 3,9 раза менш, чым за аналагічны перыяд мінулага года. А колькасць крадзяжоў каляровых металаў наогул зменшылася ў 4,1 раза, што дазволіла ў больш поўным аб'ёме забяспечыць сыравінай прадпрыемствы металургічнай вытворчасці. Толькі Беларускаму металургічнаму заводу за 7 месяцаў гэтага года пастаўлена на 27,9 працэнта металалому больш, чым за аналагічны перыяд мінулага года. Гэты прыклад з'яўляецца не толькі яскравым сведчаннем поспехаў праваахоўных органаў і іншых зацікаўленых ведамстваў на фронце барацьбы з крадзяжамі каляровых металаў, але і доказам таго, што лому каляровых металаў на Беларусі яшчэ шмат.

Зрэшты, злачынцы таксама не дрэмлюць, шукаючы найбольш лёгкія аб'екты здабычы каляровых металаў. Прынамсі, апошнім часам злачынныя групоўкі, якія займаюцца вывазам каляровых металаў за мяжу, звярнулі сваю пільную ўвагу на вайсковыя часці расійскіх узброеных сіл, размешчаных на тэрыторыі Беларусі. На гэтых аб'ектах назапашана вялікая колькасць каляровых металаў. Праўда, беларускі ўрад своечасова прыняў контрмеры і выдаў яшчэ 28 снежня 1995 года пастанову №113п, згодна з якой часці расійскай арміі, што часова размяшчаюцца на нашай зямлі, павінны здаваць металічны лом прадпрыемствам дзяржаўнага аб'яднання «Белдругасмет». За апошнія паўтара года, між іншым, расійскія вайсковыя падраздзяленні, што дыслакуюцца на Беларусі, здалі на нашы прадпрыемствы больш як 630 тон лому чорных металаў.

Апроч таго і мы, супрацоўнікі праваахоўных органаў, выпрацавалі даволі эфектыўныя метады барацьбы з крадзяжамі і незаконным вывазам каляровых і каштоўных металаў.

Напрыклад, у выніку праведзеных аперацый праваахоўнымі органамі краіны, а таксама падраздзяленнямі пагранвойскаў і мытні на працягу 1995 года і ў першай палове гэтага года ў правапарушальнікаў канфіскавана і вернута дзяржаве звыш 1778 тон каляровых і рэдказямельных металаў на суму каля 14 мільярдаў рублёў, 3410 каратаў алмазных паўфабрыкатаў і брыльянтаў на суму больш за 20 мільярдаў рублёў, 5 кілаграмаў стратэгічнага металу «цэзій-133» і 213 кілаграмаў каштоўных металаў.

Такім чынам, менавіта актывізацыя дзейнасці праваахоўных і кантралюючых органаў прывяла да зніжэння колькасці злачынстваў, звязаных з крадзяжом і вывазам каляровых металаў на Беларусі. Хоць гаварыць аб поўнай перамозе над «металістамі» пакуль яшчэ рана, бо, на жаль, пакуль што існуюць спрыяльныя ўмовы для іх дзейнасці, ды і попыт на каляровыя металы застаецца высокім.

**РАСІЙСКАЯ МЫТНЯ ДАЕ «ДАБРО»**

**— Спыніцеся, калі ласка, больш падрабязна на ўмовах, якія спрыяюць дзейнасці «металістаў». Бо, напрыклад, як мне здаецца, праблеме барацьбы з крадзяжом і «ўцечкай» каляровых металаў за мяжу і Прэзідэнт, і Кабінет Міністраў удзялялі даволі шмат увагі.**

— Так, 6 мая 1995 года быў падпісаны Указ №179 Прэзідэнта Беларусі «Аб мерах па ўзмацненню барацьбы з крадзяжом каштоўных, чорных і каляровых металаў, іх лому і адходаў, каштоўных камянёў», які вызначыў асноўныя накірункі дзяржаўнай палітыкі па вырашэнню гэтай праблемы. Кабінет Міністраў таксама прыняў шэраг пастаноў, накіраваных на прадухіленне незаконнага вывазу чорных, каляровых і каштоўных металаў. Безумоўна, гэтыя рашэнні Прэзідэнта і ўрада адыгралі вялікую пазітыўную ролю ў спыненні «меднага буму». Але ж і «паляўнічыя за металамі» таксама ўдасканальваюць свой злачынны «бізнес», прыдумваючы часам самыя нечаканыя махінацыі, разблытаць якія вельмі цяжка. Таму зараз неабходна, на маю думку, больш увагі сканцэнтраваць якраз на тым, каб ліквідаваць умовы дзейнасці такіх прайдзісветаў і прадухіліць вываз з Беларусі каляровых і каштоўных металаў. Для гэтага варта стварыць дзяржаўную інспекцыю па кантролю за выкарыстаннем чорных і каляровых металаў. Агульнавядома, што на Беларусі гэтыя металы не здабываюцца і асноўнай крыніцай «злачыннага экспарту» з'яўляюцца прадпрыемствы, дзе выкарыстоўваюцца, напрыклад, медзь, нікель, алюміній, ніхром і г. д.

Між іншым, Міністэрства эканомікі ўжо распрацавала праект прэзідэнцкага ўказа аб стварэнні вышэйзгаданай дзяржаўнай інспекцыі ў структурных рамках Службы кантролю, але да практычнага ажыццяўлення гэтай задумкі справа пакуль не дайшла.

Далей. На многіх аб'ектах умовы захоўвання каляровых металаў такія, што зладзеі іх без асаблівых праблем выносяць і нават вывозяць. У прыватнасці, праведзенае супрацоўнікамі міліцыі комплекснае абследаванне падобных прадпрыемстваў сведчыць, што металапрадукцыя нярэдка захоўваецца на адкрытых, амаль не ахоўваемых пляцоўках.

Не так даўно ўзнікла яшчэ адна спрыяльная ўмова для «ўцечкі» каляровых металаў з Беларусі. Справа ў тым, што 1 красавіка 1996 года ўрад Расійскай Федэрацыі прыняў пастанову №479, згодна з якой адменены вывазныя мытныя пошліны, у тым ліку на лом і адходы чорных і каляровых металаў. Няцяжка прадбачыць, што пры адсутнасці мытных бар'ераў паміж Беларуссю і Расіяй лом каляровых металаў бескантрольна будзе вывозіцца (і ўжо вывозіцца) з нашай дзяржавы праз тэрыторыю Расійскай Федэрацыі ў іншыя краіны.

**— А ці вывозяцца з Беларусі каляровыя і каштоўныя металы зусім легальна?**

— У 1995 годзе Міністэрства знешніх эканамічных сувязей нашай краіны выдала 4 генеральныя ліцэнзіі на вываз лому і адходаў чорных металаў (прыкладна 159,8 тысячы тон на суму 9,1 мільёна долараў), 28 ліцэнзій — на вываз лому і адходаў каляровых металаў (44,824 тысячы тон на 55,6 мільёна долараў), 23 ліцэнзіі на вываз лому і адходаў каштоўных металаў і камянёў (60,8 тоны на 32,1 мільёна долараў).

За 6 месяцаў бягучага года былі выдадзены 3 генеральныя ліцэнзіі на экспарт лому і адходаў чорных металаў (106 тысяч тон на суму 7,4 мільёна долараў), 5 ліцэнзій — на вываз лому і адходаў каляровых металаў (13,1 тысячы тон на 15,4 мільёна долараў) і 6 ліцэнзій на вываз лому і адходаў каштоўных металаў і камянёў (195 тон на 8,2 мільёна долараў). Відавочна, дзяржаве выгадна экспартаваць гэтыя металы. Мяркуючы па прыведзеных даных, у бюджэт Беларусі толькі за кошт выплаты мытных пошлін павінна было паступіць ад экспарту лому каляровых і каштоўных металаў каля 10 мільёнаў долараў.

**АТАС! ВЫВОЗЯЦЬ ЗАЛАТЫ ЗАПАС**

Зрэшты, нават падчас легальнага вывазу, асабліва каштоўных металаў і камянёў, допускаецца шмат парушэнняў і дзяржаўнай скарбонцы наносіцца вялікі ўрон. Не будзе перабольшаннем, калі скажу, што за апошнія тры гады мы страцілі тоны золата, срэбра і іншых каштоўных металаў.

**— Адкуль на Беларусі такое багацце? Нетры нашай зямлі небагатыя на каштоўныя металы.**

— Затое на прадпрыемствах радыёэлектроннай прамысловасці гэтых каштоўных металаў было процьма, бо яны ўжываюцца пры вырабе розных дэталяў і прыстасаванняў. Аналіз статыстычных справаздач сведчыць, што за апошнія тры гады на Беларусі запасы золата ў прыладах і абсталяванні знізіліся на 3,3 тоны, у грашовым вымярэнні гэта 40,9 мільёна долараў. Зніжэнне адбылося па прычыне масавага распродажу за мяжу асноўных сродкаў прадпрыемстваў. Як устаноўлена падчас праверак, галоўным чынам вывозіліся вылічальная тэхніка і вымяральныя прыборы з высокім утрыманнем золата.

Праўда, і тая частка залатога запасу, што яшчэ засталася на прадпрыемствах, пры існуючай сістэме перапрацоўкі можа ў хуткім часе амаль цалкам «сплыць» за мяжу.

**— На чым грунтуецца ваш гэткі змрочны прагноз?**

— Толькі на фактах, якія прагучалі падчас нядаўняга пасяджэння Міжведамаснай камісіі па барацьбе са злачыннасцю і наркаманіяй.

Дык вось. Служба кантролю Прэзідэнта выявіла на некаторых прадпрыемствах краіны сур'ёзныя парушэнні ўмоў ліцэнзій на знешнеэканамічную дзейнасць з каштоўнымі металамі.

У прыватнасці, віцебскі завод «Мегом» у прысутнасці прадстаўніка Камітэта па каштоўных металах адгрузіў на перапрацоўку ў ЗША звыш устаноўленай ліцэнзіяй квоты каля 100 кілаграмаў паладыю коштам 380,9 тысячы долараў.

Полацкім вытворчым аб'яднаннем «Шклovалакно» па ліцэнзіі была вывезена на перапрацоўку ў Вялікабрытанію керамічная крошка, у якой утрымліваюцца плаціна і паладый. Пры гэтым устаноўленая квота была перавышана на 602,1 тысячы долараў.

Гэтае ж прадпрыемства ў мінулым годзе заключыла кантракт з англійскай фірмай «Джонсан Мэці» на перапрацоўку 800 кілаграмаў шклоплавільных агрэгатаў з плаціна-паладыева-родыевага сплаву. Пры ажыццяўленні здзелкі ўмовы кантракту былі груба парушаны: каштоўны метал, які ўтрымліваецца ў сплаве, быў прададзены ў Англіі па самых нізкіх за апошнія два гады каціроўках.

У выніку затраты на перапрацоўку аказаліся большымі, чым значылася ў тэхніка-эканамічным абгрунтаванні і ліцэнзіі, на 120,2 тысячы долараў.

Дарэчы, па заключэнню Фізіка-тэхнічнага інстытута Акадэміі навук Беларусі і НДІ фізіка-хімічных праблем пры Белдзяржуніверсітэце, англійскай фірмай быў прапанаваны вельмі нерацыянальны спосаб перапрацоўкі лому каштоўных металаў.

Нярэдка нашы прадпрыемствы карысталіся пасрэдніцкімі паслугамі камерцыйных эстонскіх і латвійскіх фірмаў. Падобнае супрацоўніцтва прыносіла страты ў памеры 8—15 працэнтаў ад аб'ёмаў паставак каляровых металаў.

Так, Гомельскі шклозавод праз пасрэдніцкую эстонскую фірму «Алвіга» заключыў дамову на перапрацоўку лому каштоўных металаў з англійскай фірмай «Сэйбін Карпарэйшн». За гэтыя паслугі эстонская фірма атрымала 22 кілаграмы золата. Лідскае прадпрыемства «Оптык», таксама за пасрэдніцкія паслугі па арганізацыі перапрацоўкі 100 кілаграмаў плаціна-родыевага сплаву, аддало гэтай жа эстонскай фірме 8 працэнтаў ад указанай колькасці плаціны і родыю.

**— Няўжо нельга было знайсці больш выгадных партнёраў, ці наладзіць перапрацоўку лому і адходаў каштоўных металаў на Беларусі?**

— Больш выгадныя партнёры і сапраўды ёсць. Напрыклад, той жа лідскі «Оптык» дамовіўся з АТ «Краснаярскі завод каляровых металаў» на перапрацоўку 93,1 кілаграма плаціна-родыевага сплаву. У выніку затраты «Оптыка» склалі ўсяго 3 працэнты ад кошту металу.

Перапрацоўка плаціна-родыевага сплаву на маскоўскім НПК «Суперметал» у 6 разоў таннейшая, чым паслугі англійскай фірмы «Джонсан Мэці».

Цяпер наконт уласных магчымасцей па перапрацоўцы лому каштоўных металаў.

Яшчэ ў ліпені 1993 года пастановай №445 Савета Міністраў Беларусі дзяржаўнае навукова-вытворчае прадпрыемства «Квант» Камітэта па каштоўных металах было вызначана як галаўное прадпрыемства па ўліку, збору і першаснай перапрацоўцы каштоўных металаў у выглядзе лому і адходаў.

Аднак, як сведчаць праверкі Службы кантролю, пракуратуры і іншых міністэрстваў і ведамстваў, да цяперашняга часу прадпрыемствам «Квант» не наладжана першасная перапрацоўка адходаў каштоўных металаў. На гэтым прадпрыемстве няма ні спецыяльнага абсталявання, ні адпаведнай хіміка-аналітычнай лабараторыі. Дзейнасць «Кванта» ў асноўным заключаецца ў пасрэдніцкіх паслугах, за што прадпрыемства атрымлівае ад 5 да 15 працэнтаў ад цаны каштоўных металаў у адходах. Навошта пры такіх прыбытках клапаціцца пра арганізацыю вытворчасці? Хоць, як сведчаць праверкі, ДНПП «Квант» нават да выбару фірмаў-перапрацоўшчыкаў падыходзіць не зусім кваліфікавана. Найчасцей імі былі замежныя пасрэдніцкія фірмы, якія не мелі магчымасці самастойна перапрацаваць каштоўныя металы.

Да таго ж, на думку спецыялістаў, пры пасрэдніцтве «Кванта» заключаліся нявыгадныя для асобных беларускіх прадпрыемстваў і дзяржавы ў цэлым кантракты. У прыватнасці, завышаўся кошт перапрацоўкі і ачысткі каштоўных металаў, не аплачваліся «спадарожныя» каляровыя і рэдказямельныя металы, што ўтрымліваліся ў адходах. Інакш кажучы, пастаўляючы за мяжу адходы медзі, алюмінію, нікелю, наша краіна затрачвала грошы на іх транспарціроўку і перапрацоўку, нічога не атрымліваючы ўзамен. Прыкладаў зноў жа можна прывесці нямала. І фактычна кожнае такое парушэнне адбывалася ці то па звычайнай нядбайнасці, ці то з-за няведання кан'юнктуры рынку, адсутнасці дакладнай інфармацыі аб цэнах на каштоўныя металы на вядучых еўрапейскіх рынках. Усе гэтыя хібы, згадзіцеся, не так ужо цяжка і выправіць. Тым больш, што яны так дорага каштуюць.

Наогул, існуючая сітуацыя патрабуе неадкладнага прыняцця дзяржаўнай канцэпцыі ў галіне здабычы, перапрацоўкі і выкарыстання каштоўных металаў і камянёў.

Не такія ўжо мы багатыя, каб раскідвацца па ўсім свеце тонамі золата, срэбра і іншых каштоўных і рэдказямельных металаў.

**Мікола ДЗЯБЁЛА.**

*ГЛЫБІНКА*

# ПІНГВІНІЯ,

## або Халодныя выхадныя ў чатырох сценах

**Звычайна ў суботу дома мяне няма. Але тут паліло так, што не высунуцца з кватэры. Такога дрэннага верасня не памятаю. Касы дождж з поўначы лупіў у акно з такой сілай, што не даваў спаць. Толькі пачынаеш драмаць, як раптам здаецца: у дзверы стукаюць.**

Сумнае надвор'е — адпаведны настрой. Змрочныя думкі.

На мінулую суботу ў Магілёве, дзе я жыву, намячаліся два адметныя мерапрыемствы: пашыраны пленум камуністаў з удзелам кіраўнічага цэнтра Калякіна і Новікава і святкаванне 70-годдзя аэраклуба. На самалётах я лятаў, на верталёце не даводзілася. А тут такая магчымасць з'яўлялася на ўсіх, хто пажадае. Планаваў так: паглядзець на горад з «вяртушкі» і паспець на пленум.

Але ж дождж. Умовы нялётныя.

Баўлю час тым, што слухаю радыё. Цікава гаворыць псіхолаг-жанчына, якая займаецца праблемамі мужчын. Нашы палітыкі нагадваюць ёй пінгвінаў. Аднолькава апранаюцца. Не адрозніць.

Тое ж і ў мэтах. Усе як адзін клапоцяцца пра народ.

М. Горкі неяк казаў, што магчымасць чалавеку жыць дае няведанне. Калі ведаеш усё наперад, становіцца не тое што нецікава, а невыносна сумна.

Здагадваюся, на партыйным пленуме «пінгвіны» будуць сварыцца. Так і было, у рамках, праўда, прыстойнага. Васіля Новікава бэсцілі за яго артыкул у газеце «Товарищ» — «Была без радости любовь, разлука будет без печали». Лідэры ў сваю чаргу ганьбілі палітыку, нібыта накіраваную на ўсталяванне неабмежаванай асабістай улады. Былі і «мірныя» думкі: Прэзідэнту і Вярхоўнаму Савету не варта знішчаць адно аднаго, а шукаць кампраміс.

Недзе чытаў, што ў нас бездакорна дзейнічае толькі адзін закон — закон зваротнага выніку. Як толькі пачынаем гаварыць пра кансалідацыю, чакай расколу. Хіба не так атрымліваецца?

«Днямі ў Касцюковічах бабуля-пенсіянерка з натоўпу слёзна патрабавала ў Прэзідэнта «пастраляць тых, хто вам, Рыгоравіч, нервы рве». Гэта я працытаваў «Магілёўскую праўду». А ў кулуарах пленума, расказвалі мне, пытанне аб смяротным пакаранні, вынесенае на рэферэндум, разглядалася як «дальнабойнае». Маўляў, могуць вярнуцца «тройкі», і расстрэльваць людзей пачнуць без суда і следства, за іншадумства. А ўмовы еўрапейскага супольніцтва — так, шырма. Для прыкрыцця злавеснага плана па знішчэнню апазіцыі.

Бачыце, да чаго дадумаліся.

— А няхай выканаўчая ўлада глядзіць у корань, — гавораць адны «пінгвіны». — У 1991 годзе расстраляна ў вобласці па суду 8 чалавек, у 92-м — 4, 93-м — 7, 94-м — 9, у 95-м — 10. А за адзін толькі тыдзень скончылі жыццё самагубствам 15 чалавек. Хутка ўжо і судзіць не будзе каго. Народ вымірае.

— Вось каб нам палкі ў колы не ўстаўлялі, не перашкаджалі працаваць, — чуецца з процілеглага боку.

Гэта ўжо не сумна, а страшна. Няўжо гісторыя паўтараецца і пачынаюцца пошукі ворагаў? Няўжо, калі не атрымліваецца ў эканоміцы, нам абавязкова патрэбен шкоднік?

Глыбінка захвалявалася, чаго не адзначалася ўжо даўно. Абласное радыё праводзіць апытанні грамадзян, некаторыя не ведаюць, чаго там, у сталіцы, хочуць, але ўсе засвоілі: пачынаецца барацьба. «Ты за каго, за дэпутатаў ці Прэзідэнта?» — да такой спрошчанай фармулёўкі зводзіцца бытавое ўспрыманне канфлікту паміж уладамі.

Гэта пры тым, што ўсе мы з адной «пінгвініі» і ўсім трэба капаць бульбу. Але — мокра і халадна. Ці будуць лепшыя дні?

**Васіль ЛЕЎЧАНКА.**




# ЭКАЛОГІЯ – ЧАЛАВЕК

**СПЕЦВЫПУСК «ЗВЯЗДЫ» І МІНІСТЭРСТВА ПРЫРОДНЫХ РЭСУРСАЎ І АХОВЫ НАВАКОЛЬНАГА АСЯРОДДЗЯ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ**

*28 верасня 1996 года* **№ 3 (7)**


***АКТУАЛЬНА***

## Закон Нана—Лугара «працуе» на беларускай зямлі

***На пытанні «Звязды» адказвае міністр прыродных рэсурсаў і аховы навакольнага асяроддзя Міхаіл РУСЫ***

**З 23 па 27 верасня працягвалася ў Мінску канферэнцыя па праблемах аднаўлення навакольнага асяроддзя на месцы былых ваенных баз і гарадкоў, якія выслабаніліся пасля вываду часцей расійскай арміі. Гэта ўжо другая такая канферэнцыя, арганізаваная Агенцтвам па ядзернай бяспецы Міністэрства абароны ЗША. Цяперашнюю разам з агенцтвам правялі Мінабароны і Акадэмія навук Беларусі пры ўдзеле Міністэрства прыродных рэсурсаў і аховы навакольнага асяроддзя.**

**Сустрэча спецыялістаў розных краін праходзіла ў рамках праграм, прадугледжаных так званым законам Нана—Лугара, прынятага кангрэсам ЗША. Згодна з гэтым законам, «ядзерным» краінам, былым рэспублікам былога СССР, аказваецца дапамога ў ліквідацыі ядзерных узбраенняў, іх кампанентаў і аднаўленні прыроднага асяроддзя там, дзе ўсё гэта знаходзілася. Гэта значыць — Расіі, Украіне, Казахстану і Рэспубліцы Беларусь, якая, дарэчы, цяпер зусім ужо і не ядзерная.**

**Ужо сама тэма зусім неардынарнай сустрэчы спецыялістаў і навукоўцаў выклікае шэраг разнастайных пытанняў. На іх і адказвае кіраўнік міністэрства — паўнапраўнага ўдзельніка прайшоўшай канферэнцыі.**

**— Наколькі вядома, прадстаўнікі розных краін, сабраўшыся ў будынку Акадэміі навук, апрача ўсяго іншага абмяркоўвалі і разнастайныя праекты аднаўлення навакольнага асяроддзя ў месцах былога кватаравання расійскіх войскаў. Міхаіл Іванавіч, як на вашу думку: гэта на сённяшні дзень проста слоўныя праэкты ці тут ужо праглядваецца і штосьці рэальнае?**

— Паведамлю спачатку, што той жа закон Нана—Лугара «разбіты» на некалькі напрамкаў. Маецца ў ім і блок праблем па аднаўленню навакольнага асяроддзя ў месцах былога базіравання расійскіх войскаў стратэгічнага прызначэння. А таму і наша задача — дэталёва абследаваць экалагічны стан тэрыторыі кожнага былога ваеннага гарадка, кожнай базы. Неабходна вызначыць, забруджаныя яны ці не, а калі так, то хто канкрэтна ў гэтым вінаваты, якія меры неабходны для аднаўлення экалагічнага статусу такіх месцаў.

Распрацоўваюцца і планы аднаўлення такіх тэрыторый, бо патрабаванні да кожнай з іх розныя. Скажам, каля Пастаў на месцы ваеннага гарадка цяпер узводзіцца дзіцячы аздараўленчы цэнтр — тут экалагічныя патрабаванні самыя жорсткія. Калі ж недзе будзе размяшчацца, скажам, прамысловая вытворчасць, то ўзровень патрабаванняў, зразумела, больш нізкі.

**— Планаванне гэтае аб'ектыўна можна толькі вітаць. Аднак увесь настрой псуе самая што ні на ёсць празаічная думка: хто ж на ўсё гэта будзе выдзяляць сродкі? Тым больш, што з Расійскай Федэрацыяй у нас існуе дамоўленасць па «нулявому варыянту», калі яна ў экалагічным плане нічога нам не павінна.**

— Так, расіяне скасавалі нам даўгі па энергарэсурсах, а мы ім — сумы па расходах на аднаўленне і рэкультывацыю тэрыторый былых баз і гарадкоў. Цяпер гэтыя работы Беларусь будзе аплачваць сама.

Аднак асаблівых праблем тут не бачу, таму і заўважу: калі хтосьці заводзіць размову аб неабходнасці многіх мільярдаў долараў, той памыляецца. У прынцыпе, узнікла пытанне толькі па Паставах, і менавіта па самой ваеннай базе (не па ваеннаму гарадку — падкрэсліваю гэта!) — там выявілі невялікае забруджванне свінцом і даволі моцнае — нафтапрадуктамі.



Мы праверылі такія аб'екты ў Ружанах, на месцы дыслакацыі былой Мазырскай дывізіі, і пераканаліся: асаблівага забруджвання там няма.

**— А якія падыходы, Міхаіл Іванавіч, вызначым па Клічаўскаму раёну, дзе знаходзіцца «славуты» палігон у Дубна? Там жа эколагам не падступіцца, і вы самі ведаеце чаму.**

— Тут ужо зусім іншая справа. Гэта тэма праектаў па лініі закона Нана—Лугара не датычыцца. Не ўваходзіць яна і ў дамоўленасці па «нулявому варыянту» дагавора з Расіяй.

У Беларусі ёсць чатыры такія аб'екты, і цяпер на іх працуюць змешаныя расійска-беларускія камісіі. Гэта ўпамянёнае вамі Дубна, дзе больш як 3 тысячы гектараў бомбакідальнага палігона, а таксама — мішэннае поле, нашпігаванае бомбамі і снарадамі, якія не ўзарваліся. Ужо падлічана сума на ўпарадкаванне тэрыторыі, вядуцца з расійскім бокам і перамовы аб аплаце будучых работ. Так што тут будуць затрачвацца ўжо не беларускія рублі. Такі ж падыход будзе і да астатніх падобных аб'ектаў — «Гомель-30», «Коласава».

**— Нельга не зрабіць акцэнт і на збудаваннях пускавых комплексаў «Крона», якіх у Беларусі налічваўся не адзін дзесятак. Адзін такі комплекс у свой час узарвалі — па «новай» амерыканскай тэхналогіі — і атрымалі вялікі экалагічны ўрон, а менавіта: павалены на сотню метраў лес, горы шчэбню і бетону.**

— Комплексы «Крона» ў «нулявы варыянт» з Расіяй не ўваходзяць, затое яны фігуруюць у праграмах закона Нана—Лугара.

Калі Расія з гэтых стартавых пляцовак свае ракеты вывезла, то яна павінна была (па пагадненню) гэтыя збудаванні знішчыць. Аднак першы ўжо вопыт паказаў нам усю складанасць праблемы. Таму мы ў міністэрстве і забаранілі выконваць работы па такой недасканалай тэхналогіі. Як міністр я выдаў адпаведны загад — і не выконваць яго ніхто не мае права, у тым ліку і вайскоўцы. Вось калі амерыканскі бок прапануе нам бяспечную тэхналогію знішчэння комплексаў «Крона», то тады мы і дадзім дазвол на гэтыя работы. Цяпер у ЗША, наколькі мне вядома, сталі займацца гэтым пытаннем больш канкрэтна: у прыватнасці, папярэдне выдзяляюць на распрацоўку новай тэхналогіі для «разборак» з той жа «Кронай» каля пяці мільёнаў долараў.

Іншага рашэння і быць не павінна. Бо нішчыць беларускую прыроду ніхто нікому не дазволіць. Пускавы комплекс «Крона» па сутнасці ўяўляе сабой бетонную таўсценную пляцоўку 18 на 80 метраў. Што добрага будзе, калі ўсю гэтую махіну ўзняць выбухам у паветра і абрушыць на беларускі бор? І так — дзесяткі разоў...

**— Давайце, Міхаіл Іванавіч, сыдземся на тым, што ніякай асаблівай пагрозы гэтыя апусцелыя стартавыя комплексы ні ЗША, ні краінам Заходняй Еўропы сёння ўжо не нясуць. Напэўна, засталося ў бяз'ядзернай Беларусі нешта іншае, што іх непакоіць больш.**

— Як, дарэчы, і нас саміх. Вось адна такая небяспека — кампаненты ракетнага паліва, якія пакінулі ў Беларусі расійскія войскі, у тым ліку і славуты меланж, аб праблемах з якім дастаткова пісала і газета «Звязда».

Гэта вельмі сур'ёзнае пытанне, і яго трымае пад жорсткім кантролем наша міністэрства, нават і сам Прэзідэнт, якому аб стане праблемы рэгулярна дакладваецца. Сёння распрацоўваецца ўстаноўка па утылізацыі меланжу, адпаведная тэхналогія.

**— Але ж я добра ведаю, якое тут мноства праблем. І адна з іх — фінансаванне праекта.**

— Сёння дыхаць лягчэй: стала вядома, што грошы на ажыццяўленне праекта дасць амерыканскі бок — менавіта па той жа праграме закона Нана—Лугара. Дамоўленасць наконт гэтага нядаўна дасягнута — з дапамогай Мінабароны Беларусі.

**— Упэўнены, Міхаіл Іванавіч, што многія чытачы зададуцца пытаннем: чаму ўзнікаюць такія двухсэнсавасць і выбіральнасць. Бо відавочна, што на знішчэнне ўстановак тыпу «Крона», таго ж меланжу па праграмах закона Нана—Лугара грошы знаходзяцца, а вось калі трэба ў наваколлі былых расійскіх ваенных баз аднавіць нармальнае для чалавека прыроднае асяроддзе, то сродкаў не знойдзеш днём з агнём.**

— Я думаю, чытачам час ужо ведаць пра некаторыя, скажам так, «нюансы». Справа ў тым, што і на знішчэнне ўстановак «Крона» сродкі з амерыканскага боку выдзяляюцца, скажу шчыра, толькі пад вялікім ціскам. Аднойчы я сам як міністр прама заявіў чарговай замежнай камісіі: па прапанаванай вамі тэхналогіі падрываць гэтыя пляцоўкі не будзем — няхай яны так і застануцца. Толькі тады нашы партнёры моцна задумаліся і нешта прапанавалі. А дапамога па знішчэнню меланжу? Тут таксама ўсё зразумела: калі хтосьці мае ракетнае паліва, то заўсёды можа заправіць ім баявую ракету. Атрымліваецца, што для Захаду ёсць вялікі сэнс дапамагаць Беларусі ў справе яго знішчэння.

**— Вось і прыйшлі мы з вамі да старой як свет высновы: кожны думае пра сябе, кіруецца сваімі інтарэсамі. Калі так, то напаследак хацелася б спытаць, што ў нас робіцца ў сувязі з вывадам расійскіх войскаў стратэгічнага прызначэння? Каб хоць у гэтым выпадку ў нас у далейшым менш «выплывала» незразумелых страт.**

— Тое, што некалькі гадоў назад вывад часцей расійскай арміі меў характар бязладна-хаатычны, вядома многім. Цяпер ужо не тое. Сёння гэты працэс — пад жорсткім кантролем з беларускага боку. І ў першую чаргу — у адносінах да стратэгічных часцей.

Калі яны ад'язджаюць, то здаюць нам ваенныя гарадкі і базы афіцыйным парадкам. У нас адпрацавана методыка абследавання экалагічнага стану такіх аб'ектаў, яна зацверджана нашым Міністэрствам прыродных рэсурсаў і аховы навакольнага асяроддзя і ўзгоднена з міністэрствамі абароны Беларусі і Расіі. Дарэчы, расійскі бок прызнаў нашу методыку, пагадзіўся з тымі крытэрыямі і параметрамі, па якіх мы вызначаем узровень забруджвання тэрыторый, аб'ектаў, ступень экалагічнага ўрону і г. д.

Для гэтай работы ў Мінпрыроды маюцца спецыяльныя службы — навукова-тэхнічны цэнтр «Экасвет» і геалагічнае падраздзяленне. Яны забяспечаны дакладнай апаратурай і прыборамі, якія на кожнай пакідаемай ваеннай базе заўсёды знойдуць любы шкодны элемент, хоць бы і ў самай малой канцэнтрацыі.

У мяне ёсць усе падставы адказна заявіць, што ні на адным ваенным аб'екце, які ўжо выслабанены ад войскаў, радыеактыўнага забруджвання няма. Падобныя пытанні міністэрства выпусціць са свайго поля зроку проста не мае права.

**Інтэрв'ю правёў Валерый ЧАРНЯЎСКІ.**
**Фота Яўгена ПЯСЕЦКАГА.**

***ПРАВАВЫ ПРАКТЫКУМ***

## Кожны трэці злачынца пазбягае пакарання...

***Менавіта такая сітуацыя склалася сёння ў справе выканання прыродаахоўных законаў: злачынствы ёсць — вінаватых няма***

***Нагнятаць страсці, перажоўваючы чарговыя крымінальныя жахі, мэтай сабе не ставім. А коратка раскажам для пачатку пра просценькую справу аб незаконным адстрэле дзіка ў Клецкім раёне. Паколькі справа ўжо «пахавана», то прозвішчы «герояў і выканаўцаў», само сабой, не называюцца.***

***Пад падазрэнне адразу трапіў кіраўнік (і адначасова паляўнічы) немалога рангу з суседняга Салігорскага раёна Р. разам са сваёй кампаніяй. Аднак і па сённяшні дзень невядома, хто фактычна забіў дзіка. Мясцовая міліцыя ўстанавіць гэтага не змагла. Ці не захацела?***

***Дарэчы, гэтай справай даўно ўжо ніхто і не займаецца. Правёўшы расследаванне ў вышэйшай ступені нядбайна і бязграматна, літаральна заблудзіўшыся ў трох соснах, у Клецкім райаддзеле міліцыі палічылі за лепшае вынесці ў студзені гэтага года пастанову аб адмове ва ўзбуджэнні крымінальнай справы.***

***Вось якая «складаная» справа атрымалася! Ці ёсць сэнс сёння дэталёва разглядаць і разбірацца, якую адказнасць павінны былі несці «невядомыя» злосныя браканьеры — крымінальную ці «проста» адміністрацыйную? Сэнс вось у чым: праваапарушэнне, безумоўна, мела месца, але з-за бяздзеяння і непрафесіяналізму работнікаў райаддзела ўнутраных спраў асобу парушальніка ўстанавіць ужо немагчыма, ніхто не заплаціў за забітага дзіка нават адміністрацыйнага штрафу. Цяпер тая «асоба» сядзіць у сваёй хаце і пасміхаецца.***

***Якую з'яву мы назіраем? Як яна называецца? Не будзем займацца пустым маралізаваннем, а дадзім слова афіцыйнаму дакументу: «Эфектыўнасць работы ў гэтым напрамку з году ў год працягвае заставацца нездавальняючай. З 36 вывучаных крымінальных спраў прыпынена 13, ці кожная трэцяя. Па асобных матэрыялах дапускаюцца незаконныя адмовы ва ўзбуджэнні крымінальных спраў. Многія парушальнікі зямельнага, ляснога, заканадаўства аб ахове і выкарыстанні жывёльнага свету пазбягаюць не толькі крымінальнай, але і адміністрацыйнай адказнасці па віне работнікаў органаў унутраных спраў. Гэта з'яўляецца вынікам таго, што аператыўна-вышуковыя мерапрыемствы і дазнанне па справах указанай катэгорыі праводзяцца павярхоўна і некваліфікавана».***

*(З прадстаўлення «Аб ліквідацыі парушэнняў закона пры правядзенні дазнання па матэрыялах і справах аб злачынствах у сферы аховы навакольнага асяроддзя», накіраванага Мінскай міжраённай прыродаахоўнай пракуратурай ва ўпраўленне ўнутраных спраў Мінскага аблвыканкома.)*

***Дык што ў нас робіцца? Чаму праваахоўныя органы глядзяць праз пальцы на актыўную дзейнасць знішчальнікаў прыроды і ўсяго жывога? Якія, між іншым, «працуюць на перспектыву» — і ад такой «перспектывы» праз 15—20 гадоў стане моташна ўсяму грамадству, усяму народу, калі толькі і застанецца, што жыць на голай чарнобыльскай зямлі.***

***Разнастайныя аспекты небяспечнай тэндэнцыі газеце дапамагае раскрыць Мінскі міжраённы прыродаахоўны пракурор старшы саветнік юстыцыі Васіль ДЗЕМІДОВІЧ.***

*(Заканчэнне на 2-й стар. спецвыпуску).*

# Кожны трэці злачынца пазбягае пакарання...



Фота Яўгена ПЯСЕЦКАГА.

*(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар. спецвыпуску).*

## Капітан любіць казкі

**— Усё складваецца, па спартыўнай тэрміналогіі, з лікам «адзін—адзін»: якая раскрывальнасць у сферы агульнакрымінальнай злачыннасці, такая і па справах, якія ўзнікаюць, вобразна кажучы, на ўлонні прыроды. Гэтаму спрыяе і пазіцыя многіх мясцовых органаў міліцыі, калі ў ход пускаюцца адмовы ва ўзбуджэнні крымінальнай справы, яе прыпыненне ці наогул спыненне ўсякага расследавання.**

**Васіль Мікалаевіч, што за ўсім гэтым стаіць? Дзе грань, калі сапраўды няма падстаў узбуджаць справу, а з другога боку — цалкам магчымыя тактычныя «хады канём», каб проста не працаваць?**

— У свой час наша прыродаахоўная пракуратура сумесна з пракуратурай Мінскай вобласці абагульніла практыку работы па крымінальных справах па пэўных артыкулах Крымінальнага кодэкса за апошнія два гады. Пра адзін з асноўных вывадаў гэтай маштабнай праверкі ўжо сказана: сапраўды, трэцяя частка з вывучаных спраў, якія былі спачатку ўзбуджаны, была потым прыпынена. Можна і падлічыць, колькі злачынцаў такім чынам «схаваліся» ад закона.

Ці трэба тлумачыць: калі крымінальная справа ўзбуджана — значыць ёсць і састаў злачынства, «у прыродзе» абавязкова маецца асоба, якая ў ім вінавата. Калі мы гэту асобу не выявілі, то ў чым мы такім чынам распісаліся?

Вось мясцовая міліцыя выносіць, скажам, пастанову аб спыненні справы. І часта гэта робіцца толькі ў выніку няякаснага правядзення расследавання. Злачынца ж можа толькі падзякаваць такой «рабоце».

Хоць іншы раз і здараецца, што на месцах ва ўзбуджэнні крымінальнай справы адмаўляюць абгрунтавана. Возьмем тое ж паляванне на дзікоў, як яно разглядаецца сёння: калі яно арганізавана без выкарыстання транспартных сродкаў, то ў такім разе састаў злачынства не ўзнікае, хоць браканьерства тут ёсць. Але ж далёка не ва ўсіх выпадках ва ўзбуджэнні крымінальнай справы адмаўляецца правільна! Вось у чым галоўная бяда.

У ходзе праверкі мы ўважліва прагледзелі 29 спраў, па якіх мясцовымі органамі правапарадку раней было ў крымінальным расследаванні адмоўлена. І па гэтых адкладзеных у бок матэрыялах мы ўзбудзілі... 4 крымінальныя справы! Што азначае: па кожнаму сёмаму матэрыялу мясцовыя следчыя былі абавязаны працаваць, але вырашылі за лепшае гэтыя справы «спусціць на тармазах». А гэта ж толькі малая колькасць — тое, што ўдалося праверыць!

Адкуль усё гэта ідзе? Спачатку зраблю, скажам так, прамежкавыя высновы. У работнікаў мясцовых праваахоўных органаў няма элементарнага жадання займацца гэтымі «нуднымі», «другараднымі» справамі. Думаю таксама, што дзе-нідзе падспудна спрацоўваюць і пэўныя мясцовыя інтарэсы. Даказаць прама гэта цяжка, але і практыка, і вядомае ўсім прафесіяналам так званае «шостае» пачуццё гавораць менавіта за гэта.

**— Я думаю, Васіль Мікалаевіч, што калі ўгледзецца ў матэрыялы праверкі, то механізм падобнага «неўмяшання» ў дастатковай ступені выяўляецца ў выпадку з браканьерамі — жыхарамі горада Старыя Дарогі Г. Хмелевым, А. Сушчэняй, В. Лычавым, Н. Мядзведзем і А. Сасноўскім. На спецыяльна абсталяваным аўтамабілі яны ўпалявалі дзіка. Калі ж іх злавілі «на гарачым» і знайшлі ў машыне забітага звера, а потым дапыталі, то яны сачынілі дзіцячую казачку: маўляў, хацелі «паганяць кабаноў», якія шкодзілі бульбе, пасеянай іх прыяцелем...**

— Гэтую справу, дарэчы, мы перадалі ў Слуцкі суд. Усім пяцярым пракуратура прад'явіла абвінавачанне па артыкулу 163, частка 2 Крымінальнага кодэкса — за незаконнае паляванне з выкарыстаннем аўтамататранспартных сродкаў.

Браканьеры прымацавалі на «УАЗік» спецыяльныя фары для «пошуку» і ноччу заявіліся на машыне ва ўрочышча, што ў Пухавіцкім раёне. У перыяд года, забаронены для палявання, незаконна забілі дзіка, гэта значыць учынілі злачынства.

Міліцыя, калі затрымала браканьераў і ўстанавіла факт незаконнага палявання, узяла ў іх тлумачэнні. Пасля чаго Пухавіцкі РАУС накіраваў усе матэрыялы па тэрытарыяльнай прыналежнасці ў Слуцк. А потым...

А потым капітан міліцыі са Слуцкага ГРАУС В. Сыцько... незаконна выносіць пастанову аб адмове ва ўзбуджэнні крымінальнай справы. Ён, бачыце, палічыў, што ў гэтым факце няма саставу злачынства, а маюцца толькі прыметы адміністрацыйнага правапарушэння. Выказаў і аргументы: хлопцы, маўляў, выехалі не спецыяльна на паляванне, а менавіта каб «папужаць кабаноў». Што пра такую логіку скажаш?

**— Браканьеры знайшлі сабе няйначай як новага «сябра», які з ахвотай прыняў на веру іх казачку. А як жа тады спецыяльнае абсталяванне на машыне, каб ямчэй было паляваць? Ды і само прымяненне для палявання аўтамабіля, на што звяртаецца ўвага палажэннямі Крымінальнага кодэкса? Атрымліваецца, што В. Сыцько матываваў сваё рашэнне даволі слаба?**

— Капітан міліцыі, па сутнасці, яго ніяк не матываваў. Само паляванне, яго матывы значэння тут не маюць, паколькі маецца сам факт і яго вынікі. Акрамя таго, калі хтосьці сабраўся сцерагчы пасевы і «адганяць» кабаноў, то гэтым і трэба займацца, а не гойсаць упяцярых са стрэльбамі на машыне, шукаючы дзічыну.

**— Што характэрна, Васіль Мікалаевіч: калегі В. Сыцько з Пухавіч факт злоснага браканьерства ўстанавілі, а ён сам гэтага «ва ўпор не бачыць». Дзіўны для супрацоўніка праваахоўных органаў «дальтанізм» — не бачыць, дзе чорнае, а дзе белае. Аб чым наогул гаворыць такі, я сказаў бы, нядобрасумленны падыход да разбору справы?**

— У прынцыпе — менавіта аб нядобрасумленнай пазіцыі, калі супрацоўнік міліцыі адмаўляе ва ўзбуджэнні крымінальнай справы па канкрэтнаму злачынству. Па сутнасці — нават аб утойванні злачынства ад уліку.

**— Значыць, можна канстатаваць: міліцэйскі чын дапамог браканьерам (хацеў ён таго ці не) пазбегнуць крымінальнай адказнасці. Так?**

**Якія тады рэпрэсаліі можна прымяніць у адносінах да капітана міліцыі В. Сыцько?**

— Мы падрыхтавалі адпаведнае прадстаўленне ў адрас УУС Мінаблвыканкома, у якім паставілі пытанне аб прыцягненні да дысцыплінарнай адказнасці ўсіх тых работнікаў, хто вінаваты ў такіх дзеяннях. Уздзеянне дакумент меў такое, якое і чакалася, але пра гэта пагаворым крыху пазней.

Дадам яшчэ, што мы самі ўзбудзілі крымінальную справу, прынялі яго ў маю, як міжраённага прыродаахоўнага пракурора, вытворчасць. Усім пяцярым прад'яўлена адпаведнае абвінавачанне.

Прыклады, калі на месцах незаконна адмаўляюць ва ўзбуджэнні крымінальных спраў, не адзінкавыя. Гэта было зафіксавана ў Старых Дарогах, Барысаўскім раёне і іншых мясцінах. У пракуратуры па такіх, скажам так, «забытых» фактах былі ўзбуджаны тры крымінальныя справы, якіх раней органы міліцыі ўзбуджаць і не збіраліся.

## «Дарагі Ватсан, гэта ж элементарна!»

**— Факты падштурхоўваюць і да такой думкі: да адмоўных вынікаў пры расследаваннях злачынстваў іншы раз прыводзяць звычайная лянота і дрымучы непрафесіяналізм следчых. Няўжо яны развучыліся працаваць? Ці наогул не ўмелі?**

**Што можна сказаць, напрыклад, пра сітуацыю, калі ў Амгавіцкай паляўнічай дачы, што ў Слуцкім раёне, знайшлі рэшткі забітага лася? Егер і паляўніцтвазнавец паказваюць, што каля доміка паляўнічага была кроў і поўсць лася, — следчы на гэта нуль увагі. Мясцовыя жыхары даводзяць, што непадалёку круціліся ў лесе на аўтамабілі даволі салідныя асобы з райцэнтра — следчы і гэта прапускае міма вушэй. Няўжо слуцкаму следству трэба наймаць на паўстаўкі, скажам, геніяльнага Шэрлака Холмса з яго славутай лупай? Няхай бы павучыў мясцовых сышчыкаў углядацца ў сляды і іншым элементарным рэчам.**

**Якім будзе ваш, Васіль Мікалаевіч, каментарый на гэты раз?**

— Пракуратура вывучыла гэту сітуацыю і зрабіла свае высновы. У сувязі з паступіўшай у міліцыю заявай (пасля выяўлення рэштак забітага лася) 25 снежня мінулага года была ўзбуджана крымінальная справа і прынята да вытворчасці інспектарам па дазнанню Слуцкага ГРАУС В. Брагунцом. А 26 студзеня гэтага года ён ужо вынес пастанову аб прыпыненні дазнання па гэтай справе.

Тут можна сказаць толькі адно: В. Брагунец правёў работу няякасна і павярхоўна. Гэтак жа «класна» спрацаваў і старшы следчы В. Цэдзік, які домік паляўнічага, напрыклад, не аглядаў(!) наогул. Нікім не правяралася і магчымасць дачынення да браканьерства і тых самых «салідных» асоб са Слуцка.

**— Значыць, маючы на руках абсалютна няпоўныя даныя, інспектар хуценька выносіць рашэнне аб прыпыненні справы. Чаго ж вартая такая «падстава»?**

— Прыпыніў ён справу па форме, можа, і правільна. Па сутнасці ж яе трэба было б прыпыняць толькі тады, калі выкананы ўсе следчыя дзеянні, вычарпаны ўсе магчымасці для выяўлення асоб, вінаватых ва ўчыненні злачынства. Тут жа, як бачым, не зроблена многае з таго, што неабходна было выканаць па гэтай справе. А таму нашай пракуратурай і ўнесена прадстаўленне пракурору Мінскай вобласці аб адмене пастановы аб прыпыненні дазнання і аднаўленні вытворчасці па справе.

## Толькі паспрабуй мяне пакараць!..

**— Стараннасць наадварот, жаданне чаго б гэта ні каштавала «закрыць» справу вельмі выразна праяўляюцца, калі на сцежках браканьерскага палявання сутыкаюцца, скажам так, калегі па цэху. Маю на ўвазе выпадак, калі ў Івянецкім лясніцтве Валожынскага лясгаса быў устаноўлены факт незаконнага адстрэлу дзіка. Пяць паляўнічых, якія «неслі варту» каля сваёй ахвяры, прад'явіць свае дакументы егеру лясніцтва адмовіліся. І кім жа гэтыя «браты-паляўнічыя» аказаліся?**

— Расследаванне праводзіў інспектар Валожынскага РАУС старшы лейтэнант міліцыі А. Зянько. Ён змог устанавіць уладальнікаў тых аўтамабіляў, якія былі выяўлены ў лесе непадалёк ад месца незаконнага палявання. Імі аказаліся асобы... з сістэмы МУС.

У ходзе ж далейшага следства тыя паляўнічыя, якія «дзяжурылі» каля кабана, егеру для правядзення апазнання прадстаўлены не былі. Апошні ж, між іншым, тых асоб мог бы і апазнаць. Атрымліваецца, што і тут спрацавалі нейкія ўнутраныя спружыны. Якая выснова? Галоўнага па крымінальнай справе не зрабілі, затое прынялі рашэнне аб яе прыпыненні.

**— Вось і бачым, Васіль Мікалаевіч, што пад рознымі соусамі — усё тая ж тэндэнцыя: так ці інакш, але справу трэба «пахаваць». Відаць, у прыведзеным выпадку папаліся асобы дастаткова высокага палёту — і са сваёй жа міліцэйскай сістэмы. А з такімі навошта псаваць дружбу і ўвогуле выносіць смецце з «міліцэйскай хаты»? Ці дойдуць калі-небудзь такія справы да суда?**

— Так, наша праверка паказала, што справы, звязаныя з незаконным адстрэлам дзікіх жывёл, накіроўваюцца ў суды крайне рэдка. Адна з прычын гэтага ў тым, што дазнанне па справах указанай катэгорыі праводзяць, як правіла, участковыя інспектары, спецыялісты не самай высокай кваліфікацыі. Адсюль і адпаведныя «вынікі».

Аднак такое тлумачэнне будзе няпоўным. Адносіны на месцах да пытанняў аховы жывёльнага свету і навакольнага асяроддзя, а значыць, адпаведна, і да ўзнікшых у гэтай сферы спраў — як да другарадных. Не дзіўна, што такія крымінальныя справы да судоў часта проста не даходзяць. Суд іх таму і не разбірае, а ў выніку асобы, учыніўшыя злачынствы, не выяўляюцца і, зразумела, не караюцца.

## На другім плане — значыць « у загоне»

**— Усе прыведзеныя факты ўказваюць на адно: не спрацоўвае адзін з галоўных прынцыпаў — менавіта прынцып непазбежнасці пакарання за ўчыненае злачынства. Ці трэба вам, юрысту-прафесіяналу з вялікім стажам даказваць, якое гэта зло — усёдазволенасць і беспакаранасць?**

— Сёння гэта найвастрэйшая праблема. Мы з вамі ўзялі толькі адну катэгорыю спраў — са сферы злачынстваў у галіне аховы навакольнага асяроддзя. А ёсць жа і шмат чаго іншага: «звычайная» крымінальшчына — крадзяжы, забойствы, рабаванні, разбой, злачынствы на транспарце, эканамічная злачыннасць і г. д. і г. д.

Але пры ўсім тым хіба злачыннасць у сферы аховы прыроднага асяроддзя сапраўды нейкая «другарадная» і прыносіць меншую шкоду? Гадоў праз 10—15 абсалютна для ўсіх зробіцца відавочным, якую сапраўдную шкоду нясе яна з сабой. А многія бачаць гэта ўжо і зараз. Неабходна задумацца над тым, які ўрон наносіць гэтая злачыннасць усяму грамадству, яго здароваму будучаму ў нашай прыродзе, якую парушальнікі і злачынцы бязлітасна знішчаюць. Менавіта таму і нельга ўсю прыродаахоўную работу, у тым ліку і барацьбу з крыміналам, адносіць на так званы другі план.

**— Відаць, можна, Васіль Мікалаевіч, канстатаваць, што раскрывальнасць крымінальных спраў ва ўзгаданай сферы слабая — па аб'ектыўных і суб'ектыўных прычынах. Так, органы ўнутраных спраў сёння сапраўды захліствае вал агульнакрымінальнай злачыннасці, няма дастатковай тэхнічнай базы.**

**А з другога боку, далёка не заўсёды адсутнасць у міліцыі «мерседэсаў» для пагонь адмоўна ўплывае на паспяховае вядзенне крымінальных спраў. Прыведзеныя ж прыклады і паказваюць, што за ўсімі тыповымі скаргамі часта хаваюцца проста няўменне, а то і нежаданне працаваць. Не трэба ніякіх «мерседэсаў» і тэхнічных навінак, каб пры расследаваннях выконваць прасцейшыя следчыя дзеянні, чаму вучаць нават у «сярэдняй» школе міліцыі. Вядома, выказаную пазіцыю можна і крытыкаваць — яна вельмі адкрытая...**

— Па некаторых дэталях можна было б і паспрачацца, але з многім мушу пагадзіцца. Чаго сёння патрабуе час? Добрасумленных адносінаў да сваіх абавязкаў на кожным рабочым месцы кожнага работніка праваахоўных органаў. Крымінальная сітуацыя цяпер такая, што сказанага не трэба і тлумачыць.

Тым не менш, адразу напрошваецца адзін характэрны штрых: чамусьці ў праваахоўнай сістэме існуе думка — калі справы прыродаахоўнай, скажам так, катэгорыі ў нечым «другарадныя», то яны ніякай складанасці ў правядзенні дазнання не ўяўляюць. Сапраўды, ёсць справы «просценькія» (хоць і іх не даводзяць да канца як след). А ўзнікаюць жа і зусім няпростыя, далёка не відавочныя. Вось калі следчым неабходна прымяняць усе свае веды, уменне і ўпартасць — а гэтага часта і няма.

**— Відавочна, што пара ўжо асудзіць надуманую сістэму міліцэйскіх «прыярытэтаў»: маўляў, калі забойства адбылося ў горадзе, то трэба, як кажуць, са скуры вылезці, але знайсці забойцу. Калі ж у лесе незаконна забілі лася, то можна, нічога не зрабіўшы, справу і прыкрыць.**

— Наша пракуратура ставіцца да гэтай з'явы прынцыпова. У накіраваным у адрас кіраўніцтва УУС Мінаблвыканкома прадстаўленні мы, у прыватнасці, якраз і ставім пытанне ў адносінах да лейтэнанта міліцыі В. Кійко, супрацоўніка Старадарожскага РАУС, — аб прыцягненні яго да дысцыплінарнай адказнасці за допушчаную валакіту пры расследаванні канкрэтнай справы. Адначасова ўказваем і на тое, што на ранейшыя нашы сігналы УУС не рэагавала.

Затое наша апошняе прадстаўленне, з усімі яго сур'ёзнымі высновамі, выклікала ва ўпраўленні ўнутраных спраў рэагаванне ўвогуле прынцыповае. Да заўваг і вывадаў прыродаахоўнай пракуратуры там аднесліся належным чынам.

Прадстаўнікі УУС сумесна з нашымі работнікамі дэталёва разабралі кожны факт, прыведзены ў нашых матэрыялах. Пасля чаго адбылося сур'ёзнае пасяджэнне калегіі УУС Мінскага аблвыканкома з неабходнымі ў гэтай сітуацыі «аргвывадамі».

Ва ўсе раёны, дзе пракуратурай былі ўзбуджаны крымінальныя справы (чаго раней не зрабілі мясцовыя РАУС) і адзначаны негатыўныя моманты ў рабоце раённай міліцыі, выехалі прадстаўнікі УУС для праверкі і ўзяцця тлумачэнняў у тых службовых асоб, па віне якіх былі допушчаны парушэнні.

Гэта ў дастатковай ступені гаворыць аб тым, што ў абласным упраўленні ўнутраных спраў збіраюцца сур'ёзна падысці да праблемы паблажлівых адносінаў да парушальнікаў прыродаахоўнага заканадаўства, у прыватнасці, і законаў — увогуле. Можна было б узяць такі курс і раней, але ўсё ж такі лепш позна, чым ніколі.

**Гутарыў Валерый ЧАРНЯЎСКІ.**

*СУМНЫ ПРАГНОЗ*

# Кадмій і свінец наступаюць

***Прачытаў у «Звяздзе» артыкул пра «пякельны кактэйль», дзе выказваецца занепакоенасць адносна экалагічна чыстага харчавання, таму і прапаную свае думкі.***

Найперш трэба адзначыць, што чалавек — жывёльная істота, якая існуе ў прыродзе. У параўнанні з навакольным асяроддзем планеты Зямля чалавек з'яўляецца маладым элементам гэтай сістэмы. Па сведчанню некаторых гісторыкаў, чалавек пачаў падпарадкоўваць сабе прыроду каля 10.000 гадоў таму, але непасрэдны тэхнагенны выбух пачаўся недзе на мяжы XI — XVII стагоддзяў.

Вось з гэтага моманту і пачынаюцца істотныя супярэчнасці паміж фізіялагічнай прыродай чалавека і яго рэальным жыццём. Гэта значыць, супярэчнасці паміж эвалюцыйна выпрацаванымі механізмамі прыстасавання чалавечага арганізма да прыродных умоў і тым асяроддзем, якое чалавек сам сабе стварае.

Склалася парадаксальная сітуацыя, якая існуе і дагэтуль: чым больш камфортныя ўмовы жыцця стварае сабе чалавек, чым больш лекаў выдумляе, тым больш ён сябе труціць і псуе прыроду. Чым далей, тым больш прыкладаў гэтага мы назіраем. Фактычна чалавек сам сабе і прыродзе абвясціў экалагічную вайну, і сілы апошняй ужо на зыходзе. Мінулае дзесяцігоддзе, напрыклад, «прынесла» асабліва шмат розных катаклізмаў, змен клімату, значныя аварыі і катастрофы ў тэхнічных сферах дзейнасці чалавецтва.

Адной з такіх праблем з'яўляецца атручэнне вады і глебы тэхнагеннымі выкідамі. Напрыклад, паводле даных вучоных АН Беларусі, у некаторых месцах утрыманне нітратаў перавышае бяспечную мяжу нават у падземных водах. «Нітратная» калодзежная вада — з'ява, на жаль, даволі распаўсюджаная; здараліся нават выпадкі атручэння людзей, якія яе пілі.

Да ўсіх бед на «звычайнае» экалагічнае забруджванне наклалася яшчэ радыеактыўнае. Фактычна носьбітамі радыяцыі з'яўляюцца таксама і цяжкія металы.

Вядома, што менавіта ўнутраная радыяцыя, якая трапіла ў арганізм праз харчаванне, найбольш небяспечная. Шляхі радыеактыўных металаў аднолькавыя са шляхамі нерадыеактыўных цяжкіх металаў. Сумна, але факт, што імі тэрыторыя нашай дзяржавы забруджана даволі істотна. Таму гэты «нябачны вораг» і задаў праблем нашаму здароўю.

У 1995 годзе ў параўнанні з 1994 годам адзначаецца павелічэнне смяротнасці праз захворванні органаў стрававання — на 15 працэнтаў, органаў крывятварэння — на 7,6. Гэта не выпадкова: менавіта ў гэтыя сістэмы найперш трапляюць злучэнні цяжкіх металаў і, адпаведна, тут адбываецца найбольшае ўздзеянне радыеактыўных элементаў.

У Інстытуце біяарганічнай хіміі ўжо некалькі гадоў вядуцца фундаментальныя даследаванні ўплыву раставаральных формаў цяжкіх металаў на малекулярныя механізмы работы жывых арганізмаў. Мы даследавалі ўздзеянне іонаў свінцу, кадмію, стронцыю, цэзію на пратэіны крыві і печані. Пратэіны — гэта асноўны матэрыял (прыклад — бялок курынага яйка) пабудовы жывых арганізмаў. Высветлена, што гэтыя іоны ўздзейнічаюць на пратэіны крыві, якія адказваюць за імунітэт арганізма, за звязванне тыраксіну (гармона шчытападобнай залозы) і г. д.

Вельмі важны орган — печань, якая нагадвае своеасаблівы «хімічны камбінат», дзе адбываецца абясшкоджванне многіх небяспечных злучэнняў, што трапілі ў арганізм. Вынікі нашых эксперыментаў паказваюць, што пад уздзеяннем цяжкіх металаў мяняецца работа адной з «ліній абясшкоджвання».

Зразумела, гэта толькі фундаментальныя даследаванні, якія вяліся на пацуках і трусах, але можна ўжо зрабіць і некаторыя практычныя высновы. Назапашванне ў арганізме цяжкіх металаў (асабліва свінцу і кадмію) можа выклікаць сур'ёзныя захворванні.

...Прыйшла і прайшла сумная гадавіна катастрофы на ЧАЭС. Вучоныя без усякіх сумненняў даказалі прамую сувязь росту захворванняў людзей з наступствамі ядзернай катастрофы. Работы нашага інстытута даюць падставы прадказаць вынікі сумеснага ўздзеяння радыяцыі, радыенуклідаў і солей цяжкіх металаў. У значнай ступені негатыўны сумесны «эфект» памнажаецца.

Вынікам такой работы «таксікантаў» з'яўляецца праграсіраванне экалагічных захворванняў. Калі ў 1992 годзе хваробы толькі кожнага пятага-шостага чалавека звязвалі з нездавальняючым станам навакольнага асяроддзя, то сёння (па некаторых ацэнках) — ужо кожнага трэцяга. З другога боку, не відаць асаблівага эфекту ад слабых экалагічных дзяржаўных праграм, нізкай актыўнасці грамадскіх экалагічных арганізацый.

Экалагічная катастрофа, відавочна, цалкам рэальная для ўсёй планеты, але да нас яна «бліжэй». Багатыя краіны могуць дазволіць сабе ажыццяўляць вялікія экалагічныя праекты, стымуляваць вытворчасць дарагіх, экалагічна чыстых прадуктаў. Што ж можам мы? Чакаць? І толькі?

Наша будучыня і будучыня нашых дзяцей залежаць ад нас саміх. Цывілізаваныя краіны даўно паказалі шляхі выхаду з такіх сітуацый, і нам тут не трэба шукаць нейкіх асаблівых «беларускіх» дарог, якія могуць завесці і ў багну.

**Валерый ГРЫЦУК,**
**эколаг, кандыдат хімічных навук, старшы навуковы супрацоўнік АН Беларусі.**

*ПІСЬМЫ Ў РЭДАКЦЫЮ*

## Людзі ў душах нешта страцілі...

Мне ўжо 72 гады. Яшчэ з дзіцячага ўзросту памяць добра захавала, што рабілі сяляне з рознага роду смеццем, бытавымі адходамі. Каб не забруджваць зямлю, на пясчаным месцы капалі глыбокую яму, ссыпалі туды адходы, засыпалі торфам і закопвалі. На гэтым месцы некалькі гадоў запар збіралі добры ўраджай. Зямля была чыстая, нічым не захламлялася.

Тады зямля была ўласнай! А што можна ўбачыць сёння каля вёсак, гарадоў? Калі пахадзіць па сцежках і прасёлках каля вёсак, абавязкова можна ўбачыць сметнікі, звалкі. Чаго там толькі няма! І бітая цэгла, і шкло, і абломкі шыферу, блокаў, і стары посуд, і газавыя пліты, і паламаныя пральныя машыны, і электраправодку — сіл няма пералічваць.

Калі б гэта было толькі ў адным месцы! Дык жа не. Вывозяць друз туды, дзе бліжэй ці зручней пад'ехаць: на лясныя праезды, на ўскраек лесу, каля дарог — нават і цэнтральных. Усё гэта наводзіць на сумны роздум. Няўжо мы такія абыякавыя да роднай прыроды? Чаму так рэзка змяніліся адносіны людзей да зямлі? У век тэхнічнага прагрэсу, здавалася б, няцяжка выкапаць траншэю і закапаць смецце. Але ж не даходзіць да людзей, што яны самі сабе шкодзяць!

Які філосаф дасць рады: што ж сёння з намі адбываецца? Што рабіць і на што разлічваць, каб прывесці да парадку ўсіх гэтых «неахайных»? Няўжо толькі і спадзявацца, што на сілу ўлады?

**Іван БЯЛЯЎСКІ,**
*Смаргонскі раён, в. Вішнева.*

## Нахабныя «гаспадары»

Каля нашага горада пабудаваны Маладзёжны пасёлак. Тут калісьці будаваліся прыватныя дамы. Каля старога пасёлка пачалі ўзводзіць і новыя двухпавярховыя катэджы.

Кожны жыхар павінен, як вядома, мець яму для смецця і каналізацыю. Рабілі раней бетонную яму і праводзілі каналізацыйныя трубы. Яму заўсёды накрывалі накрыўкай. Між іншым, каля Маладзёжнага расце лес, гэта зялёная зона адпачынку.

У новым пасёлку жыхары задумалі зрабіць вось якую «каналізацыю». Яны высеклі прасеку ў лесе і праклалі ад жылых дамоў трубы вялікага дыяметру на адлегласць да 500 метраў. У лесе экскаватарам выкапалі катлаван, і паліліся ў яго па трубах адходы. У лесе смецце, вялікія высечкі. Камерсанты закупляюць свіней, а адходы вывозяць у лес.

Дырэктар лясгаса на ўсё гэта адказаў па тэлефоне, што ад каналізацыі лесу нічога не зробіцца. Атрымліваецца, што багаценькім ды нахабненькім з тым жа лесам і ўвогуле прыродай можна абыходзіцца як са сваёй уласнасцю? Хто ж прыменіць законы да тых, хто здзекуецца з іх і наогул смяецца над бяссіллем дзяржаўных органаў?

**Іван ВЯРЭЙКА,**
**член Геаграфічнага таварыства АН Беларусі.**
г. Ліда.

*ЭКАЛОГІЯ — ВЫТВОРЧАСЦЬ*

# Свіння як эквівалент... бензіну і біягазу

***З дзікіх жывёл, па ўсім відаць, чалавек першай прыручыў, зрабіў свойскай менавіта свінню. З яе і пачыналася аселая жывёлагадоўля — занятак з дагістарычных часоў ганаровы, які потым неаднаразова быў апеты ў старажытнай паэзіі. У «Іліядзе» сляпога Гамера, напрыклад, Парыс, сын Прыяма, названы «богоравным свинопасом».***

***Адным словам, з усіх насельнікаў фермаў і хлявоў свіння — наша самая даўняя «знаёмая». За ўсё тое, што яна дае чалавеку, а менавіта за сала і мяса, напрыклад, удзячныя датчане паставілі свінні ў сваёй краіне сапраўдны помнік.***

***Аднак хопіць «лірыкі». Пяройдзем да будзённай сельскагаспадарчай эканамічнай «прозы». Свіння, між іншым, не толькі карміцелька, яна мае і прамыя адносіны, як гэта ні дзіўна для каго-небудзь прагучыць, да энергетыкі. І не трэба здзіўляцца: з адходаў жыццядзейнасці (а прасцей — экскрэментаў) сотні свіней у выніку так званага метанавага зброджвання за год можна атрымаць такую колькасць біягазу, якая эквівалентна двум тонам бензіну. Асабліва паспяхова выкарыстоўваецца гэтая крыніца энергіі ў Індыі і Кітаі.***

Шырокую вядомасць у былым Саюзе ў свой час атрымала гаспадарка «Огрэ» (Латвія). Біятэхналогія там была ўкаранёна на свінаферме на 2,5 тысячы галоў. Прычым прыкладна палова біягазу, які атрымліваўся ў спецыяльных рэактарах пры тэмпературы плюс 54 градусы, ішла на гаспадарчыя патрэбы. Астатняя колькасць расходавалася на падаграванне зброджваемай масы. Інакш кажучы, каэфіцыент карыснага дзеяння (ККД) біягазавай установкі быў прыкладна роўны ў гэтай гаспадарцы 50 працэнтам. Вось што значыць стварыць «камфартабельныя» ўмовы для жыццядзейнасці мікраарганізмаў у метантанках! Калі ўлічыць, што на паўднёвым захадзе нашай рэспублікі клімат цяплейшы, чым у «Огрэ», то і энергетычны баланс біягазавых установак у нас можа аказацца яшчэ больш станоўчым.

Пры рэжыме зброджвання, які прымяняўся ў гэтай гаспадарцы, арганіка атрымлівалася практычна без хваробных бактэрый і гельмінтаў. Адначасова адбывалася і так званая дэзадарацыя вадкага гною: ліквідоўваўся непрыемны пах. І што не менш важна — насенне пустазелля пры гэтым губляе сваю жыццяздольнасць. Дарэчы, пры такім метадзе выпрабляюцца па сутнасці экалагічна чыстыя ўгнаенні.



У гэтай сувязі чытач можа спытаць, а якое становішча з біяэнергетычнымі ўстаноўкамі ў нас? Адказ, прама скажам, несуцяшальны: поспехі тут больш чым сціплыя. Можна спаслацца толькі на аграфірму «Колас» Камянецкага раёна Брэсцкай вобласці, дзе зманціраваны камплект абсталявання па біялагічнай апрацоўцы сцёкаў пад назвай «Кобас». Ён складаецца з рэактара, падагравальніка-вытрымальніка, помпы-дазатара, сістэмы аўтаматычнага кіравання і іншых вузлоў і дэталяў. Зброджванне гною з вільготнасцю 89—96 працэнтаў (а не сцёкаў буйных свінакомплексаў, дзе вады ў 3-4 разы больш) адбываецца ў герметычна закрытых рэактарах, або метантанках.

У адрозненне ад тэхналогіі ў «Огрэ», там падтрымліваецца тэмпература каля плюс 40 градусаў. Гэта можа прывесці да павышэння ККД біягазавай установкі, паколькі менш затрачваецца цяпла на яе падаграванне. Разам з тым могуць пагаршацца санітарныя паказчыкі якасці вадкай арганікі (праўда, для канчатковага высвятлення гэтага пытання патрабуюцца дадатковыя даследаванні).

Нават просты пералік абсталявання, якое прымяняецца для анаэробнай (безкіслароднай) апрацоўкі адходаў жывёлы, сведчыць аб неабходнасці яго кваліфікаванага абслугоўвання. Сапраўды, куды працней вывезці на поле беспадсцілачны гной цыстэрнамі-раскідвальнікамі! Вось толькі як быць са стратамі элементаў харчавання раслін і пераўшчыльненнем глебы? Прадбачу пярэчанне: калі дрэнны мабільны транспарт, прымяняйце ўгнойвальнае паліванне. Менавіта так і робяць на практыцы. Цяпер у рэспубліцы дажджавальнымі машынамі ўносіцца амаль кожная трэцяя тона сцёкаў.

Але хіба і гэта тэхналогія не патрабуе ўдасканальвання? Хто хоць бы адзін раз пабываў на землеробчых палях арашэння, той ведае, пачым фунт ліха. Для іншых напомню, што пры дажджаванні сцёкамі атмасфернае паветра можа забруджвацца на адлегласці паўкіламетра і больш. Адсюль — абгрунтаваныя скаргі насельніцтва, якое жыве ў зоне дзеяння жывёлагадоўчых комплексаў. Дадайце да гэтага неспрыяльныя ўмовы для работы абслуговага персаналу — і тады стане зразумелай мэтазгоднасць паляпшэння сістэмы падрыхтоўкі сцёкаў для ўгнойвальнага палівання.

Тэарэтычна землеробчыя палі арашэння ствараюцца для прадухілення забруджвання навакольнага асяроддзя. Практычна ж на большасці жывёлагадоўчых комплексаў сваю прыродаахоўную ролю яны выконваюць толькі напалову. Асноўныя прычыны гэтага: недастатковае абеззаражванне сцёкаў, а таксама лішняе іх унясенне на сельскагаспадарчыя ўгоддзі. У выніку забруджваюцца глеба, расліны і прыродныя воды. У значнай меры палепшыць экалагічную абстаноўку збраджванне адходаў жывёлы ў герметычных рэзервуарах. Штучная ж апрацоўка ў аэратанках (у прысутнасці кіслароду) менш эфектыўная.

Перш за ўсё яна патрабуе вялікіх затрат энергіі, якая, як вядома, у вялікім дэфіцыце. Да таго ж пасля аэратанкаў арганіка зніжае сваю ўгнойвальную каштоўнасць з-за страт азоту, чаго нельга сказаць аб метанавым зброджванні. У гэтай сувязі аэратанкі мэтазгодныя перш за ўсё на тых комплексах (саўгас-камбінат «Барысаўскі»), сцёкі якіх паступаюць у далейшым на гарадскія ачышчальныя збудаванні. Дарэчы, у названай гаспадарцы дзейнічае больш дасканалая тэхналогія абеззаражвання, чым прымянялася раней. Яна ўкаранёна дзякуючы стараннем перш за ўсё галоўнага інжынера саўгаса-камбіната Анатоля Семіжона.

Аднак мы далёкія ад думкі, што толькі біягазавыя ўстаноўкі могуць вырашыць усе праблемы. Перш чым іх пабудаваць, трэба паклапаціцца аб змяншэнні ўтрымання вады ў адходах жывёлагадоўчых комплексаў, паколькі без гэтага выхад біягазу будзе мінімальным і затраты на падобную тэхналогію наўрад ці акупяцца. Але ў любым выпадку сёння няма падстаў скептычна ставіцца да такіх установак, лічачы іх чарговай утопіяй. Нездарма ў Расіі, напрыклад, пачалі іх серыйны выпуск нават для адносна невялікіх сялянскіх гаспадарак, якія маюць ад 2 да 6 кароў або 20—60 свіней. Хацелася б, каб гэта тэхналогія знайшла прапіску і ў Беларусі, традыцыйна беднай на энергарэсурсы.

Перапрацоўка арганічных адходаў вырашае аднačасова экалагічную, аграхімічную (вытворчасць высакаякасных угнаенняў) і энергетычную праблемы. Менавіта з гэтых пазіцый і вызначаецца эфектыўнасць падобнай тэхналогіі. Дарэчы, у ФРГ за кошт біягазу плануецца пакрыць да 25 працэнтаў свайго энергетычнага балансу. Практычна не меншыя лічбы называюцца і ў Англіі. У нас жа энергетычны патэнцыял біямасы (галоўным чынам адходаў жывёлы) складае, як мінімум, 3-4 мільёны тон умоўнага паліва.

Ды хіба справа толькі ў гэтым! Успомніце хоць бы якасць арганікі на сучасных фермах. Колькі там насення пустазелля і іншай нечысці! Вось і даводзіцца нашай дзяржаве затрачваць апошнія запасы валюты на закупку за мяжой хімічных сродкаў аховы раслін. Прымяненне ж зброджанага гною садзейнічае эканоміі сродкаў і па гэтаму артыкулу, не гаворачы ўжо аб энергазберажэнні і паляпшэнні экалагічнай сітуацыі.

Праўда, калі заходзіць размова аб метантанках, нельга ўпадаць у іншую крайнасць, як гэта іншы раз робяць асобныя спецыялісты. Напрыклад, іншы раз прыводзіцца інфармацыя аб тым, што пасля апрацоўкі ў біягазавых устаноўках у вадкіх арганічных угнаеннях знікае аміячны азот. На самай жа справе адноснае яго ўтрыманне, наадварот, павялічваецца, што дабратворна адбіваецца на велічыні ўраджаю. Памылковае сцвярджэнне і аб зніжэнні канцэнтрацыі нітратаў у раслінах пры выкарыстанні зброджанага гною незалежна ад прымяняемых дозаў. На самай жа справе пры лішнім яго ўнясенні гэтых злучэнняў хоць адбаўляй. Так што ва ўсім патрэбна мера. Інакш і метанавае зброджванне адходаў жывёлы не палепшыць экалагічнай абстаноўкі ў сельскай гаспадарцы.

**Пётр ЦІВО,**
**доктар сельскагаспадарчых навук.**

*НАША НЯПРОСТАЕ СЁННЯ*

# Надзея не памрэ ніколі. Пры ўмове, што яе не будуць адымаць

## Аздараўленне дзяцей-чарнобыльцаў: сацыяльна-эканамічны «партрэт» на экалагічным фоне

**Удзіцячым аздараўленча-адукацыйным цэнтры «Надзея» чатыры дні таму назад адбылося, па прынятаму тут вызначэнню, невялікае ўнутранае свята. Ды і сама падзея ўвогуле была з разраду сціплых: споўнілася два гады з таго дня, калі цэнтр упершыню адчыніў свае дзверы для дзяцей з чарнобыльскай зоны. З тае пары тут прайшлі аздараўленне каля трох тысяч дзяцей.**

**На святкаванне аўтару гэтых радкоў трапіць не ўдалося. Не бяда, навярстаем, як гаворыцца, другім разам. І зноў наслухаемся разнастайных фактаў і жыццёвых гісторый, наколькі немудрагелістых, настолькі і высока-чалавечых.**

**У мінулы ж свой прыезд у цэнтр выслухаў ад кіраўніка прэс-службы ўстановы Наталлі Зайцавай цэлы сюжэт. Так, менавіта сюжэт, якога хапіла б і на жыццё, і на аповесць.**

❑❑❑

Адразу трэба сказаць, што без нямецкіх валанцёраў — аматараў-будаўнікоў комплекс цэнтра «Надзея» вывесці са стану будаўніцтва ў разрад дзеючых устаноў так хутка не ўдалося б. Адзін з нямецкіх рабочых, Фрыдрых Ам, на той час прыязджаў працаваць на дабрачынных пачатках ужо трэці раз. Неяк разгаварыўся з Наталляй і прызнаўся, чаму ён ездзіць у Беларусь на будаўніцтва цэнтра для дзяцей.

Выявілася, што ў Фрыдрыха ёсць сям'я і дзеці. А вось саміх дзяцей, як яны ёсць, ён любіць не вельмі: не даў Бог такога таленту. «Я прыязджаю сюды, — сказаў Фрыдрых Ам, — каб выканаць свой доўг і абавязак».

Вось вам пачатак завязкі і аповесці, і нават рамана. Аказваецца, бацька Фрыдрыха, ваенны свяшчэннік, у 41-ым разам з гітлераўскай арміяй прыйшоў у Беларусь ажыццяўляць славуты «дранг нах остэн».

Што было, тое быллём парасло. Тым больш, што нават наш родны бацька-дыктатар Сталін любіў раз-пораз паўтараць: сын за бацьку не адказчык. Аднак такое пачуццё віны, якое нараджаецца ў высокай душы, штурхае да пэўных дзеянняў і якое нясе ў сваім жыцці далёка ўжо немалады немец Фрыдрых Ам, выклікае разуменне і павагу.

— Аднойчы ён прыехаў на грузавіку з чарговым гуманітарным грузам, — успамінае Н. Зайцава, — пасля чаго раптам... падружыўся з нашымі дзецьмі. І ўсё дзякуючы таму, што Фрыдрых добра спявае; калі ён у настроі, то часта запявае песню «Данке!» («Дзякуй!»). Дзеці з нашага ансамбля аднойчы сталі яму падпяваць: «Данке!» Можна ўявіць, як скаланулася душа «сённяшняга» немца, грамадзяніна дэмакратычнай ФРГ, і сына таго самага свяшчэнніка-салдата. Ён настолькі расхваляваўся, што пабег курыць, і калі яго адшукалі, то ён выціраў слёзы на вачах. Потым сказаў: «Такога са мной яшчэ не было. Неяк раптам, адразу я многае зразумеў, што такое беларускія людзі і іх дзеці. Наогул, людзям на зямлі трэба не ваяваць, а гадаваць дзяцей, любіць іх і песціць. Хоць я і не нарадзіўся педагогам, але цяпер гэта выразна адчуваю».

Зловім (хоць і завочна) нашага нямецкага сябра на слове і запішам у агульны актыў: дзяцей трэба любіць. Ад сябе дададзім: а дзяцей Чарнобыля — удвая!

❑❑❑

Каб давесці чытачам «Звязды» з чарнобыльскай зоны, дзеці якіх, магчыма, яшчэ не карысталіся паслугамі ўпамянёнай установы, — пра які канкрэтна аздараўленчы цэнтр ідзе размова, прывяду колькі радкоў з ранейшых сваіх публікацый:

«На сённяшні дзень у чарнобыльскай праблематыцы няма, відаць, больш важнага пытання, чым стварэнне ў Беларусі ўласнай базы рэабілітацыі, аздараўлення і адпачынку людзей, якія пацярпелі ад «мірнага» атама. І асабліва — дзяцей.

Упершыню ў практыцы за гэтую высакародную і нялёгкую справу ўзялося і дабрачыннае таварыства. Гуманітарныя фонды «Жыццё пасля Чарнобыля» (Мінск), «Лебен нах Чарнобыль» (Франкфурт-на-Майне), грамадская арганізацыя «Меннерарбайт» Евангелістычнай царквы Германіі і Дзяржкамчарнобыль Рэспублікі Беларусь летам 1992 года заснавалі беларуска-германскае дабрачыннае прадпрыемства «Надзея—XXI стагоддзе», мэта якога — будаўніцтва і будучая эксплуатацыя цэнтра аздараўлення і рэабілітацыі чарнобыльскіх дзяцей і падлеткаў з адначасовым навучальным працэсам».

Цытаваць самога сябе — занятак у журналісцкай справе не самы зручны. У дадзенай жа сітуацыі такі ход мае свае перавагі, бо стварае магчымасць для параўнання: прыведзеныя думкі былі выказаны амаль тры гады таму назад — і што за мінулы час змянілася? Ды амаль нічога — у тым сэнсе, што дзяржава ўласнай базы для лячэння і аздараўлення чарнобыльцаў і іх дзяцей, якая адпавядала б абвешчаным раней стандартам, не мае і сёння. З'явіліся, праўда, новыя «стандарты», але пра гэта — крыху пазней.

Адзінае, што саграvae душу: за гэты час аздараўленча-адукацыйны цэнтр «Надзея» выйшаў з «будаўнічых пялёнак» і стаў менавіта такім комплексам, які ўяўлялі сабе яго стваральнікі. Хоць бы і на першым этапе.

Нішто не забараняе прывесці думку, напрыклад, каардынатара міжнароднай праграмы «ЮНЕСКО—Чарнобыль» Бруно Лефеўра, якога аўтар гэтай публікацыі ўгаварыў наведаць «Надзею». Тады спецыяліст міжнароднага ўзроўню выказаўся: «Што датычыць архітэктуры і размяшчэння, то цэнтр добра спланаваны, праект удаўся. Да таго ж тут выдатная прырода, сасновы бор, маляўнічае возера — усё гэта мае немалое значэнне ў рэабілітацыйным працэсе». Праўда, пан Лефеўр так і не выканаў свайго абяцання, якое ён даў два гады назад: ЮНЕСКО на гэты цэнтр ніякай увагі так і не звярнула. Відаць, і там не вельмі паважаюць ініцыятывы «розных» дабрачынцаў, калі яны ўзнікаюць па-за межамі распрацаваных на вышэйшым узроўні планаў. Што ж, такая яна «сэ ля ві», як быццам бы гаворацъ французы...

❑❑❑

Паспрабуем запоўніць, вобразна кажучы, «анкету» адзінага пакуль у Беларусі аздараўленчага цэнтра еўрапейскага ўзроўню. «Хросных бацькоў» мы ўжо ведаем — іх чатыры, год нараджэння вядомы таксама. Месца нараджэння — 25 кіламетраў ад горада Вілейкі Мінскай вобласці, у маляўнічым лесе на беразе Вілейскага вадасховішча. Гэтую «графу» можна лічыць і своеасаблівым экалагічным пашпартам цэнтра «Надзея», месца размяшчэння якога ў свой час і выбіралася па самых жорсткіх патрабаваннях экалогіі.





Вельмі дакладна сфармуляваў сваю думку дырэктар цэнтра Вячаслаў Макушынскі:

— Калі мы вырашаем праблему аздараўлення дзяцей, пацярпеўшых ад чарнобыльскай катастрофы, то, натуральна, гэту работу і праводзіць трэба ў экалагічна чыстым асяроддзі, у адпаведнай прыроднай абстаноўцы. З такім узроўнем праектавання ўсяго комплексу і яго асобных памяшканняў, каб і сам цэнтр адпавядаў навакольнаму асяроддзю.

Менавіта такая абстаноўка для актыўнай жыццядзейнасці дзяцей, якія прыязджаюць сюды на аздараўленне, створана ў «Надзеі». Светлыя і ўтульныя пакоі для пражывання, такія ж вучэбныя класы, памяшканні для разнастайных гурткоў і пазашкольных заняткаў ужо ствараюць той самы настрой бадзёрасці і аптымізму, без чаго «чарнобыльскую» псіхалогію ў дзіцяці распраміць цяжка. Плюс, вядома, здаровае, збалансаванае харчаванне, заняткі фізкультурай, актыўны адпачынак.

Прыйшлося, між іншым, правесці і невялікае журналісцкае расследаванне на тэму: шасціразовае харчаванне дзяцей — ці не перабольшанне гэта? Думаю, што чытачы аўтара зразумеюць, бо, сапраўды, дзе яшчэ ў сённяшні час пачуеш пра такую раскошу? Высветлілася, што ўсё так і ёсць. Дырэктар школы цэнтра Ала Вінічук, загінаючы пальцы на руцэ, пералічыла ўсё па парадку:

— У сталовай, у агульнай групе, дзеці харчуюцца тры разы на дзень — «звычайныя» снеданне, абед і вячэра. А ў дадатак: другое снеданне педагогі, якія прывозяць да нас свае класы, прыносяць вучням у школу — гэта звычайна садавіна. Полудзень дзеці атрымліваюць у сваіх пакоях, як і другую вячэру.

На першы раз запомніць увесь гэты пералік неяк і цяжкавата.

Зразумела, маючы ўсё гэта, дзеці, аслабленыя пражываннем у мясцінах, забруджаных цэзіем, хутка прыходзяць у норму (глядзі прывезеныя з цэнтра фотаздымкі). Пражыўшы і правучыўшыся тут цэлую вучэбную чвэрць, хлопчыкі і дзяўчынкі ад'язджаюць дамоў паздаравелыя і павесялелыя.

Ідылія, няйначай, хоць і з чарнобыльскім адценнем, скажа хто-небудзь з чытачоў. Але чым яна можа скончыцца, калі ў чарнобыльскіх дзяцей узяць ды і адняць права, дадзенае ім законам, на бясплатнае, адзін раз у год, аздараўленне? А такія спробы, як вядома, былі. Што тады наогул застанецца ім у жыцці?

Яшчэ ў час мінулага навучальнага года аўтар сустракаўся і гутарыў у цэнтры з немалой колькасцю педагогаў са школ, што ў забруджанай зоне, якія суправаджаюць сваіх вучняў у «Надзею» і жывуць тут разам з імі. Некаторыя маналогі настаўнікаў проста немагчыма не прывесці. Хоць бы часткова.

❑❑❑

**Ніна Яўгенаўна ПАДАНІК, выкладчыца фізкультуры сярэдняй школы № 1 г. Чэрыкава:**

— Я вяду ўрокі ў класах з шостага па адзінаццаты, і мне па маёй спецыяльнасці больш магчымасцей назіраць за здароўем вучняў. Выразна відаць: нашы дзеці аслабленыя. У нас і фізкультурныя нарматывы слабейшыя, чым у звычайных школах, але і ў іх многія не ўкладваюцца. Хтосьці за шэсць хвілін можа прабегчы 1800 метраў, хтосьці — 1600, здараецца, што хлопчык пасля двухсот метраў спыняецца і трымаецца за дрэва.

Вось яшчэ адзін прыклад аслабленасці дзяцей. Неяк ездзілі з цэнтра ў Мінскі цырк. Дарогі ўсяго на паўтары гадзіны, а многія і гэтага не маглі перанесці: каго нудзіла, у кагосьці балела галава.

Са мной у «Надзею» прыехалі 19 дзяцей — у некаторых з іх павялічана шчытападобная залоза. Шмат агульнай паталогіі: у кагосьці непарадак з сэрцам (гэта ў такім узросце!), другі хварэе на страўнік і г.д. Усё ідзе ад няякаснага харчавання і ўнутранага апраменьвання.

Бацькі сем'яў у нас атрымліваюць дапамогу на дзяцей — 9 тысяч рублёў у месяц на чалавека. І гэта яшчэ трэба ў людзей адабраць?!

Я асабіста выхоўваю толькі адно дзіця, і мне ніяк не хапае тых 700 тысяч, што я атрымліваю на рабоце. Харчаванне ў нас дома некаларыйнае, здараецца, што прадукты трапляюцца з радыенуклідамі. Добра яшчэ, што хоць у школе ёсць для вучняў бясплатнае двухразовае харчаванне (цяпер і гэта ўлады адабралі. — Аўт.). Што дзеці маюць тут, у «Надзеі», і дома ў Чэрыкаве — немагчыма параўнаць, гэта неба і зямля.

Мае выхаванцы, зразумела, сумуюць па бацьках, аднак ехаць адсюль назад, у зону, не вельмі хочуць — у свае шэрыя будні, дзе са «збалансаванага» і «ўзмоцненага» харчавання ёсць толькі бульба і капуста. А ў дзяржаўнай чарнобыльскай праграме, між іншым, наконт гэтага запісана зусім іншае.

Наогул, усім тым, хто імкнецца адабраць у чарнобыльскага люду апошнія льготы, я параіла б правесці ў нас свой месячны адпачынак, а яшчэ лепш — пажыць год-два. Тады гэтыя кіраўнікі многае зразумелі б.

❑❑❑

**Пётр Фёдаравіч ГУТАР, настаўнік Вяліканямкоўскай сярэдняй школы (вёска Вялікія Нямкі Веткаўскага раёна). Выкладае адразу чатыры прадметы — чарчэнне, маляванне, геаграфію і працу (настаўнікаў у забруджанай зоне не хапае):**

— Пытаецеся, як нам жывецца? Цяжка. З выплатай зарплаты ў нас, як і ўсюды, перабоі. У нашай вёсцы я яшчэ лічуся «шчаслівчыкам», бо атрымліваю за вядзенне чатырох прадметаў 900 тысяч рублёў. А тым, хто заняты ў сельгасвытворчасці, зусім цяжка.

Я прывёз на аздараўленне 13 вучняў — поўнасцю клас. На выгляд яны быццам бы і здаровыя, адчуваюць сябе, здаецца, нядрэнна. А ўсё роўна стамляльнасць ёсць, адхіленні ў стане здароўя адчуваюцца. Ва ўсіх назіраецца павелічэнне шчытападобнай залозы, што пацвярджаюць праверкі нашых мясцовых урачоў. Гэта і не дзіўна, бо ўзровень забруджвання радыенуклідамі ў нашай мясцовасці крыху вышэй як 5 кюры на квадратны кіламетр.

Харчаванне тут і там параўноўваць проста немагчыма. У нас паўнацэннага харчавання дзеці не маюць, і іх арганізмы, пашкоджаныя Чарнобылем, слабеюць.

У нашым саўгасе «Нямкі» працаўнікі атрымліваюць у месяц па 400 тысяч рублёў (і тыя пастаянна затрымліваюць). На што, на якія грошы могуць мае аднавяскоўцы купіць сваім дзецям неабходныя для іх прадукты харчавання? А ў маёй групе каля дзесяці дзяцей якраз з такіх сем'яў.

І пры ўсім гэтым узяць ды адняць у чарнобыльцаў ільготы? Пазбавіць дзяцей магчымасці хоць раз у год прайсці курс аздараўлення? Ніяк такога не разумею. Для дзяцей з зоны гэта будзе сапраўдная трагедыя, катастрофа нумар два.

Сёння (пакуль!) у нашай школе вучняў яшчэ бясплатна кормяць — стараюцца ў гэтым плане нам дапамагчы і ў раёне. А ў выхадныя — яны дома. Што каларыйнага яны там могуць з'есці, якіх такіх сокаў папіць? Толькі і пакаштуюць, што бульбу, агурок, капусту з уласнага агарода, не заўсёды чыстыя ад радыенуклідаў.

У гэтым годзе планавалі пабыць з вучнямі ў «Надзеі» яшчэ раз. А вось як атрымаецца? Толькі я ведаю адно: без аздараўлення чарнобыльскім дзецям жыцця няма.

Адсюль раблю простую выснову: ільготы насельніцтву забруджанай зоны трэба ўтрымліваць чаго б гэта ні каштавала — і асабліва дзецям. Адабралі льготы ў сем'яў — пакаралі тых жа дзяцей. Дык іх і так ужо аднойчы пакараў Чарнобыль. Наколькі памятаю, былыя ўрады на гэтую святую справу не замахваліся.

❑❑❑

Такія вось «непрычасаныя маналогі». Мае субяседнікі не рыхтавалі іх на паперках для «трыбуннай прамовы», а гаварылі ад душы, як думалі. Дык ці трэба звяртаць увагу на нейкую, можа быць, «шурпатасць стылю»? Галоўнае ў тым, што іх думкі поўнасцю кладуцца на сённяшнюю сітуацыю ў справе сацыяльнай і ўсякай іншай абароны чарнобыльскага насельніцтва.

Гэта ж факт, што ўрад сваім рашэнем адмяніў меры сацыяльнай абароны ў зоне з забруджаннем 1—5 кі/кв. км. А потым перавёў у яе яшчэ сотні населеных пунктаў, дзе ўзровень радыяцыі раней лічыўся больш «сур'ёзным». І адразу сотні тысяч маленькіх чарнобыльцаў апынуліся ля разбітага карыта.

Прэзідэнт Аляксандр Лукашэнка ўбачыў, як яго падстаўляе яго ж урад, і выдаў апошняму распараджэнне, каб Кабінет Міністраў распрацаваў пастанову аб аднаўленні для дзяцей з зоны льгот па аздараўленню і бясплатнаму харчаванню ў школах. Аднак ніхто і не паварушыўся. Прыйшлося самому Прэзідэнту выдаваць указ аб праве дзяцей-чарнобыльцаў на аздараўленне. А як жа з астатнім? Дзецям пакуль застаецца жыць менавіта надзеяй.

... Як мы памятаем, пажылы нямецкі грамадзянін разабраўся і ўпэўніўся, што беларускіх дзяцей немагчыма не любіць. Любяць сваіх выхаванцаў і тыя дарослыя людзі, якія працуюць у цэнтры «Надзея». А таксама актывісты чарнобыльскага руху за мяжой, якія збіраюць добраахвотныя ахвяраванні, каб фінансаваць работу цэнтра.

Застаецца толькі, каб чарнобыльскіх дзетак палюбілі высокапастаўленыя бацькі і дзядулі, якія засядаюць у нашым урадзе. Дзеці ж Чарнобыля, далібог, гэтага заслугоўваюць! Не след адбіраць у іх апошняе...

**Васіль ШАРПІЛКІН.**

***НА ЗДЫМКАХ: светлы беларускі бор акружае карпусы цэнтра «Надзея»; збіраць грыбы — мой любімы занятак; а я па грыбы яшчэ толькі паеду.***





**БЕЛАРУСКАЯ ІНТЭЛІГЕНЦЫЯ НАПРЫКАНЦЫ СТАГОДДЗЯ**

# МАЭСТРА

**1**

Яго кватэра ў доме, што па вуліцы Кульман у Мінску, дзе пражываюць найбольш вядомыя беларускія вучоныя, артысты і грамадскія дзеячы, нагадвае музей. У рабочым кабінеце Віктара Роўды на галоўным месцы — раяль. На ўсю сцяну — вялікае жывапіснае палатно. На другой сцяне — кніжныя стэлажы. А над раялем — здымкі, здымкі, здымкі — сапраўдны жыццяпіс гаспадара кватэры.

Вось Віктар Роўда, яшчэ маленькі, на старым прымітыўным ровары, з бацькамі, а вось ён жа — ужо з патрыярхам Алексіем, з папам рымскім, з праслаўленымі артыстамі, патрыярхамі харавой музыкі Густавам Эрнесаксам, Озаліньшам, Імантам Кокарам, Конрадам Кавэцкасам. У вялікіх фотаальбомах — такіх, здаецца, зараз і не бывае — я бачу Віктара Роўду на здымках, дзе прысутнічаюць генеральныя сакратары камуністычнай партыі — Хрушчоў і Брэжнеў. Як патлумачыў мне Віктар Уладзіміравіч, здымкі былі зроблены пасля выступленняў хору, якім ён кіраваў, у Крамлёўскім палацы з'ездаў. Дарэчы, неаднойчы і сам генералісімус Іосіф Сталін прысутнічаў на ўрадавых канцэртах, у якіх прымаў удзел хор з Беларусі.

Як не без падстаў лічыць Віктар Уладзіміравіч, яго шанавалі і паважалі ўлады. Напэўна, у гэтым ёсць доля праўды. Таму што для Маэстра і сапраўды стварылі ўсе ўмовы, каб ён мог займацца любімай справай, прэзентаваць Беларусь са сваім хорам як у Маскве, так і ў замежжы.

... Прыцягнуў увагу жывапісны партрэт Віктара Роўды, падараваны яму нядаўна студэнткай Беларускай акадэміі мастацтваў. Работа пакуль што без рамы, мусіць, гаспадар яшчэ не вырашыў, дзе яе размясціць. Работа гэтая, я лічу, надзвычай удалая. Псіхалагічна дакладна намаляваны вобраз чалавека, які пражыў нямала — 75 гадоў на гэтай зямлі, — не стомленага жыццём, моцнага, у чымсьці цвёрдага і рашучага; асобы значнай, неардынарнай, часта супярэчлівай; тонкай і артыстычнай натуры з вытанчанымі манерамі; чалавека, які не перастае служыць мастацтву, пакланяецца прыгажосці і стараецца не здраджваць сваім юнацкім ідэалам.

У гэтай жа кватэры не менш прывабны і другі пакой, які нагадвае пра былую славу жонкі гаспадара, спадарыні Соф'і Ваяводскай, вядомай беларускай опернай спявачкі. Яна — вельмі цікавы чалавек, у свой час вучылася ў Беларускай гімназіі ў Вільні. Вось такая сям'я. Нягледзячы, што кватэра ў Віктара Уладзіміравіча даволі вялікая па былых савецкіх стандартах, у самым цэнтры горада, мне здалося, што для іх яна не вельмі падыходзіць. Пэўна, больш адпавядаў бы духу такой сям'і, яе становішчу ў грамадстве, заслугам няхай і невялікі, але свой дом, вакол якога былі б кветкі і дрэвы, а ў пакоях шмат паветра і святла... Але прафесар не наракае. Ведае, што сучасная беларуская інтэлігенцыя жыве ў значна горшых умовах, чым ён.

Калі Віктару Уладзіміравічу збіраецца нанесці візіт, напрыклад, Уладыка Філарэт альбо калега з-за мяжы, гаспадар кватэры перад іх прыездам трохі прыбірае ў ліфце — выцірае надпісы на сценках, збірае смецце. «Якія грубыя і недарэчныя дэталі», — напэўна, нездаволена прабурчыць эстэт. Але гэта дэталі, якія так альбо інакш паказваюць наша сённяшняе жыццё, умовы, у якіх мы ўсе існуем, бескультур'е, што пануе ў грамадстве. Не ізаляваны ад усяго гэтага і славуты музыкант. Але ён навучыўся не звяртаць увагі на бытавыя нязручнасці, абстрагавацца, я сказала б, ад рэальнага жыцця, замыкацца ў коле сваіх прафесіянальных інтарэсаў, на выкананні акрэсленай для самога сябе місіі. «Для мяне самае галоўнае — спевы, музыка, рэлігія, — так акрэсліў сваё жыццёвае крэда Віктар Уладзіміравіч Роўда — прафесар, народны артыст СССР, лаўрэат дзяржаўнай прэміі Беларусі, мастацкі кіраўнік Беларускага дзяржаўнага акадэмічнага хору Дзяржтэлерадыё.

**2**

Віктар Роўда — Божы абраннік. Яму пашанцавала ў жыцці куды больш, чым многім іншым таленавітым пісьменнікам, паэтам, кампазітарам, артыстам, якія сталі ахвярамі сталінскіх разборак з «ворагамі народа», якіх аказалася так многа сярод беларускай інтэлігенцыі. Хаця па яго сацыяльнаму становішчу, (а ён нарадзіўся ў сям'і святара) Віктару Роўду быў наканаваны лёс «ворага народа». Яго бацька, сам родам з сялян, 40 гадоў праслужыў святаром у Смаргоні. Рукамі бацькі Віктара Роўды былі пабудаваны чатыры царквы. Адна з іх, у вёсцы Рыбакі, і цяпер яшчэ стаіць. Тая, што была ў Смаргоні, у час вайны згарэла, але святар зноў «падняў» яе. Але ў 1954 годзе, падчас разгулу ваяўнічага атэізму ў савецкай краіне, смаргонскія ўлады зруйнавалі пабудову. Дадам, што цяпер мясцовыя вернікі ўзводзяць на гэтым месцы новы храм...

Да гонару Віктара Уладзіміравіча, ён ніколі не здрадзіў свайму бацьку, упарта пісаў у анкетах сваё паходжанне: сын святара. А многія ў той час, як вядома, прыстасоўваліся да новых умоў, лічылі за лепшае замоўчваць некаторыя моманты сваёй біяграфіі.

— Духоўная семінарыя ў Вільні, дзе я вучыўся, — расказвае Віктар Роўда, — дала мне добрыя і грунтоўныя веды. Мы вывучалі там розныя мовы — беларускую, рускую, славянскую, нямецкую, польскую, англійскую. Нас навучалі майстэрству рыторыкі, таму мы ўмелі гаварыць пропаведзі. У нас былі выдатныя выкладчыкі, якія мелі еўрапейскую адукацыю. Разам са мною ў семінарыі вучыўся Генадзь Цітовіч, яго брат Аляксандр. Там я ўпершыню сустрэўся з Рыгорам Шырмай, Максімам Танкам, Піліпам Пестракам, убачыў ксяндза Адама Станкевіча. Я і дасюль знаходжуся пад уплывам выхавання ў семінарыі, якое было і строгім, і гуманным адначасова.

Выдатная семінарская адукацыя вельмі дапамагла В. Роўду ў жыцці. Калі размаўляеш з гэтым чалавекам, то адчуваеш, як дакладна ён выказвае свае думкі, як прыгожа будуе сказы, як многа ведае. У кансерваторыі студэнты пабойваюцца свайго прафесара — ён патрабуе, каб маладыя людзі паводзілі сябе культурна і далікатна. Не церпіць неахайнасці ні ў паводзінах, ні ў словах.

Цікава, задала я сабе пытанне, як бы склаўся лёс сына святара са Смаргоні, каб не савецкая ўлада? Выпускнік духоўнай семінарыі меў права паступаць у любы універсітэт ці акадэмію ў Варшаве. Але савецкая ўлада, якая ўсталявалася з 1939 года ў Літве, не прызнала дыплом семінарыі, і вучні гэтай навучальнай установы мусілі паступіць у звычайную мужчынскую гімназію.

Таксама страшэнным мінусам у біяграфіі Віктара Роўды магло стаць яго знаходжанне ў перыяд Вялікай Айчыннай вайны ў акупацыі. Але, на шчасце, не стала. Віктар паступае адразу ў дзве вышэйшыя навучальныя ўстановы — у медыцынскі інстытут (маці жадала бачыць сына доктарам) і ў Літоўскую дзяржаўную кансерваторыю. Толькі наяўнасць матацыкла дазваляла юнаку паўсюль паспяваць.

Нягледзячы на свае поспехі ў медыцыне, Віктар усё больш схіляецца да музыкі і спеваў. Хаця заняткі з царкоўным хорам прыносяць студэнту Роўду вялікія непрыемнасці, ён не пакідае іх. У рэшце рэшт атрымлівае дыплом кансерваторыі і едзе паступаць у аспірантуру ў Маскву.

Расказаць у газетным артыкуле, як усё гэта адбывалася, немагчыма. Нестандартныя, кур'ёзныя сітуацыі, дзіўнае шанцаванне, спрыянне і падтрымка славутага харавога дырыжора Свешнікава, кампазітара Багатырова, вучоба ў Вільнюскай кансерваторыі ў прафесара Галкоўскага — вучня кампазітара Рымскага-Корсакава — усё гэта вартае рамана ці фільма пра ўдалую кар'еру музыканта.

**3**

— Няўжо ў вас ніколі не ўзнікала канфліктаў з сістэмай? — пацікавілася я ў Віктара Уладзіміравіча.

У мяне выклікала здзіўленне, як гэты чалавек з «нячыстай» біяграфіяй, які да таго ж ніколі не ўступаў у камуністычную партыю, змог без узрушэнняў, даволі спакойна пражыць сваё жыццё, працаваць загадчыкам кафедры ў кансерваторыі, выхоўваць студэнтаў, ездзіць з хорам на гастролі за мяжу. Але напэўна не бывае правілаў без выключэнняў.

— Я заўсёды быў далёкі ад палітыкі... — так тлумачыць Віктар Уладзіміравіч унікальнасць, у пэўным сэнсе, свайго лёсу. — Няшчасце, як пазней ужо я ўсвядоміў, магло здарыцца ў любы момант, з любым чалавекам. Так, калі мы з Рыгорам Шырмай жылі ў Гродне ў інтэрнаце, то былі сведкамі таго, як па начах прыходзілі людзі ў цывільным і забіралі то аднаго, то другога хлопца. Адчування небяспекі, як ні дзіўна, не было. Мы верылі, што жывём у краіне, дзе ўсё робіцца па-справядлівасці. Куды знікалі насельнікі інтэрната, за што іх забіралі, ніхто не цікавіўся.

У 1940 годзе сын святара ўсё ж трапіў пад падазрэнне. Падчас вучобы ў Вільні Віктар вырашыў наведаць Смаргонь. Калі юнак прыйшоў у храм, да яго неўзабаве падышлі двое «таварышаў» і павялі ў аддзяленне міліцыі. Але, прымусіўшы выняць і паказаць, што ў кішэнях, мусілі з Богам адпусціць.

У Вільні ў Віктара Роўды, як ён гаворыць, ніякіх эксцэсаў з уладамі не было. Але за тое, што дырыжыраваў хорам у час Пасхі ў царкве, наладзілі, як тады было прынята, таварыскі суд. Прысудзілі: выключыць на год з кансерваторыі.

**4**

Калі Віктар Уладзіміравіч быў малы — гадоў шэсць-сем і ён даведваўся, што ў начны час па радыё будзе трансліравацца канцэрт Шаляпіна, то прасіў бацьку, каб той разбудзіў яго ў гэты час. І бацька будзіў сына...

З таго часу мінула амаль 70 гадоў. І ўвесь гэты час Віктар Уладзіміравіч быў фанатычна адданы харавым спевам. Сёння Маэстра Роўда — патрыярх харавой музыкі ў Беларусі. Яго аўтарытэт як прафесіянала бясспрэчны. Сам Віктар Уладзіміравіч лічыць сябе шчаслівым чалавекам, таму што ўдалося ажыццявіць тое, пра што марыў з маладосці.

Традыцыі харавога мастацтва ў Беларусі, як вядома, больш звязаны з народнасцю, з фальклорам. Цёткі ў вёсках спяваюць як жадаюць і як умеюць. Але гэта не ёсць высокая культура спеваў. А класічнай, акадэмічнай харавой традыцыі ў нас не было. Ініцыятарам гэтай пачэснай справы быў, па сутнасці, Рыгор Шырма. У 1939 годзе ён арганізаваў у Беластоку дзяржаўны ансамбль песні і танца. Калі Віктар Роўда, скончыўшы аспірантуру ў Маскве, вярнуўся ў Мінск, ён далучыўся да той справы, якой займаўся Шырма. За ўсе гэтыя гады (а Віктар Роўда вядзе харавы клас у кансерваторыі ўжо 40 гадоў), было падрыхтавана больш як 600 дырыжораў-харавікоў. Па ўсёй Беларусі сталі ствараццa дзесяткі хораў. Акрамя хору Шырмы ўзнік ансамбль песні і танца, які ўзначальваў Генадзь Цітовіч, цяпер ім кіруе вучань Віктара Роўды па харавому класу Міхась Дрынеўскі. Вялікімі і малымі як свецкімі, так і царкоўнымі хорамі цяпер кіруюць былыя студэнты прафесара Роўды. Калектывы гэтыя прапагандуюць высокую культуру выканання беларускай музыкі.

Хор, якім кіруе Маэстра Роўда, іншым разам так выконвае творы, што ў зале ад узрушэння слухачы плачуць.

— Гэта найвышэйшая ацэнка нашай работы, — лічыць Віктар Уладзіміравіч. — Значыць, мы знайшлі ў творы тое эмацыянальнае зерне, якое так глыбока закранула пачуцці людзей.

— Якімі якасцямі павінен валодаць чалавек, што абраў прафесію харавога дырыжора? — папыталася я ў Віктара Роўды.

— Ну, па-першае, трэба вельмі тонка адчуваць музыку, — адказаў ён. — Быць фанатыкам, педантам, надзвычай патрабавальным чалавекам, каб 70 галасоў загучалі як адзін, каб кіраваць такім складаным арганізмам, як хор.

Віктар Роўда, як ён кажа, у час канцэрта спінай адчувае, як успрымае выкананне таго ці іншага твора зала.

**5**

Хаця «блакітная кроў» не цячэ ў жылах маэстра, але нешта шляхецкае, ганарлівае прысутнічае і ў яго абліччы, і ў стылі жыцця. Яшчэ маленькім, у сваіх правінцыяльных, як кажа прафесар Роўда, «Смаргонях», чымсьці падобных на чэхаўскі гарадок, ён даведаўся, якія яны бываюць — інтэлігенты.

— У нас было шэсць-сем сем'яў мясцовых інтэлігентаў, — прыгадвае прафесар сваё далёкае дзяцінства. — Для ўсяго горада яны былі прыкладам таго, як трэба паводзіць сябе. Іх інтэлігентнасць была асаблівая — ураўнаважаная, прадбачлівая. Гэтых людзей паважалі, да іх думкі прыслухоўваліся ўлады. Усім ладам свайго жыцця яны сцвярджалі высокія маральныя каштоўнасці.

Сёння ў нас, здавалася б, павінна быць значна больш інтэлігенцыі, чым было раней. У нас жа шмат акадэмікаў, выкладчыкаў, настаўнікаў, людзей творчых прафесій... Але ж як мала сярод іх сапраўдных інтэлігентаў! Прыйдзеш іншым разам у госці да, здавалася б, інтэлігентных людзей. А там адзін аднаму перадаюць дакурыць недакурак, адзін не дапіў чарку — дапівае іншы! Такія паводзіны распаўсюджаныя. Але знешняя культура звязана з унутранай.

Свой пратэст супраць бескультур'я прафесар выказвае даволі своеасабліва. Скажам, раскідана смецце ў калідоры, і ўсе праходзяць міма, не звяртаючы на гэта ніякай увагі. Прафесар папраўляе фрак, падыходзіць, збірае смецце ў цэлафанавы мяшок і выкідвае яго.

Віктар Уладзіміравіч лічыць, што пра цяперашнюю беларускую інтэлігенцыю як з'яву ўвогуле можна гаварыць з вялікай нацяжкай. Гэта як быццам інтэлігенцыя. Страшэнна засмучае яго і той факт, што беларуская інтэлігенцыя амаль пайшла з палітыкі.

— Ад кіравання дзяржавай інтэлігенцыя адсунута... У Вярхоўным Савеце мала пісьменнікаў, вучоных, — разважае мой субяседнік. — А хто ж тады будзе нараджаць ідэі ў галіне культуры, мастацтва, навукі, прадбачыць ход развіцця падзей, штурхаць дзяржаўны цягнік уперад?

Віктар Роўда і сапраўды супярэчлівы чалавек. Скажам, свой уласны лёс ён пабудаваў так, каб не быць заангажыраваным у палітыцы, у ідэалагічнай барацьбе. Але многія яго цяперашнія разважанні супярэчаць гэтай пазіцыі абстрагаванасці мастака ад грамадства. А можа я не так зразумела Маэстра?

Чаму ж тады такім разгубленым адчувае сябе чалавек, які ўсё сваё жыццё прысвяціў служэнню высокаму мастацтву, імкнуўся, каб да высокага, духоўнага далучаліся яго суайчыннікі?

...У часы Кесара і Нерона спявак у храме быў трэцяй асобай у дзяржаве. Спявак хору да рэвалюцыі атрымліваў 75 рублёў золатам, а лепшаму салісту плацілі 100 рублёў! Гэта ў той час, калі на тры капейкі можна было пражыць цэлы дзень.

Сёння ж спяваць у хоры можа дазволіць сабе толькі фанат. Бо аплата яго працы вельмі ўмоўная — каб толькі не памерці з голаду. І таму многія прафесіянальныя калектывы ў глыбінцы распадаюцца. А вучні славутага Маэстра, якія займаліся ў кансерваторыі і якім прадказвалі вялікую будучыню, мусяць шукаць іншую работу, часта ўвогуле не звязаную са сферай культуры.

«А культура, як дабратворная бацыла, — сказаў мне на развітанне шаноўны прафесар, — павінна пранізваць усё грамадства, поры душы і цела».

**Таццяна АНТОНАВА.**



У сям'і.

# І ГАЗУ НЕАБХОДНА АДПАВЕДНАЯ ВОПРАТКА

**Размаўляем з дырэктарам Навагрудскага завода газавай апаратуры Аляксандрам Фядотавым у яго кабінеце. Тэлефонны званок. Кароткая размова. Па ўсім відаць, што Аляксандр Іванавіч задаволены. Тлумачыць:**

**— Тэлефанавалі з Масквы. Наша прадпрыемства за ўдзел у кірмашы, што праходзіў нядаўна ў Ніжнім Ноўгарадзе, атрымала дыплом. За подпісам самога Віктара Чарнамырдзіна.**

**Разгаварыліся пра вядомы расійскі кірмаш, аб прадукцыі, якая там дэманстравалася беларусамі. Прыгадалі, з чаго пачыналася гісторыя гэтага вядомага далёка за межамі Беларусі прадпрыемства.**

*Некаторыя штрыхі да работы Навагрудскага завода газавай апаратуры*



• *Газабалонная апаратура для легкавых аўтамабіляў.*

## ВЫЗВАЛЕННЕ СТАЛА НАРАДЖЭННЕМ

Усё пачалося адразу пасля вызвалення Навагрудка ад нямецкіх захопнікаў. У жніўні 1944 года тут быў створаны райпрамкамбінат. Займаліся распілоўкаю драўніны, вырабам школьных партаў, абутку, вопраткі і нават гаспадарчага мыла. Рамантавалі сельгаспрылады, выпускалі алюмініевыя міскі. Пасля вайны ўсё гэта было неабходна людзям. Але ўжо праз дзесяць гадоў райпрамкамбінат пачынае вытворчасць чугуннага ліцця для прамысловасці і пячнога — для жыллёвага будаўніцтва.

Праз некалькі гадоў пачалі выпускаць лыжкі, бетонамяшалкі. І галоўнае — прадукцыю, якая вызначыла далейшы лёс прадпрыемства. У 1959 годзе было выраблена 15 тысяч газавых 50-літровых балонаў.

Наспела неабходнасць спецыялізацыі. Металаапрацоўчыя цэхі прамкамбіната былі выдзелены ў самастойнае прадпрыемства — завод «Металіст». Тады працавалі на ім 247 чалавек.

Не раз мне даводзілася размаўляць са старымі рабочымі колішняга «Металіста». Пачатак 60-х яны часта параўноўваюць з сённяшнім днём. Па наяўнасці праблем. Асабліва гэта датычылася пастаўкі металу. Ды і пераабсталёўвалі памяшканні, пашыралі вытворчасць. Акрамя газавых балонаў выраблялі іншую прадукцыю з металу. Нават мясарубкі.

А ў ліпені 1966 года, улічваючы спецыялізацыю завода на выпуску газавай апаратуры, «Металіст» быў пераведзены ў падпарадкаванне Міністэрства газавай прамысловасці СССР. Атрымаў і другую назву, цяперашнюю — Навагрудскі завод газавай апаратуры.

Асноўнай прадукцыяй прадпрыемства становяцца 50-літровыя газавыя балоны.

## РЭАЛЬНАСЦЬ І ПОШУК

Не ведаю, як хто, а я адчуў значнасць прадпрыемства некалькі гадоў таму. Менавіта ў пачатку 90-х на заводзе пачаўся выраб газабалоннай апаратуры для легкавых аўтамабіляў. Тэлефанавалі, прыязджалі ў Навагрудак з адной просьбай: дапамагчы абсталяваць машыну газавай сістэмай.

І, шчыра кажучы, праблем было шмат. З-за вялікай колькасці жадаючых. Існавала вялікая чарга. Цяперашні дырэктар — на той час галоўны інжынер — расказаў, што выраб сістэм менавіта ў Навагрудку пачаўся па ініцыятыве тагачаснага кіраўніка газавай і нафтавай прамысловасці СССР Віктара Чарнамырдзіна. Дакладней, ён прапанаваў такі шлях навагрудчанам. Тыя правялі выпрабаванні, атрымалі «дабро». Маюць завадчане і сертыфікат на адпаведнасць міжнародным нормам.

Вядома, сённяшні завод газавай апаратуры не параўнаць з колішнім. Колькасць працуючых — амаль дзве тысячы. Характэрна, што каля трохсот работнікаў — інжынерна-тэхнічны персанал. Вытворчыя плошчы — 62 тысячы квадратных метраў.

Цікавая адметнасць. Навагрудскі завод газавай апаратуры першым асвоіў выраб многіх вогнетушыцеляў. А мадэль ОП-10(3) адзначана залатым медалём ВДНГ СССР.

Хаця, безумоўна, найбольш вядомая прадукцыя ЗГА — газавыя балоны. Многія з нас, асабліва вяскоўцы, карыстаюцца імі штодня. Вырабляюць на заводзе таксама клапаны, вентылі, рэдуктары да гэтых балонаў; аднаканфорачныя пліты «Дачнік» і «Турыст», аўтаклавы для хатняга кансервавання. Асвоены выпуск газавых лічыльнікаў, бытавых праточных воданагравальнікаў сумесна з чэшскай фірмай «Мора».

Бясспрэчна, усю прадукцыю не варта пералічваць. Да таго ж пастаянна з'яўляюцца навінкі. Рацыяналізатарству на ЗГА — найпершая ўвага. Ёсць таксама ўчастак нестандартнага абсталявання.

## З НАДЗЕЯЙ НА ПРЭЗІДЭНТА

Без завода газавай апаратуры навагрудчанам прыйшлося б цяжкавата. Прадпрыемства дае людзям працу і кавалак хлеба, гораду — адлічэнні ў бюджэт.

Сёння не так лёгка клапаціцца аб сацыяльных выгодах для людзей. Тым не менш, на заводзе ёсць медпункт з працэдурнымі, стаматалагічнымі, гінекалагічнымі і фізіятэрапеўтычнымі кабінетамі; сауна з басейнам і спартыўная зала. Прадпрыемства мае сваё аддзяленне сувязі, ашчадную касу, цырульню, некалькі сталовак, свінакомплекс і каўбасны цэх. Ёсць два інтэрнаты і адзін дзіцячы садок.

Ведаю шмат каго з завода. Большасць кіраўнікоў — не толькі тутэйшыя, але і выхаванцы самога прадпрыемства. Таму і заводскія справы для іх — большая частка жыцця.

Наконт праблем. Яны такія ж, як і на астатніх прадпрыемствах краіны. Многія вырашаюцца. Нядаўна завод стаў акцыянерным таварыствам. У сувязі з чым ёсць задумы. Але... Аляксандр Іванавіч Фядотаў папрасіў не пісаць пра іх. Бо нядаўна ў Навагрудку быў Прэзідэнт Беларусі Аляксандр Лукашэнка. Адразу наведаў ЗГА, выслухаў прапановы завадчан. Абяцаў падтрымаць. На яго дапамогу тут моцна разлічваюць. Не забываючы, вядома, што свае праблемы ў першую чаргу ім самім і вырашаць.

**Міхась ТАЛОЧКА.**




• *Лічыльнік газавы.*



• *50-літровы газавы балон.*



• *Трыножка «Дачнік».*


• *Камплект «Турыст».*


• *Аўтаклаў.*


• *Вогнетушыцель ОП-2(3).*


• *Пліта-награвальнік*



• *Апырсквальнік ОЗ-2.*

## НАРОДНЫ КАЛЯНДАР

# КАСТРЫЧНІК

***У старажытных рымлян месяц oktober быў прысвечаны богу вайны Марсу. А старажытныя грэкі ў гэты месяц ушаноўвалі бога вінаробства Бахуса.***

***Беларуская назва дзесятага месяца года арыгінальная, яна не мае падабенства нават са славянскімі найменнямі. Яна паходзіць ад слова «кастрыца» («кастра»): у гэты час сяляне трапалі, часалі лён і каноплі, з якіх выпадала шмат кастры.***

**8. Сяргей.** У некаторых месцах гэты дзень лічылі пачаткам зімы.

**9. Іван Багаслоў** *(Багуслаў, Шаптун, Журавіннік).* Галоўная прымета гэтага дня — пачатак восеньскіх вяселляў. Сваццці і жаніхі дамаўляліся наконт дзяўчат на выданні. «Іван Багуслаў дружкі разаслаў».

**14. Пакровы** *(Пакроў, трэцяя Прачыстая).* З гэтым праваслаўным святам, назва якога тлумачыцца як пакроў (пакрывала) Маці Божай, звязана шмат прымет на будучае надвор'е. «Калі на Пакровы снег не пакрые зямлю, то і на Каляды яго не будзе», «Калі ад Пакроў да Усіх Святых (1 лістапада) краты зямлю точаць, то зіма будзе снежная і марозная», «Як на Пакроў маладзік — зіма будзе лёгкая, як «стары» месяц — суровая».

**25. Марцін** — *свята млынароў.* «Марцін святы — губіцель гагаты» — на свята елі «гагату» — гусей.

**31. Лука.** *Свята іканапісцаў.* Яшчэ адзін прысвятак — Юльян, які лічыўся абаронцам дзяцей.

## ПЕЛЕНГ-НАВІНЫ

### СЁННЯ Ў РАСІІ ДЗЕНЬ ЖАЛОБЫ

У чацвер на чыгуначным пераездзе ў выніку сутыкнення школьнага аўтобуса і лакаматыва загінула больш як 20 дзяцей — вучняў адной са школ Растова.

З нагоды гэтай трагедыі сённяшні дзень у Расіі абвешчаны днём жалобы. Па словах прэс-сакратара прэзідэнта, Барыса Ельцына ўразіла гэта падзея. Распараджэннем прэзідэнта створана ўрадавая камісія па аналізу абставінаў трагедыі і выяўленню вінаватых. Прадугледжаны кампенсацыі сем'ям загінуўшых дзяцей. Акрамя гэтага Масква гатова прыняць на лячэнне пацярпеўшых у выніку катастрофы. Па распараджэнню Ельцына ў Растоў вылецелі міністр аховы здароўя і кіраўнік адміністрацыі прэзідэнта.

### ГЕНЕРАЛ РАМАНАЎ НА ПРАЦЯГУ ГОДА НЕ ПРЫХОДЗІЦЬ У ПРЫТОМНАСЦЬ

Былому камандуючаму аб'яднанай групоўкай федэральных войскаў у Чачні генералу Анатолю Раманаву споўнілася 48 гадоў. Генерал ужо на працягу года з моманту ранення падчас выбуху ў Грозным знаходзіцца ў беспрытомным стане. Лепшыя ўрачы шпіталя імя Бурдэнкі, якія ўжывілі Раманаву нейрастымулятар, змагаюцца за яго жыццё. Указам прэзідэнта Раманаву прысвоена званне Героя Расіі і вайсковае званне генерал-палкоўніка.

### ЛІДЭРУ АПАЗІЦЫІ АРМЕНІІ ЎДАЛОСЯ ЎЦЯЧЫ

Улады Арменіі шукаюць лідэра апазіцыі Манукяна. Пра гэта журналістам заявіў прадстаўнік Міністэрства ўнутраных спраў Арменіі. Учора пасля нападу прыхільнікаў апазіцыі на будынак парламента дэпутаты Нацыянальнага сходу прагаласавалі за пазбаўленне Манукяна і яшчэ сямі дэпутатаў парламенцкага імунітэту, што дазваляе арыштаваць іх. Улады затрымалі ў чацвер чацвярых дэпутатаў па абвінавачанню ў падрыхтоўцы дзяржаўнага перавароту. Сілы бяспекі акружылі штаб-кватэру нацыянальна-дэмакратычнага саюза, які ўзначальвае Манукян. На вуліцы Ерэвана выведзены бронетранспарцёры і войскі. Становішча ў горадзе адносна спакойнае. Згодна з апублікаваным учора ўказам прэзідэнта Тэр-Петрасяна, часова забаронены любыя маніфестацыі. Паводле афіцыйных вынікаў прэзідэнцкіх выбараў, Тэр-Петрасян атрымаў 53 працэнты галасоў, а Манукян — 41 працэнт.

### ЛІДЭРЫ ІЧКЕРЫІ НА НАРАДУ Ў НАЗРАНЬ НЕ ПРЫЕХАЛІ

Лідэры чачэнскай узброенай апазіцыі Зелімхан Яндарбіеў і Аслан Масхадаў не прыехалі ў Назрань на нараду кіраўнікоў рэспублік, краёў і абласцей Паўночнага Каўказа. Яндарбіеў не прыедзе па стану здароўя. Пра гэта паведаміў віцэ-прэзідэнт ва ўрадзе апазіцыі Абамуслімаў. Ён падкрэсліў, што чачэнская дэлегацыя прысутнічае на нарадзе ў якасці назіральнікаў. Абамуслімаў зазначыў, што чачэнскі бок выступае за ўмацаванне сувязей паміж народамі Паўночнага Каўказа.

***Паводле паведамленняў радыё «Свабода», «Голас Амерыкі», «Радыё Расіі» і «Радыё РОКС».***

## ЦЯГНІК, ЯКІ РУХАЕ ЧАЛАВЕЧАЯ СІЛА

Станіслаў Пукл, самы моцны малады жыхар Маравіі, пахваліўся ў мінулым годзе, што калі б ён захацеў, то змог бы зрушыць з месца чыгуначны лакаматыў.

Яго сябры напомнілі яму пра гэта, і ён пачаў трэніроўкі. У адзін цудоўны дзень Станіслаў змог працягнуць 73-тонны лакаматыў на адлегласць 20 метраў. Гэта заняло ў яго 46 секунд.

Рэкорд быў устаноўлены на чыгуначнай станцыі Просцеёў пад падбадзёрлівыя воклічы сяброў і гледачоў.

**Фота ЧТК—БЕЛТА.**

## ІНФАРМ-КАКТЭЙЛЬ

Васьмігадоваму тэр'еру па мянушцы Фізо ў ганаровай абстаноўцы ў аўстралійскім парламенце быў уручаны медаль «Пурпурнага крыжа за мужнасць». Ён атрымаў гэту высокую ўзнагароду па прадстаўленню Каралеўскага таварыства па барацьбе з жорсткім абыходжаннем з жывёламі за ўчынак сапраўды мужны. Фізо рашуча накінуўся на паўметровую змяю, якая гатова была напасці на яго гаспадара, і загрыз рэптылію, хоць менавіта яму дасталіся ўкусы. Сабаку тэрмінова прыйшлося ўводзіць процііяддзе.

**Асашыэйтэд Прэс**

Нам з дзяцінства ўнушаюць, што лаяцца — нельга і нядобра. Аднак спецыяліст у галіне мовазнаўства з універсітэта штата Фларыда Крысці Бірс лічыць, што часы змяніліся. Цяпер, па яе назіраннях, дрэнныя словы, якія лічыліся забароненымі яшчэ гадоў дзесяць назад, сталі ў ЗША агульнаўжывальнымі і штодзень гучаць з экранаў тэлевізараў. Больш таго, вылаяўшыся, чалавек часам эфектыўна і без усялякіх лекаў скідвае напружанасць і стрэсавы стан.

**Рэйтэр**

Строгі царкоўны суд чакае бацюшку Уладзіміра — настаяцеля Троіцкай царквы сяла Іваненкава ў Башкірыі.

Бацюшка, у свеце Сяргей Талмачоў, усыпіўшы пільнасць усявышняга, на працягу двух гадоў краў ва ўласным храме. За гэты час украў іконы, царкоўную маёмасць, ахвяраванні прыхаджан на 15 мільёнаў рублёў. Узбуджана крымінальная справа. Царкоўнікі, відаць, пазбавяць свайго калегу сану.

**ЕАН.**

## РАЗВІТАННЕ З ЧАЛАВЕКАМ-ПТУШКАЙ

**З Італіі прыйшла сумная вестка — не стала Мікалая СЕЛЕШЧУКА**

У апошнія гады яго работы не часта можна было ўбачыць на нашых выстаўках. І гэта не дзіўна. Ён даўно перарос тутэйшыя меркі, па яго творах італьянцы, грэкі, югаславы, фіны адкрывалі для сябе краіну з дзівоснай назвай — Беларусь.

Магчыма, прафесіяналы будуць спрачацца аб вартасцях яго работ, аб яго месцы ў беларускім мастацтве, але бясспрэчна адно — нас пакінуў адзін з самых яркіх мастакоў.

Яго прыход у наша мастацтва ў канцы 70-х гадоў быў ашаламляльным, людзі пакідалі выстаўкі, дзе былі яго карціны, узрушанымі. Памятаю водгук з выстаўкі 1978 года: «Я шчаслівы, што жыву ў горадзе, дзе творыць гэты чалавек».

Я часта сустракаю здымак, дзе Селяшчук адлюстраваны разам з птушкай. Абое глядзяць кудысьці ўдалеч.

Нейкая філасофія ў вачах. Аб чым яны думалі? Мы ніколі ўжо аб гэтым не даведаемся.

Яны адляцелі.

**Алесь ТАРАНОВІЧ.**

## *XXXII СУСВЕТНАЯ ШАХМАТНАЯ АЛІМПІЯДА*

### АДПАЧЫНАК ПЕРАД ФІНІШНЫМ СПУРТАМ

Учора на ерэванскай шахматнай алімпіядзе быў выхадны, адпачынак перад заключнымі чатырма турамі турніру.

І мужчынская, і жаночая зборныя Беларусі прайшлі дзесяцітуравы адрэзак аднолькава, з вынікамі папярэдняй маскоўскай алімпіяды.

Нашы шахматысты разам з латышамі маюць 23 ачкі, займаючы месца ў другім дзесятку каманд. Наперадзе ж па-ранейшаму расіяне — 29 ачкоў. Са значным адставаннем ідуць украінцы — 25,5 ачка. Трэцяе месца з 25 баламі дзеляць каманды Венгрыі, Кітая і Узбекістана.

Нязначна змянілася турнірная раскладка ў жанчын. Украінкі ўступілі лідэрства грузінкам, на рахунку якіх 23 ачкі. Далей ідуць: Расія — 20 ачкоў, Ізраіль, Украіна, Англія — па 19,5. Беларускія шахматысткі набралі 16,5 ачка.

## *ФУТБОЛ. КУБАК КУБКАЎ*

### «ЛАКАМАТЫЎ» ПРАСКОЧЫЎ ХАРВАТЫЮ

Яшчэ адзін расійскі клуб прабіўся ў наступны этап еўракубкаў. Ім стаў сталічны «Лакаматыў», які ў 1/16 розыгрышу Кубка кубкаў па суме дзвюх сустрэч адолеў харвацкі «Вартэкс»: дома — 1:0, у гасцях — 1:2. Мяч, забіты на выездзе, стаў для чыгуначнікаў «залатым».

Выбыў з далейшай барацьбы і ісландскі «Рэйк'явік», які ў папярэднім туры стаў перашкодай для мазырскага МВКЦ. Ісландскія «Вікінгі» процістаялі шведскаму АІКу. І трымаліся нядрэнна, асабліва ў гасцях, аб чым сведчыць лік 1:1. Праўда, дамашні пройгрыш 0:1 перакрэсліў усе планы астравіцян.

Вынікі астатніх сустрэч:

Ніва (Украіна)—Сьён (Швейцарыя) — 0:4 (0:2, ПСВ (Галандыя)—Дынама (Батумі) — 3:0 (1:1), Галатасарай (Турцыя)—Канструктарул (Малдавія) — 4:0 (0:0), Рух (Польшча)—Бенфіка (Партугалія) — 0:0 (1:5), Хемлон (Славакія)—АЕК (Грэцыя) — 1:2 (0:1), Спарта (Чэхія)—Штур (Аўстрыя) — 1:1 (2:2), Бран (Нарвегія)—Серкль (Бельгія) — 4:0 (2:3). Фіярэнціна (Італія)—Глорыя (Румынія) — 1:0 (1:1), Гонвед (Венгрыя)—НІМ (Францыя) — 1:2 (1:3), АЕК (Кіпр)—Барселона (Іспанія) — 0:0 (0:2), Пары Сен-Жэрмен (Францыя)—Вадуц (Ліхтэнштэйн) — 3:0 (4:0), Ліверпуль (Англія)—МюПа (Фінляндыя) — 3:1 (1:0), Црвена Звезда (Югаславія)—Кайзерсладтэрн (Германія) — 4:0 (0:1), Алімпія (Славенія)—Орхус (Данія) — 0:0 (1:1).

Учора ў Жэневе прайшла жараб'ёўка каманд розыгрышу Кубка УЕФА і Кубка кубкаў.

**Уладзімір ЗДАНОВІЧ.**

**Ніл ГІЛЕВІЧ**

# НОВЫЯ ВЕРШЫ

### Сябры мае...

Сябры мае, — любога ўзросту,
Любых заслуг, любых рэклам!
Я вам нікому не зайздрошчу.
Я толькі радуюся вам.

Калі ж было — зайздросціў трохі,
Дык толькі тым, хто больш, чым я,
У майскіх зараслях чаромхі
Начамі слухаў салаўя.

### Рэмінісцэнцыя з цытатай

Колькі музыкі сягоння
Па краіне ўсёй гучыць!
Скрыпак, флейтаў, саксафонаў
І трохрадак — не злічыць!

Ды не ў залах тых, дзе подых
Блізкай славы хмеліць кроў,
А ў падземных пераходах,
Пад скляпеннямі муроў.

Стынуць полькі, мерзнуць вальсы
На сіберным скразняку,
І так шчыра тужаць пальцы
Па гарачым праснаку.

Той не будзе граць няшчыра,
Хто на хлеб рашыў сабраць.
Стану слухаць — немагчыма
Боль і жаль і гнеў суняць.

Як пісаў збалелым сэрцам
Колісь Колас малады:
«Уцякаў бы, бег, здаецца,
Сам не ведаеш куды»

### Беларускі сюжэт

«Тут сама зямля такая!» —
Гаварылі нездарма:
Лезе мова, прэ, жывая —
І сканчэння ёй няма!

Раскумекала шалава,
Пенкі прагнучы знімаць:
Найрэнтабельная справа —
Супраць мовы ваяваць.

Глушыць, глушыць — не заглушыць
Ні дзядоўнік, ні асот.
Душыць, душыць — не задушыць
Ашалелы, хіжы зброд.

І ваюе! І запасам
Набівае свіран-клець...
А народ... народ тым часам
Смокча лапу, як мядзведзь.

### Дзе вы?

— Дзе вы? Што робіце вы, Беларусі сыны?
— П'ём, залажыўшы сумленне ў ламбард Сатаны.

— А ці яшчэ вы не ўсё, што ільга, прапілі?
— Не! Дапіваем яшчэ. Вось — ізноў налілі.

— Дзіўна! Па-мойму, вы ўсё прасцулячылі ўжо!
— Не! У запасе — барыш ад прадажы крыжоў.

— Тых, што на храмах? Што нам сцерагуць небасхіл?
— Тыя пасля. Напачатку — з дзядоўскіх магіл.

***Звяздоўцы шчыра віншуюць паэта, вучонага, грамадскага дзеяча Беларусі Ніла Гілевіча з 65-годдзем!***

***Плёну і натхнення Вам у творчасці, здароўя і душэўнай раўнавагі.***

## ВІНШАВАННІ

*Віншуем з 18-годдзем **Галю Валасюк** з в. Юзыфіны. Жадаем сямейнага шчасця, здароўя, сонечных дзён, кахання.*

**Вядліцкія.**

*Сардэчна віншую з днём нараджэння **Ларысу Круповіч** з г. Смаргоні. Жадаю моцнага здароўя, шчасця, доўгіх гадоў жыцця.*

**Круковіч, г. Ліда.**

*Сардэчна віншуем з днём нараджэння **Кірыла Клімава,** вучня Бабровіцкай сярэдняй школы. Жадаем яму здароўя, шчасця, поспехаў у вучобе.*

**Ігар, Алена Серафімовічы, г. Калінкавічы.**

*Віншуем са шлюбам **Клімовічаў Юрыя і Таццяну.** Жадаем доўгага і шчаслівага сумеснага жыцця.*

**Калектыў АСПМК-1, г. Стоўбцы.**

*Шчыра віншую **сям'ю Давідовічаў: Ігара, Таццяну і іх маці Марыю Сяргееўну** з Днём настаўніка.*

**г. Баранавічы, Яўген Лімант.**

*Віншуем з юбілеем дарагую і любую **Любоў Фёдараўну Куіс.** Жадаем моцнага здароўя, шчасця, усіх даброт.*

**Муж, дзеці, унукі, дзед, в. Гошчава.**

*Горача віншуем з днём вяселля **Асцюкевічаў Уладзіміра і Алену.** Жадаем шчасця, здароўя, зычым ладу і дабрабыту ў жыцці.*

**Сем'і Давыдзікаў і Цімашчукоў з г. Масты.**

***Наталлю Палтаўцаву** з Верхнядзвінска віншуем з юбілеем! Жадаем, каб беды абыходзілі бокам, а слёзы былі толькі ад шчасця. Вялікай любові табе, ладу ў сям'і і моцнага здароўя.*

**Жанна і Алёна Пацеенак.**

*Сардэчна віншуем **Вячаслава Аляксеевіча Хахлова** з 50-годдзем з дня нараджэння. Жадаем моцнага здароўя, шчасця, новых творчых поспехаў.*

**Калектыў СЗАТ «Белкаско».**

## СЁННЯ

### СОНЦА

| | Усход | Захад | Даўжыня дня |
|---|---|---|---|
| Мінск – | 7.05 | 18.55 | 11.50 |
| Віцебск – | 6.55 | 18.45 | 11.50 |
| Магілёў – | 6.54 | 18.45 | 11.51 |
| Гомель – | 6.53 | 18.40 | 11.47 |
| Гродна – | 7.22 | 19.08 | 11.46 |
| Брэст – | 7.20 | 19.12 | 11.52 |

### МЕСЯЦ

Поўня 27 верасня

### ІМЯНІНЫ

Пр. Нікіты, Максіма, Іосіфа

К. Вацлава-мучаніка, Дымона

### НАДВОР'Е

Сёння ўдзень па рэспубліцы захаваецца воблачнае з праясненнямі надвор'е, пераважна без ападкаў. Раніцай месцамі туман. Тэмпература паветра ў Віцебску, Магілёве — 8—10, Мінску, Гродне, Гомелі — 9—11, Брэсце — 10—12 градусаў.

У наступныя двое сутак: 29-га ўначы — па захаду кароткачасовыя дажджы; 30-га ўначы — у паўночназаходніх, а ўдзень — і ў цэнтральных раёнах дажджы. Тэмпература ўначы па ўсходняй палавіне 0—3, удзень — 7—12; па заходняй уначы — 2—7, удзень — 10—15 градусаў цяпла.

*АНТАЛОГІЯ БЕЛАРУСКАЙ ПЕСНІ*

# ШЛЯХ ДА БЕЛАРУСІ

Песня «Шлях да Беларусі» — музычная ілюстрацыя часу, перапоўненага супярэчнасцямі, дзівосны малюнак беларускага шляху. Кампазітар магутна, размашыста, лёгка спалучыў мелодыі краю, вытанчанасць асабістых перажыванняў з паэтычным тэкстам.

Верш Ніла Гілевіча — лагічнае прадаўжэнне звароту-запыту «А хто там ідзе, а хто там ідзе?..», што прагучаў на пачатку стагоддзя. Гімнам-заклікам панеслася з таго часу над беларускімі абшарамі выказванне «А чаго ж, чаго ж захацелася ім... Людзьмі звацца!». І насельнікі краю абуджаліся.

Але выпаў шлях няпросты і нялёгкі. Да гэтага часу «равуць вятры, грымяць грамы, пыл засціць вочы...» Аднак людзі настойліва рушаць наперад, прагнуць трапіць у запаветны край, што ласкава завуць Беларуссю. Там — вераць яны — уладарыць паразуменне, усе імкнуцца жыць у любові і згодзе, там льецца мелодыя, гучыць мова, народжаная нябёсамі і роднымі краявідамі, там...

Не рытарычныя пытанні пастаўлены ў вершы. Гэта боль пісьменніцкага сэрца прабіўся словам, пытаннем, глыбока драматычным перажываннем поўняцца радкі — і яны па-мастацку выразна ўвасобіліся ў музыцы Мікалая Сацуры, пранікнёным выкананні Анатоля Ярмоленкі і ансамбля «Сябры».

**Міхась ШАВЫРКІН.**

*ВЕРШ Ніла ГІЛЕВІЧА*
*МУЗЫКА Мікалая САЦУРЫ*

За векам век плыве-цячэ,
А мы ідзем, ідзем... і што ж?
О як далёка нам яшчэ
Да Беларусі!

Ужо няўсцерп нам крыж пакут,
І мы крычым, крычым, але —
Не дакрычаліся пакуль
Да Беларусі.

А можа быць, яна — міраж,
І ўсе мы трызнім? Бо чаму,
Не далятае голас наш
Да Беларусі?

Відаць пракляцця знак ляжыць
На нас ад роду, і таму
Так цяжка шлях нам церабіць
Да Беларусі.

Равуць вятры, грымяць грамы,
Пыл засціць вочы нам, і ўсё ж,
І ўсё ж мы дойдзем, дойдзем мы
Да Беларусі!..



## КРЫЖАВАНКА



**Па гарызанталях:** 5. Бачнае змяненне становішча нябеснага свяціла з прычыны перамяшчэння назіральніка. 6. Невялікая дэкаратыўная пабудова для адпачынку. 9. Буйнейшая ў Еўропе група народаў, аб'яднаная агульнасцю паходжання і роднасцю моваў. 10. Парадак дня, пытанні, вынесеныя на сход. 12. Вялікае возера ў Казахстане. 13. Выбуховае рэчыва. 14. Задыякальнае сузор'е. 15. Момант знікнення нябеснага цела за гарызонт. 18. Абавязковы рыштунак кінатэатра. 19. Адзін з асноўных жанраў літаратуры. 20. Персанаж аповесці Б. Васільева «А зоры тут ціхія...» 23. Разведка мясцовасці і размяшчэння сіл ворага ў раёне баявых дзеянняў. 26. Прыправа да ежы. 27. Зорка ў сузор'і Вялікай Мядзведзіцы. 29. Савецкі астраном, які вывучаў планету Марс. 31. Краіна ва Усходняй Азіі. 33. Партовы горад у Турцыі. 34. Гідратэхнічнае збудаванне для аховы акваторыі парта, прычалаў. 35. Даліна ў Арменіі. 36. Спосаб маскіроўкі. 37. Электрамеханічны гукасігнальны прыбор. 38. Арганізацыя па абслугоўванню замежных турыстаў. 39. Камплект прадметаў пэўнага прызначэння.

**Па вертыкалях:** 1. Ісламская рэспубліка ў Азіі. 2. Вяленая на сонцы рыба ў народаў Далёкага Усходу. 3. Апрацоўка глебы пад сады, гадавальнікі. 4. Частка дывана, ложка. 5. Думка, якая супярэчыць агульнапрызнаным поглядам, разумнаму сэнсу. 7. Транспартны сродак для руху па снезе. 8. Утойванне светлавыкрываючых прызнакаў пры размяшчэнні войска. 9. Характар, вобраз думак, паводзінаў. 11. Пляцоўка для апрацоўкі ўраджаю збожжавых культур. 12. Спартыўная камандная гульня з мячом. 15. Частка тэрыторыі Прыпяцкага Палесся. 16. Частка марскога якара. 17. Гвалтоўнае далучэнне чужой тэрыторыі да сваёй краіны. 21. Умоўная назва аперацыі партызан па вывадзу са строю чыгуначных камунікацый ворага ў часы мінулай вайны. 22. Сфера тавараабароту. 24. Сорт капусты. 25. Цеплаабменнік. 28. Маштабны празаічны твор. 29. Паўпразрыстая пластмаса з цэлюлозы. 30. Аповесць В. Быкава. 32. Моцны напой з цукровага трыснягу. 36. Народны ансамбль танца на Віцебшчыне.

**Склаў Валерый ПІНЧУК.**

*г. Бабруйск.*

## НА ЯКІХ ІНСТРУМЕНТАХ ІГРАЛІ Ў «КВАРТЭЦЕ»?

«Свавольніца Мартышка, Асёл, Казёл ды касалапы Мішка зацеялі сыграць квартэт...» Памятаеце гэтую славутую байку І. А. Крылова?

Паспрабуйце «вылічыць», на якім канкрэтна інструменце іграў кожны персанаж гэтай байкі. А потым праверце сябе па арыгіналу.

## КРЫПТАГРАМА

Карыстаючыся ключавымі словамі, прачытайце ў клетках малюнка, рухаючыся па акружнасці, вядомую прымаўку.

а) 1-2-3-4-5-4-6-7 — жывёліна, здольная мяняць сваю афарбоўку; б) 8-9-10-11-2 — рот у птушкі; в) 12-13-14-6 — прадукт птушкагадоўлі; г) 8-15-16 — абліванне цела тонкімі струменямі вады.

**Склаў Мікола ВОРЧЫК.**

*Лагойскі раён.*

## ПРАВЕРЦЕ, КАЛІ ЛАСКА, АДКАЗЫ

**Крыжаванка-пераклад (21 верасня). Па гарызанталях:** 1. Секущая. 2. Лоток. 8. Ворон. 9. Осмолка. 10. Раскат. 11. Стекло. 12. Баня. 13. Узда. 17. Долото. 19. Прогиб. 22. Комната. 23. Повод. 24. Рвань. 25. Овчарня. **Па вертыкалях:** 1. Север. 2. Керосин. 3. Щённая. 4. Явор. 5. Ломоть. 6. Талик. 7. Красота. 12. Бедокур. 14. Заговор. 15. Утварь. 16. Трепач. 18. Лампа. 20. Бадья. 21. Сало.

**Галаваломка (21 верасня).** Літары падстаўляюцца «па ранжыру» — самая высокая, потым усё меней і меней. Зашыфраваныя словы такія: «Шануй гонар замалада».

**Крыптаграма (21 верасня).** Ключавыя словы ў ёй такія: цюлень, балід, стронга. А прымаўка (са зборніка народнага фальклору) такая: «Бог сірот любіць, але долі не дае».

## УСХОДНІ ГАРАСКОП

КАЗЯРОГУ трэба будзе вярнуцца да незаслужана забытага старога. Напрыклад, аднавіць выкананне спыненага праекта і атрымаць ад яго завяршэння нядрэнную выгаду. Моцнае фінансавае становішча дасць вам магчымасць рабіць цікавыя падарожжы, і не толькі па роднай краіне.

ВАДАЛЕЯМ зоркі раяць не згубіць на жыццёвым шляху аптымізм і энтузіязм. Усё гэта спатрэбіцца для перадолення складаных перашкод на рабоце. Серада і субота — найлепшыя дні для вашай паспяховай дзейнасці. У асабістым жыцці вас чакаюць прыемныя падзеі, магчыма, новыя рамантычныя прыгоды, якія вас не расчаруюць.

РЫБЫ выплываюць у паласу поспехаў і дасягненняў. Збудуцца вашы мары аб павышэнні па службе, што надасць сіл і бадзёрасці. Забудзьце аб адпачынку і бярыцеся за вырашэнне фінансавых спраў прама ў суботу. Ваш сямейны ачаг разгарыцца ярчэй — зоркі гэтаму спрыяюць.

АВЕНЫ паспяхова вырашаць узнікшыя на рабоце праблемы. Перастане перашкаджаць той, хто крыўдзіў вас на службе. Збудуцца мары тых, хто думаў аб пераводзе на новае месца. Не такім радасным акажацца асабістае жыццё. Там пакуль зоркі бачаць у вас праблемы.

ЦЯЛЬЦЫ ўступаюць у этап стабільнасці. Але ў рабоце не будзе навізны, хоць паявіцца магчымасць без шкоды для спраў больш часу праводзіць дома. Асабістае жыццё будзе радаваць сваёй бязвоблачнасцю, і нават у сямейных акажацца менш праблем, чым раней.

БЛІЗНЯТЫ будуць заняты ўласным здароўем і падтрыманнем добрай рабочай формы. Гэтаму не перашкода рамантычныя захапленні, на якія планеты прадастаўляюць вам поўны картбланш. Знойдзецца час таксама і для знаёмства з уплывовай асобай, у якой ёсць усе магчымасці паспрыяць вашаму бізнесу.

РАКУ, як заўсёды, давядзецца шмат працаваць і клапаціцца аб сваёй кар'еры. Не за гарамі ў некаторых з вас перспектыва змяніць месца прыкладання сіл і нават жыхарства. Рыхтуйцеся да гэтага і не забывайце аб фінансах. Каб яны не ўбывалі, укладзіце іх у нерухомасць.

ІЛЬВУ трэба назапасіць пабольш грошай, каб, не баючыся за заўтрашні дзень, кідацца ў незапланаваныя расходы. Яны могуць з'явіцца, як, зрэшты, і дадатковыя даходы. Гэта ўраўнаважыць ваша фінансавае становішча, што зусім нядрэнна перад маючай адбыцца паездкай за рубеж.

ДЗЕВА развітаецца з няпэўнасцю на рабоце. Паявіцца доўгачаканая магчымасць рабіць усё па-свойму. Незалежна ад акалічнасцей будуць расці вашы асабістыя зберажэнні. Дома будуць панаваць парадак, цішыня і гармонія.

ШАЛЯМ зоркі гарантуюць павелічэнне даходаў і павышэнне па службе. Чакаецца атрыманне значнай сумы з нечаканай крыніцы, якой трэба будзе правільна распарадзіцца. Удала ўкласці грошы можна будзе ў аўторак і ў суботу.

У СКАРПІЁНА работа заслоніць усё астатняе. Можна будзе дасягнуць пастаўленай мэты, толькі прыклаўшы для гэтага ўсе намаганні. Хоць фінансавыя дывідэнды акажуцца пры гэтым не з вялікіх, вас будуць больш паважаць і да вас прыслухоўвацца акружаючыя.

СТРАЛЕЦ будзе задаволены рознымі бакамі жыцця — і фінансавым, і асабістым. Аптымізм і вера ў поспех не пакінуць вас у любых пачынаннях. Падтрымка збоку — гарантавана. Атмасфера дома будзе цёплай і святочнай.

**Леанід КОТАЎ,**
**кар. ІТАР-ТАСС,**

*г. Дэлі.*



## ТЭЛЕБАЧАННЕ, 28 верасня

**Беларускае тэлебачанне**

**9.05** Існасць. Духоўная праграма. **9.35** Здароўе. Прафілактыка астэахандрозу і радыкуліту. **10.10** Урокі Наталлі Наважылавай. **10.40** «Усё пра ўсё». Інфармацыйна-пазнавальная праграма. **11.05** «Ералаш». **11.25** Творцы. Кампазітар Дзмітрый Шастаковіч. **12.10** «Ліловы шар». Маст. фільм. **13.25** Шматгалоссе. Народы Беларусі: гісторыя, культура, быт. **13.55** Калаж. Праграма для дзелавых людзей. **14.30** Еўрапейская дваццатка. Музычная праграма MTV. **15.15** Свет прыроды і захапленняў. **15.55** Майстэрня. Пісьменнік Уладзімір Юрэвіч. **16.25** Прэм'ер-кіно. **17.15** Чацвёртае вымярэнне. Новыя распрацоўкі Інстытута фотабіялогіі Акадэміі навук Беларусі. **17.50** «Я люблю джаз». Канцэрт з удзелам піяніста Ігара Брыля (Масква). **18.30** Галерэя. Народны артыст СССР Расціслаў Янкоўскі. Аўтарская праграма Таццяны Ягоравай. **19.05** Рэтраспектыва фільмаў кінарэжысёра В. Турава. «Я родам з дзяцінства». Маст. фільм. **20.40** Калыханка. **21.00** Навіны. **21.45** Музычны антракт. **21.55** «Доўгага жыцця, сіньёры!» Маст. фільм (Італія). **23.45** Відзьманявідзьма.

**ГРТ**

**9.15** Не зявай! **9.45** Ранішняя пошта. **10.20** Смак. **10.45** Траццякоўка. Гісторыя аднаго шэдэўра. **11.10** Разумнікі і разумніцы. **11.55** Поры года. «Восень». **13.25** Відавочнае-неверагоднае. **14.00** Навіны. **14.20** Серыял «Вяртанне на востраў скарбаў». 4-я серыя. **15.15** Акно ў Еўропу. **15.40** У свеце жывёлы. **16.20** Леанід Якубовіч у тэлегульні «Кола гісторыі». **17.00** Навіны. **17.20** «Ералаш». **17.30** Поры года. «Асенні марафон». Фільм Георгія Данеліі. **19.15** «Дваццаць восем хвілін пра каханне». Неюбілейны Гердт. **19.45** Добрай ночы, малышы! **20.00** Час. **20.35** Праграма перадач. **20.40** Серыял «В'етнам. Да запатрабавання». **21.40** «Майстар-раллі-96». Парыж—Масква—Байканур—Улан-Батар. **21.55** Брэйн рынг. **22.45** Поры года. «Асенняя саната».

**Расія**

**7.00** Лукамор'е. Праграма для дзяцей. **7.30** «Маўглі». Мультсерыял. **7.50** «Мак і Матлі». Серыял. **8.15** «Матч-рэванш». Мультфільм. **8.35** Па вашых пісьмах. **9.00** Тавары — поштай. **9.15** «Стары збан». Мультфільм. **9.30** Ваша права. **10.00** Весткі ў адзінаццаць. **10.15** Экспартлес. **10.30** Добрай раніцы. **10.55** 21 кабінет. **11.25** Ананімныя субяседнікі. **11.50** «Як цудоўна свеціць сёння месяц». Мультфільм. **12.00** «Паэт у Расіі — больш, чым паэт». **12.25** Прасцей простага. **13.00, 19.00, 23.40** Весткі. **13.20** «Сафі». Маст. фільм (Данія). 1-я серыя. **14.15** Нічога, акрамя... **14.30** Дэ-факта. **14.55** Спяваюць драматычныя артысты. **15.20** Свая гульня. **15.55** Футбол. ЦСКА — «Зеніт» (Санкт-Пецярбург). У перапынку — мультфільм. **18.00** «Каралева Марго». Маст. фільм. 7-я серыя. **19.35** Суботні вечар у стылі «джаз». **21.00** Надвор'е. **21.05** Двайны партрэт. **21.55** «Боб Робертс». Маст. фільм (ЗША). **23.55—0.45** Праграма «А».



ЗАСНАВАЛЬНІКІ:
Вярхоўны Савет Рэспублікі Беларусь, Кабінет Міністраў Рэспублікі Беларусь, калектыў рэдакцыі газеты «Звязда».

Першы намеснік галоўнага рэдактара М. МІХАЕВІЧ.
Рэдакцыйная калегія: У. АНДРЫЕВІЧ (намеснік галоўнага рэдактара), І. БАРАНОЎСКІ, У. ГОЙТАН, В. ЖДАНКО, Л. ЛАХМАНЕНКА, А. МЯСНІКОЎ, Л. РЫЖАНКОВА (намеснік галоўнага рэдактара), С. ШАЎЦОЎ.

Рэгістрацыйны нумар 1.

*НАШ АДРАС: 220013, гор. Мінск, вуліца Б. Хмяльніцкага, 10-а, рэдакцыя газеты «Звязда».*
*ТЭЛЕФОНЫ: прыёмнай — 68-29-19; намеснікаў галоўнага рэдактара — 32-44-12, 32-14-25, 32-35-05; аддзелаў: інфармацыйна-аналітычнага — 32-38-02, 68-28-14, 68-29-68, эканомікі — 32-31-21, 68-29-68, палітыкі — 68-27-57, 68-28-64, культуры — 68-29-42, 68-28-27, пісьмаў — 68-27-47, маралі і права — 68-28-51, міжнацыянальных адносінаў — 68-27-40, 68-28-69, журналісцкіх расследаванняў — 68-28-38, 68-28-72, беларускай дыяспары — 68-28-27, знешнеэканамічнай дзейнасці — 68-29-44; аглядальнікаў па праблемах: навукі і адукацыі — 68-28-31, экалогіі і ліквідацыі вынікаў Чарнобыля — 68-28-36; уласных карэспандэнтаў: у Гродне — 33-25-29, Гомелі — 53-13-92, Баранавічах — 7-26-02, Паставах — 22-400, Маскве — 365-16-44; бухгалтэрыі — 32-22-03; даведкі па рэкламе і аб'явах — 32-31-98. ФАКС: 32-04-52, 68-28-77. E-mail: daily@zwyazda.belpak.minsk.by*



Друкарня выдавецтва «Беларускі Дом друку». Мінск, праспект Ф. Скарыны, 79.
Тыраж 91852. Індэкс 63850.
Зак. № 6.
Выходзіць 250 разоў на год.
Нумар падпісаны ў 20.15.
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12